Под редакцией О. Шпараги, А. Смоленчука

# БЕЛАРУСЬ В ЕВРОПЕЙСКОМ КОНТЕКСТЕ:
## актуальные дискуссии о нациостроительстве

# БЕЛАРУСЬ У ЕЎРАПЕЙСКІМ КАНТЭКСЦЕ:
## актуальныя дыскусіі пра нацыябудаўніцтва

Вильнюс
ЕГУ
2014
ISBN 978-9955-773-68-9 (online)

УДК 316.4:323.1(476)
ББК 66.5(4Беи)
Б43

Серия «Европейские исследования» основана в 2011 г.
Основатель серии *А. Адамянц*

Под редакцией *О. Шпараги, А. Смоленчука*



Б43 **Беларусь в европейском контексте :** актуальные дискуссии о нациостроительстве. – Вильнюс : ЕГУ, 2014. – 195 с.

ISBN 978-9955-773-68-9 (online)

В сборнике собраны тексты участников Летней школы для молодых исследователей и преподавателей в сфере гуманитарных и социальных наук на тему «Беларусь в европейском контексте: актуальные дискуссии о нациостроительстве», которая была организована ЕГУ в Кернаве (Литва) в 2010 году. Нациостроительство рассматривается в нем сквозь призму анализа столкновения различных исторических и интеллектуальных дискурсов, способов конструирования коллективных идентичностей и их репрезентаций, а также властных и медийных стратегий, имеющих свое влияние на общество, образование и культурные процессы в Беларуси. Книга объединяет тексты молодых философов, историков, политологов, культурологов и теоретиков медиа, живущих и работающих в Беларуси и за ее пределами. Открывают книгу текст беларусского философа Валентина Акудовича, представленный им на школе в виде доклада.

**УДК 316.4:323.1(476)**
**ББК 66.5(4Беи)**

**ISBN 978-9955-773-68-9 (online)**

# Содержание

# Введение

Вопрос о генезисе, судьбе и путях нациостроительства в Беларуси обрел новую актуальность после распада СССР. Каким может быть (возможно ли) нациостроительство в постнациональную эпоху и эпоху глобализации? Как связаны процессы нациостроительства и демократизации на постсоветском пространстве и в Беларуси? Какие акторы являются движущей силой нациостроительства сегодня?

Современные исследователи данной проблематики исходят из того, что рассмотрение ситуации в Беларуси едва ли может быть продуктивным без обращения к политическим, социальным и культурным процессам, происходившим или происходящим в европейских (со)обществах XIX–начала XXI вв. Подобная установка обусловлена не только собственной национально-культурной традицией Беларуси и ее связью с европейской историей, но и тем фактом, что сегодня, благодаря процессам евроинтеграции, мы становимся непосредственными участниками и свидетелями трансформации модерных образцов национализма в Европе.

Немаловажной для процессов нациостроительства в европейских странах была деятельность гуманитариев и интеллектуалов, которая способствовала не только возникновению новых идей и теорий, но и их продвижению в сфере образования, гражданского общества и политики. Однако в Беларуси нациостроительство, как, впрочем, и многие другие важные темы и проблемы, все еще испытывает дефицит в концептуальном осмыслении. Именно это и послужило главным мотивом для проведения в августе 2010 г. в литовском городе Кернаве Летней школы для молодых исследователей и преподавателей в сфере гуманитарных и социальных наук на тему «Беларусь в европейском контексте: актуальные дискуссии о нациостроительстве».

Организаторами школы стали Институт исторических исследований Беларуси и Департамент философии Европейского гуманитарного университета. Школа носила междисциплинарный характер, а в качестве ее лекторов выступили беларусские[1] философы и историки (в то числе приехавшие из Польши): Валентин Акудович и Игорь Бобков, Олег Латышонок и Евгений Миронович, Валер Булгаков, Захар Шибеко, Сергей Токть, Алесь Смоленчук, Татьяна

[1] В транскрипции автора (*прим. ред.*).

Щитцова и Ольга Шпарага. Участниками школы стали молодые исследователи беларусского нациостроительства и связанных с ним тем и проблем из Беларуси, Латвии и России (а также беларусы, проживающие сегодня в США, Чехии и Польше), тексты которых и составили эту книгу.

В ходе работы школы были представлены исторические и социально-теоретические подходы к анализу проблематики беларусского нациостроительства в европейском контексте. Исторические экскурсы, посвященные специфике национальных процессов в Беларуси, сопровождались анализом процессов глобализации и поиска новых ценностных ориентиров в современной Европе. Школа охватывала следующие тематические направления:

– Беларусское нациостроительство и идея Европы;

– Проблема генезиса нациостроительства и современные теории нациостроительства;

– Беларусская идентичность: история и память;

– Беларусь в поисках национальной идеи: этнокультурный, гражданский, космополитический национализмы;

– Пути нациостроительства в Беларуси: роль городской и деревенской социальных групп;

– Национализм, европеизация, демократизация.

Собранные в этой книге тексты разнятся по своему жанру: кто-то из молодых авторов представил строгое академическое исследование, кто-то же – чуть более вольное эссе. (*Статьи сборника публикуются в авторской редакции.*) Также разнообразны и темы исследований, которые, тем не менее, удалось объединить в рамках нескольких блоков, позволяющих представить актуальные исследования беларусского нациостроительства сразу в нескольких срезах.

Авторы первого блока, А. Ластовский и И. Новик, обозначенного как «**История и власть**», рассматривают нациостроительство через взаимосвязь и взаимообусловленность исторического знания и властных стратегий.

В рамках второго блока «**Современность и идеология**» предлагаются как различные версии понимания современности (О. Давыдик), так и анализ взаимосвязи идеологии и образовательной сферы (Т. Островская), а также официального политического дискурса и понимания коллективной идентичности в Беларуси (Ю. Сальникова, С. Дениса-Лиепниеце).

Тексты авторов третьего блока «**Способы конструирования идентичностей: между историей и политикой**» (А. Тихомиров, Д. Кузьма, А. Дзермант и А. Василевич) позволяют поместить беларусское нациостроительство в более широкий – как временной,

так и географический и политический – контекст, в котором конструирование беларусской идентичности наполняется новым содержанием.

Наконец, авторы заключительного, четвертого раздела книги **«Диаспора, меньшинства, Другие»** (Н. Палеева, А. Буча и К. Костян) обращаются из беларусской перспективы к важнейшей на сегодняшней день в европейском пространстве проблеме исключения и друговости, рассмотрение которой позволяет говорить о внутренних и внешних противоречиях и границах современного строительства наций.

Мы также очень рады тому, что издание открывается специально подготовленным для нее текстом беларусского философа Валентина Акудовича, который, несмотря на свое пессимистическое название, вне всякого сомнения, служит в качестве продуктивной провокации к дальнейшим исследованиям тех тем, проблем и вопросов, которые поднимаются в этом сборнике.

*Ольга Шпарага*

# Нацыянальны канон:
## партытура для рэквіўма

Валянцін Акудовіч (Мінск)

### У пошуках нацыянальнай айкумены

Як добра вядома, нават у тэарэтычным дыскурсе не існуе нейкай універсальнай канцэпцыі нацыянальнай ідэі. У кожным апрычоным выпадку нацынальнай становіцца тая ідэя, якая найбольш поўна адпавядае запатрабаванням і магчымасцям кожнай канкрэтнай супольнасці на стадыі яе нацыябудаўніцтва. (Натуральна, тут сваю ролю таксама адыгрываюць эпоха, геапалітычны кантэкст, рэлігійныя дамінацыі і шмат чаго яшчэ...)

Да прыкладу шматварыянтнай асновы кожнага нацыябудаўніцтва згадаем хаця б два гістарычных сюжэта. “У 1848 г. у немцаў усё яшчэ будуць існаваць супрацілеглыя погляды на тое, што такое Германія. <...> Пералік розных мадэляў Германіі <...> карысны напамін аб тым, што немецкая нацыя, якую ў розных даўнейшых тэорыях называлі «гістарычнай», гэта значыць ад веку запачаткаванай як нацыя, пры пераходзе да эпохі нацыяналізма зведала працэс фармавання, перафармавання і разбурэння. <...> Новая канцэпцыя адзінай аб’яднанай нацыянальнай дзяржавы была насамрэч рэвалюцыйнай, паколькі заклікала да разбурэння гістарычных дзяржаваў – такіх як Прусія, Баварыя, Саксонія ды інш.”. Гэта цытата з артыкула Рамана Шпарлюка[1]. Згадаем яшчэ адзін фрагмент з тэкста гэтага аўтара: “Не толькі немцы былі раздзеленыя і не вельмі ўяўлялі якой ёсць і тым болей якой павінна быць іх краіна. **Другія нацыі** (вылучана *В.А.*) сутыкнуліся з тымі ж праблемамі. Чэскі гісторык Іржы Коржалка <...> пісаў, што ў 1848 г. у чэхаў было не меньш як пяць канцэпцыяў свайго народа: аўстрыйская, пангерманская, славянская, багемская і ўласна чэшская”. Натуральна, у спіс “іншых нацыяў” трэба залічваць і беларусаў.

Расповед пра генезіс беларускай нацыі можна распачынаць хоць з моманту стварэння Свету, што навукова будзе не зусім карэктна, але з таго не менш слушна. Аднак мы абмяжуем сябе тым перыядам, калі этнонім “беларусы” атрымаў ужо досыць шырокі распаўсюд, а

---

[1] Гл.: Шпорлюк, Р. Формирование современной Украины: западное измерение // Перекрестки. 2006. № 1–2.

пасля “паўстання Каліноўскага”[2] прыдбаў сабе і значэнне “палітоніма”. Тут дарэчы будзе заўважыць, што “паўстанне Каліноўскага” было першым паўнавартасным палітычным актам, які засведчыў наяўнасць беларусаў ужо менавіта ў палітычным дыскурсе. І ў гэтым яго канцэптуальная адрознасць ад паўстання 1794 г., якое ачольваў *таксама беларус* Тадэвуш Касцюшка, але дзе нават напаміну пра беларускую нацыю яшчэ не было месца (зрэшты, як і пра польскую ці літоўскую), бо там змаганне вялося за незалежнасць польскай палітычнай нацыі, якая для насельнікаў нашых земляў выяўлялася ў формуле *gente Lithuani, natione Poloni* (роду літоўскага, нацыі польскай).

Між іншым, паміж “Вясной народаў” 1848 г., якая паклала пачатак многім еўрапейскім нацыяналізмам, і “паўстаннем Каліноўскага” прамінула ўсяго 15 год. Гэта значыць, што ў праекцыі на эпоху нацыяналізма беларусы палітычна засведчылі пра сябе амаль адначасна з многімі іншымі народамі Еўропы. Што праўда, гэта было відавочным запабяганнем далёка наперад адносна патэнцыялу тадышніх беларусаў як нацыі.

Болей таго, паўстанне 1863 г., якое заканчвалася неверагодна жорсткімі рэпрэсіямі царскіх уладаў, на дзесяцігоддзі запыніла працэсы нацыяўтварэння ў Беларусі. Дастаткова нагадаць, што расійская адміністрацыя 40 год пасля паўстання (да 1905 г.) забараняла друкаваць кніжкі па-беларуску, а выкладаць беларускую мову ў школах імперыя так і не дазволіла да свайго скону.

Мне здаецца, што часам мы недастаткова ўсведамляем, якія непапраўныя страты панеслі беларусы за гэты перыяд адносна перспектывы сваёй нацыянальнай будучыні. Без беларускай кнігі і беларускай адукацыі ў прынцыпе было немагчымым фармаванне нацыянальнай эліты. А без нацыянальнай эліты, у сваю чаргу, скуль магла ўзяцца паўнавартасная нацыя?

Таму выглядае досыць натуральным, што якраз у гэтую пару, калі беларусы як бы выпалі з часу, на месцы ўласнай нацыянальнай ідэі сфармаваўся яе падменнік, які атрымаў назву “заходнерусізм”. Цалкам закааптаваная ў расійскі палітычны і культурны канон ідэя “заходнерусізму” хаця і дэкларавала ўвагу да этнаграфічных адметнасцяў краю, але не зважала на беларусаў як на патэнцыйную нацыю.

Трохі пазней у радыкальную апазіцыю “заходнерусізму” (але з той жа падставы) паўстала ідэя краёвага нацыяналізму (сарматызму), якая па-свойму спрабавала актуалізаваць канцэпцыю палітычнай нацыі Рэчы Паспалітай, толькі цяпер у краёвым вымярэнні.

[2] Двукоссі тут падкрэсліваюць усю ўмоўнасць гэтага ўстойлівага словазлучэння (*заўвага аўт.*).

Сістэмныя і разгорнутыя пошукі ўжо ўласна беларускай нацыянальнай ідэі пачаліся адно пасля Расійскай рэвалюцыі 1905 г. Ці варта нават нагадваць, што выключную ролю ў гэтым адыгралі віленская газета "Наша Ніва" і тыя асяродкі, якія з'явіліся пад яе ўплывам. Тады і быў збольшага сфармаваны той нацыянальны канон, які без асаблівых трансфармацыяў пратрываў да канца XX ст. (а для многіх нацыянальна заангажаваных беларусаў ён у гэтым значэнні існуе і сёння). Вызначальную ролю ў яго палітычнай адаптацыі адыграў Антон Луцкевіч. Натуральна, склаўся гэты канон далёка не адразу. Варта хаця б згадаць, што Антон Луцкевіч, з ініцыятывы якога і была ў Мінску абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка, раней выступаў за стварэнне літоўска-беларускай дзяржавы (Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага) з соймам і сталіцай у Вільні.

Нецяжка заўважыць, што мадэль беларускай нацыянальнай ідэі была скапіявана (некрытычна) з тых варыянтаў, што трохі раней ужо прэзентавалі палякі, украінцы, чэхі, літоўцы... Гэта так званая этнакультурная (этналінгвістычная) мадэль, найбольш яскравы прыклад якой дэманстравала Нямеччына. Інакш кажучы, беларуская нацыянальная ідэя была кампіляцыяй экспартаваных знадворку нацыянальных досведаў. Што і зразумела. На тую пару тэарытычная база беларускага нацыяналізма была залішне слабой, каб эўрыстычна сфармаваць уласную візію нацыянальнай ідэі, а тым болей адэкватна заканцэптуалізаваць яе ў перспектыве палітычных ды сацыяльных практык. Адпаведна беларуская нацыянальная ідэя апынулася абстракцыяй, якая толькі ўмоўна суадносілася з рэальнымі запатрабаваннямі грамадства.

Звернем увагу хаця б на той факт, што 90% беларусаў былі тады вяскоўцамі (у сваёй пераважнай бальшыні неадукаванымі) і нацыянальная праблематыка для іх увогуле не выглядала запатрабаванай хоць з якога боку. Актуальным для іх было не нацыянальнае, а сацыяльнае (падвышэнне, а яшчэ лепей увогуле змена сацыяльнага статуса).

Другая выразная хіба гэтай мадэлі бачыцца ў тым, што яна была разлічаная на грамадства з больш-менш развітай нацыянальнай культурай, чаго беларусы на тую пару не маглі мець, паколькі імперыя заблакавала ўсе магчымасці паўставання нацыянальных элітаў, і яны яшчэ толькі пачыналі фармавацца. Не складана назваць і яшчэ цэлы шэраг праблемных пазіцыяў (хаця б адсутнасць *беларускага* горада), аднак мы да іх звернемся пазней...

Калі абрысы нацыянальнай ідэі збольшага абмаляваліся, надзённым сталася пытанне: у якім канстытуцыйным фармаце яна магла б быць рэалізаванай? Пра мадэрнізаваную канцэпцую ВКЛ

ужо казалі, але пазней больш перспектыўнай стала бачыцца аўтаномія (у лепшым варыянце – канфедэрацыя) у складзе Расіі ці Польшчы. Ідэя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі да рэвалюцыі 1917 г. у Расіі не выглядала рэальнай. Але з прычыны шэрагу геапалітычных катастрофаў, якраз яна перамагла, да таго ж у зусім нечаканым палітычным кантэксце – праз падтрымку Германіі.

У адрозненне ад стаўшай кананічнай беларускай нацыянальнай ідэі крыўская ідэя Вацлава Ластоўскага выглядала куды больш эўрыстычнай. Апазнаўшы напаўміфічных крывічоў як нашу вялікую протацывілізацыю, Ластоўскі праз мадэрнізацыю традыцыйнага культурнага канона ў нацыянальны мерыўся вярнуць патомкам крывічоў іх былую веліч і славу. Але палітычна і сацыяльна крыўская ідэя Ластоўскага выявілася абсалютна не інструментальнай і наўрад ці пры хоць якім раскладзе магла быць рэалізаванай на практыцы. Затое яна апынулася прывабнай культурна, што сталася прычынай расколу нацыянальнай інтэлігенцыі на "беларусаў" ды "крывічоў" у Заходняй Беларусі, а пазней і ў пасляваеннай эміграцыі. Больш за тое, у сучасным інтэлектуальным жыцці Беларусі "крыўства" застаецца заўважным і па-свойму актуальным дыскурсам.

У навуковых даследаваннях розных версій беларускай нацыянальнай ідэі звычайна застаецца па-за ўвагай суплёт канцэптаў, высверкнуўшых у бліскучым і насамрэч ужо інтэлектуальным эсэ Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) "Адвечным шляхам". Увогуле зразумела, чаму ў гэтым плане навукоўцы абмінаюць увагай Абдзіраловіча. Яго паэтычна-эмацыйны, спантанна-эўрыстычны і спрэс супярэчлівы сам у сабе тэкст здаецца не палягае хоць якой дасцыплінарнасці. Але, магчыма, ягоныя інтэлектуальныя ініцыятывы, фармальна ніяк не стасоўныя да хоць якіх сацыяльна-палітычных практык, з узгляду на перспектыву якраз і выяўлялі адэкватны ментальнасці беларусаў нацыянальны канон.

Ігнат Абдзіраловіч першым сярод беларусаў адмовіўся ад беларускай нацыянальнай ідэі, прапанаваўшы замяніць яе на канцэпт "адвечнага беларускага шляху". У іншай праекцыі замест ідэі, як пэўнай логацэнтрычнай формы, ён актуалізаваў "ліючуюся форму", што сёння сінанімічна блізка да панятку "дыскурса". Сацыяльна-эканамічную базу грамадства ён прапанаваў будаваць найперш звяртаючыся да ідэі кааперацыі. Да таго ж Абдзіраловіч своечасова папярэджваў беларусаў аб небяспецы месіянізму (кшталту расійскага ці польскага), праявы якога на тую пару ўжо былі заўважныя як у фундаменталісцкай тэорыі "крывічоў" В. Ластоўскага, так і ў канцэптуальных практыках "камуністычных" беларусаў, якія разам з іншымі савецкімі народамі рэальна рыхтаваліся да сусветнай рэвалюцыі...

Пасля набыцця ў 1991 г. Беларуссю незалежнасці адразу пачалася барацьба розных палітычных сілаў за гегемонію ўласнай візіі нацыянальнай ідэі. Публіцыстычна найбольш выразна іх кадыфікаваў Рыгор Іоффе ў артыкуле "Беларусь: дзяржава, але яшчэ не нацыя", надрукаваным у часопісе "Архэ". Паводле аўтара, у Беларусі міжсобку канкуравалі тры нацыянальныя праекты: "адраджэнска/еўрапейскі", "прамаскоўска/ліберальны" і праект А. Лукашэнка (крэольскі). Але, бадай, самае карыснае ў аналітыцы Іоффе не сістэматызацыя (відавочная па факту), а досыць дакладнае вызначэнне станоўчых і адмоўных бакоў кожнага з гэтых нацыянальных праектаў. А што да самой схемы, дык яна патрабуе як мінімум ускладнення, нават калі зважаць адно на палітычны (геапалітычны) ракурс. Прынамсі праект № 1 ("адраджэнска/еўрапейскі") мусі быць раскладзеным на два. Рэч у тым, што адэпты класічнага нацыянальнага канону (на мове Іоффе "адраджэнскага"), не адмаўляючыся ад сваёй еўрапейскай сутвы, усё болей адсланяюць сябе ад Еўропы як ад дыскурса, у якім каштоўнасці нацыі імкліва губляюць сваё сакральнае значэнне. У той жа час ужо ўласна праеўрапейскі нацыянальны праект гэтаксама імкліва ўзрастае ў сваім значэнні лікам тых, хто не мае асаблівых сантыментаў да нацыяналістычных прыярытэтаў (і рарытэтаў), але аддае перавагу еўрапейскаму геапалітычнаму кантэксту перад расійскім.

Асобнай гаворкі патрабуюць нацыянальныя ідэі (праекты), якія бадай не маюць шанцаў на палітычную рэалізацыю, але заўважна прэзентуюць сябе ў культурна-інтэлектуальным дыскурсе Беларусі. Тут я найперш маю на ўвазе "крывічоў", "балта-крываў", "краёўцаў" (сарматаў), "ліцвінаў" ("літвінаў"), "русінаў" (умоўная назва пэўнай плыні), "вялікалітоўцаў", "манархістаў" і г.д Толькі мы іх пакінем за абсягам нашай гаворкі. Мяне на гэты момант найбольш інтрыгуе аналітычная крытыка класічнага нацыянальнага канона (пачынаючы ад моманту яго паўставання), які пратрываў у ролі загалоўнага цягам лічы стагоддзя, але, выглядае, што так ужо ніколі і не зможа канцэптуальна рэалізавацца ў сваёй мэце.

## Класічны нацыянальны канон

Адразу заўважу, што мэта ў мяне зусім не герменеўтычная, а, як ні дзіўна, экзістэнцыйная. Мяне ўжо даўно, як персанальная вярэда, трывожыць здумленне: ці мела класічная нацыянальная ідэя, якую ў шараговым дыскурсе мы называем "Адраджэнскай", хаця б тэарэтычны патэнцыял быць рэалізававнай у сацыяльна-палітычнай рэальнасці XX ст., як і ўвогуле хоць калі-небудзь?

Вядома, сфармуляваўшы гэткім чынам праблему, я адразу патрапляю як мінімум у дзьве пасткі. Першая – гэта пастка ўмоўнага

ладу. Груба кажучы, калі цягам стагоддзя класічная нацыянальная ідэя ў самых розных гістарычных варунках рэалізавацца не змагла, дык што тут выдумляць, у якіх умовах яна магла гэта зрабіць? Другая пастка звязаная з вышэй згаданымі "гістарычнымі варункамі". Маўляў, сама задума была добрая, але дзьве сусветныя вайны, акупацыя Польшчай Заходняй Беларусі і акупацыя камуністычнай Расіяй Усходняй Беларусі, а затым і ўсёй Беларусі без астачы не дазволілі адбыцца гэтай цалкам прыдатнай стасоўна нашай краіны нацыянальнай ідэі. І што тут запярэчыш? У жыхароў Пампеі маглі быць самыя адэкватныя іх магчымаму будучаму канцэпцыі, але ўсе гэтыя канцэпцыі да таго ж разам з самімі жыхарамі ў адзін момант засыпаў попелам Везувій...

Карацей кажучы, ніводнай з гэтых пастак па азначэнню абмінуць немагчыма. Але я ўсё ж такі падступлюся да сваёй безнадзейнай справы. Бо гэта не зусім праўда, што гісторыя не мае ўмоўнага ладу. У пэўным сэнсе якраз працягласць гістарычнага часу і ёсць ім, бо некалі дазваляе выявіцца таму, што мела для гэтага патэнцыял, але раней не мела адпаведных яму абставінаў.

А за эпіграф да сваёй задачы згадаю сітуацыю з найноўшай палітычнай рэальнасці Беларусі. Неяк, калі Зянон Пазняк і Аляксандр Лукашэнка былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета і яшчэ не надта варагавалі міжсобку, пры чарговым абмеркаванні праграмы нацыянальнай ідэі, зачытанай Пазняком, Лукашэнка заявіў, што гэта выдатная праграма, але для яе рэалізацыі патрэбны зусім іншы народ.

Па сутнасці, тут я і хацеў бы зразумець: для якога народа піянеры беларускага Адраджэння выпрацавалі нацыянальны канон, які мусіў легчы ў аснову будучыні Беларусі? У мяне ёсць дастаткова сур'ёзных падставаў, каб думаць, што гэта быў не беларускі народ, прынамсі такі, якім ён быў тады.

Але перадусім некалькі агалоўных канстантаў гэтага канона:

1) геапалітычная: Беларусь у яе этнаграфічных межах;

2) культурная: дамінацыя беларускай мовы і культуры;

3) гістарычная: пераемнасць з Полацкім і затым Вялікім Княствам Літоўскім;

4) палітычная: нацыянал-дэмакратыя;

5) канстытуцыйная: незалежная Дзяржава.

Натуральна, суплёт гэтых канстантаў значна багацейшы (хаця б згадаем у дадатак рэлігійную, эканамічную, цывілізацыйную і г.д.), але мы гэтым разам абмяжуемся толькі вышэйазначанымі.

І яшчэ адно. Перад тым як падступіцца непасрэдна да аналізу, хацелася б нагадаць пра выключную ролю Францішка Багушэвіча ў фармаванні беларускага нацыянальнага канону. Прынамсі чатыры з гэтых пазіцый канцэптуальна пазначаныя ў прадмове да кнігі

“Дудка Беларуская”, што пад псеўданімам *Мацей Бурачок* была выдадзеная ў Кракаве ў 1891 г. А пятая – Беларуская Дзяржава – прысутнічае там латэнтна, як лагічны вынік чатырох папярэдніх. Перапіс 1897 г. сведчыць, што больш як за 8 тыс. жыхароў нашых земляў з інтэлігенцкімі прафесіямі назвалі сябе беларусамі. Цалкам верагодна, што ладная частка з іх сталася беларусамі якраз таму, што яны прачыталі кнігу Багушэвіча і далі яму веры.

## ***Геапалітычная*** **канстанта: Беларусь у яе этнаграфічных межах**

Тут перадусім хачу звярнуць увагу, як метадалагічна складана было вынайсці саму сістэму вымярэння тэрыторыі Беларусі. Згадаем, што ніколі ва ўсе папярэднія часы нашыя сённяшнія землі не мелі ўласных межаў. У прывіднай Крыўскай цывілізацыі, у Полацкім княстве, у ВКЛ, у Рэчы Паспалітай, у Расійскай імперыі землі Беларусі апрычона ніяк не канстытуяваліся, і таму больш-менш выразны русінскі (літвінскі) топас заўсёды быў аблямаваны спрэс размытымі перыферыямі. Беларускі нацыянальны рух мусі быць моцна ўдзячны расійскім этнографам, якія ў XIX ст. праз шэраг грунтоўных працаў вызналі беларусаў як апрычоную славянскую супольнасць і вызначылі межы іх рассялення.

Але ў геапалітычным сэнсе, бадай, найбольшае значэнне мелі этнаграфічныя карты, складзеныя на пачатку XX ст. Яўхімам Карскім, Мітрафанам Доўнар-Запольскім і Яўсеем Канчаром. Дзякуючы ім на гістарычным паседжанні Рады БНР 25 сакавіка 1918 г. Вацлаў Ластоўскі мог усклікнуць: “Жыве Беларусь у яе этнаграфічных межах”. А III Устаўная грамата Рады БНР палітычна канкрэтызуе гэты публіцыстычны тэзіс: “Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі”.

Тое, што была вынайдзеная сістэмна цэластная і фармальна пераканаўчая метадалогія вызначэння ўласных межаў, – гэта, безумоўна, было вялікай удачай. Але яе канцэптуальным недахопам было тое, што яна паходзіла з навуковага (этналінгвістычнага), а не палітычнага дыскурса. І як пакажуць далейшыя падзеі, на яе этналінгвістычную, самой прыродай абгрунтаваную логіку мала хто з суседзяў, як і ўплывовых еўрапейскіх палітычных сілаў, звяртаў увагу. Цікава, што пры гэтым БНР дэ-факта прызналі суседнія Латвія, Літва, Польшча, Украіна...

Разам з тым, можна быць пэўным, што калі б у БНР атрымалася хоць трохі асталец і рэальна заняцца дэмаркацыяй сваіх межаў, дык ад задэклараванай у нацыянальным каноне тэрыторыі яна б атрымала вобмаль. Бо на тую пару мала было мець навукова слушную аргументацыю і нават палітычную волю. Перадусім трэба было мець адпаведныя рэсурсы: палітычныя, фінансавыя, збройныя і можа найперш сімвалічныя. Да таго ж свядомую і масавую падтрымку насельніцтва. А ўсяго гэтага ў БНР было, умоўна кажучы, хіба на адзін ці два паветы, а не на тую прастору, якую яна заманіфеставала як сваю ўласнасць. Пра гэта сведчыць і той факт, што ў сваёй большасці беларусы абыякава паставіліся як да ўзнікнення БНР, так і да яе хуткага скanання. І хаця ў пазнейшыя часы этналінгвістычны чыннік добра прычыніўся да той канфігурацыі, якую займела БССР (і як яе следства – Рэспубліка Беларусь), але ж мы добра ведаем, што загалоўным чыннікам у гэтым працэсе была не этнаграфія, а палітыка маскоўскіх уладаў, і таму Смаленшчына, Віленшчына, Беласточчына ды Чарнігаўшчына апынуліся за межамі Беларусі.

### *Культурная* канстанта: дамінацыя беларускай мовы і культуры

Знакамітая максіма Францішка Багушэвіча “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі” толькі падкрэслівала безальтэрнатыўнасць выбару моўнага і, адпаведна, культурнага канону для нацыяльнай мадэлі, паколькі гэтак тады рабілі ўсе суседнія народы, што абуджаліся для нацыянальнага жыцця. Гэтую безальтэрнатыўнасць падмацоўваў і той факт, што паводле перапісу 1897 г. 97,7% беларусаў жылі ў вёсках і, натуральна, размаўлялі на беларускай мове. Але пры ўсёй відавочнай слушнасці падобнага выбару як ідэалагічнага канструкта, справа яго рэалізацыі выглядала надзвычай праблематычнай і, калі заўгодна, нават драматычнай.

Рэч у тым, што беларускія гарады і мястэчкі не былі беларускімі. Тут наўсцяж дамінавалі габрэі (па выніках таго ж перапісу – 57,7%), і нават расейцаў у гарадах было болей, чым беларусаў. Да таго ж гарадскія беларусы ў сваёй абсалютнай бальшыні былі зрусіфікаваныя. А паколькі для паўставання і функцыянавання нацыі горад адыгрывае выключную ролю, дык паводле задэклараванай мадэлі трэба было найперш збеларусіць горад. Але з якой такой трасцы габрэі, расейцы, палякі ды іншыя падхопяцца самі сябе збеларушчваць? Натуральна, тут не абыйсціся без прымусу моцнай палітычнай сілы. А ў беларускага нацыянальнага руху такой сілы не было. Адпаведна ІІ Устаўная грамата да беларускага народу абвясціла “роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі”. І нават, калі такая сіла

з'явілася (маецца на ўвазе бальшавіцкая беларусізацыя 20-х гг.), дык і яна засцерагла сябе тым, што ўзаконіла ў статусе дзяржаўных чатыры мовы: беларускую, рускую, габрэйскую і польскую.

Добра вядомы, хаця лішне ў нас і не акцэнтуецца, той шквал пратэстаў і сабатажу, які выклікала актыўная беларусізацыя на ўсіх узроўнях адміністрацыі краіны, інтэлігенцыі, не заангажавных беларускай нацыянальнай ідэяй дзеячаў культуры і г.д.

Дарэчы, наўрад ці яе падтрымлівала і бальшыня зрусіфікаваных беларусаў, але, можа, наймацней беларусізацыі супраціўляліся вяскоўцы, якія тады актыўна пачалі засяляць горад. Яны ехалі туды, каб падвысіць свой сацыяльны і культурны статус, які заўсёды для іх звязваўся з рускай ці польскай мовай, а іх праз беларусізацыю штурхалі назад у сацыяльнае аўтсайдэрства. Прынамсі, так яны думалі і, як пакажа час, мелі рацыю.

## *Гістарычная* канстанта: пераемнасць з Полацкім і затым Вялікім Княствам Літоўскім

У сваю пару, спрабуючы зразумець, чаму кожная нацыя імкнецца быць старой, як мага больш старой нацыяй, я выснаваў меркаванне, што найперш гэта патрэбна дзеля абгрунтавання сваёй легітымнасці. Прысутнасць у вялікім гістарычным часе дае правады нават як бы патрабуе заставацца ў ім заўсёды. Беларусам гэтае гістарычнае права было патрэбнае можа нават больш, чым іншым усходнееўрапейскім народам. Выбар за сакральнае апірышча Полацкага, а затым Вялікалітоўскага княства выглядаў досыць лагічным ужо хаця б таму, што ён апраўдваў русінска-ліцвінскі звяз, які сфармаваў асноведзь будучых беларусаў. А тое, што месца і роля беларусаў у функцыяванні гэтых геапалітычных структураў і па сёння актыўна дыскутуецца як унутры краіны, так і звонкі яе, дык гэта натуральна. Бо што ў гісторыі не дыскутуецца?

Але мяне ў гістарычным каноне беларусаў цікавіць іншае: чаму па-за ім засталіся Рэч Паспалітая і Расійская імперыя? Пакуль у якасці толькі рабочай гіпотэзы магу памеркаваць, што гэта перадусім звязанае з той палітычнай сітуацыяй, у якой фармаваўся гэты канон. Расійская імперыя тады не магла бачыцца ў каштоўнасных значэннях, бо з яе задушлівых абдымкаў яшчэ трэба было вызваліцца. А Рэч Паспалітая засталася незаўважанай з цалкам супрацілеглай падставы. Верагодна, нашыя нацыянальныя ідэолагі прадчувалі, што беларусы яшчэ могуць патрапіць у задушлівыя абдымкі суседа з другога боку. Калі гэта так, дык яны не памыліліся. Неўзабаве Польшча з Расіяй разарвуць Беларусь на дзве часткі: Заходнюю і Усходнюю.

Але ўся гэтая сітуацыя якраз і дэманструе апрыёрную ўмоўнасць нацыянальных гістарычных канонаў. І таму я амаль пэўны, што калі палітычная (геапалітычная) небяспека для Беларусі з боку Польшчы ды Расіі знікне даастачы, дык нашая былая лучва і з Рэччу Паспалітай, і з Расійскай імперыяй прытарнуецца да каштоўнаснага канону беларускай гісторыі. І чым хутчэй гэта здарыцца, тым будзе лепей. Гэта нават не марнатраўства, а злачынства не лічыць каштоўнаснымі два такіх значных перыяда ў нашай гісторыі.

## *Палітычная* канстанта: нацыянал-дэмакратыя

Асноўная праблема ідэолагаў нацыянальнага адраджэння была ў тым, што спрэс вясковая Беларусь тады прагнула не нацыянальных, а сацыяльных каштоўнасцяў. Нашым вяскоўцам на пачатку XX ст. было ўсё роўна, як іх называюць: беларусамі, тутэйшымі, ліцвінамі, рускімі ці кім там яшчэ, бо калі яны пра што і марылі, дык гэта “людзьмі звацца” (Я. Купала). Зусім невыпадкова, першай і буйнейшай палітычнай партыяй Беларусі сталася Беларуская сацыялістычная грамада (1903 г.), якая брала сабе ў задачу пабудову сацыялізму. І хаця ў шэрагах яе ініцыятараў было даволі ідэолагаў нацыянальнага Адраджэння, але палітычная актуалізацыя нацыянальнага адбудзецца значна пазней.

Болей за тое, яшчэ ў 1914 г. Антон Луцкевіч, бадай самая значная фігура тадышняга нацыянальнага руху, у артыкуле “Краёвае становішча” пісаў: “Найгоршы вораг краёвай ідэі – гэта націоналізм. Націоналізм – гэта хворае пачуццё сваёй національной асобнасці”. І яшчэ там жа: “Націоналізм дужа пашыраны ў нас. Ён пануе ў польскім грамадстве, захапіў багата літвінаў і жыдоў, агарнуў бязмала ўсіх тутэйшых расейскіх, асабліва ж перарobленых з беларусаў. Не сягоння дык заўтра можна спадзявацца, што гэтая хвароба не абміне і беларусаў”. І хаця той жа Луцкевіч у 1918 г. у артыкуле “Аб дзяржаўным будаўніцтве” пісаў ужо зусім іншае, а менавіта: “Каб будоўля незалежнай Беларусі <...> не разваліласяя, каб пры найгоршых для нас варунках мы асталіся самі сабой, трэба ў аснову нашага дзяржаўнага будаўніцтва палажыць чыстую нацыянальную ідэю”, але ў праграме БНР, акрамя пазначэння “Беларуская рэспубліка” і “этнаграфічных” межаў, няма і знаку ўласна нацыяналізму. Гэта цалкам сацыял-дэмакратычны праект. Толькі калі гэтую праграму перахопяць бальшавікі, натуральна скарэктаваўшы яе пад уласны фармат, а ідэолагі нацыянальнага Адраджэння апынуцца ў эміграцыі, на месца ідэі сацыял-дэмакратыі заступіць нацыянал-дэмакратыя.

Інакш кажучы, калі на месца рэальнай палітычнай дзейнасці заступіць палітычная рыторыка, якая не патрабавала праверкі прак-

тыкай, толькі тады ў нацыянальным каноне стануцца загалоўнымі не сацыяльныя, а нацыянальныя каштоўнасці. Дарэчы, гэта тычыцца і ўсіх астатніх параметраў нацыянальнага канона. Ці не таму канчаткова дафармаваны там, у эміграцыі, ён апынуўся прыдатным толькі дзеля эміграцыйнай рыторыкі, падпольных хаўрусаў і патрыятычных улётак, але ніяк не для рэальнага палітычнага ўвасаблення? 90-я гг. ужо прамінулага стагоддзя гэта якраз прадэманстравалі. Хаця на самым пачатку 90-х нацыянал-дэмакратычны рух на чале з БНФ імкліва стаўся найбольш уплывовай палітычнай сілай у краіне, толькі надоўга ў гэтай ролі не затрымаўся, бо не супадаў з каштоўнаснымі арыенцірамі асноўнай часткі беларускага грамадства.

### ***Канстытуцыйная*** **канстанта: незалежная Дзяржава**

У 1884 г. у Пецярбургу была надрукаваная першая беларуская газета "Гоман" (на рускай мове). У першым нумары чытаем: "Мы – беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і *федэратыўную аўтаномію* краіны" (вылучана *В.А.*). І толькі пачатковая праграма БСГ (1903 г.) ужо прадугледжвала ўтварэнне Беларускай Незалежнай Рэспублікі. Праўда, у наступнай праграме БСГ адмовілася ад гэтай ідэі на карысць дзяржаўнай аўтаноміі краю з соймам у Вільні ў складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расіі, што ў карыкатурным выглядзе потым рэалізуюць бальшавікі, стварыўшы на кароткі час Літоўска-Беларускую Сацыялістычную Рэспубліку.

Але, што б у пару фармавання нацыянальнага канона не дэкларавалася, гэта ўсё, па сутнасці, было толькі рытарычным прыёмам, палітычным фэнтэзі, бо тагачасная палітычная рэальнасць не прадстаўляла ніякіх шансаў для рэалізацыі падобных мрояў. І толькі катаклізмы Першай сусветнай вайны ды рэвалюцыі ў Расіі збегам абставінаў стварылі невялічкі нічыйны прамежак у часе і прасторы, што і дазволіла абвясціць БНР. Гэта была ці не самая бліскучая палітычная авантура беларусаў ва ўсім XX ст.!

І хаця яна скончылася амаль нічым, але з гэтай падзеі канстанта незалежнай Дзяржавы безальтэрнатыўна ўваходзіць у нацыянальны канон. І як яно ні дзіўна, з усіх базавых пазіцый нацыянальнага канона, пакуль толькі яна апынулася палітычна цалкам рэалізаванай, хаця як у выпадку з БНР не столькі праз уласныя вымогі саміх беларусаў, колькі праз магутны геапалітычныператрус.

Ці сведчыць апошняе за тое, што і ўсе астатнія параметры нацыянальнага канона маюць падобны шанец? Магчыма я і хацеў бы, каб так яно напраўду некалі сталася. Але гэта вельмі малаверагодна. І справа тут найперш у тым, трохі паўтаруся, што той канон пера-

важна фармаваўся ў рытарычным эмігранцкім дыскурсе і, лічы, без крытычнай увагі да Беларусі і беларусаў як такіх, якія яны ёсць насамрэч. А калі пасля развалу Савецкага Саюза з'явілася канкрэтная магчымасць рэалізаваць класічны нацыянальны канон у палітычных практыках, дык досыць хутка выявілася, што ён дзеля гэтага зусім не прыдатны. Інакш кажучы, гэтак сфармуляваны нацыянальны канон апынуўся сацыяльна і палітычна не інструментальным.

Разам з тым не забудземся, што нацыянальны канон адным сваім фактам накрэсліў гістарычную перспектыву беларусаў, якая выразна паўплывала на хаду палітычных падзеяў, хаця сам канон падзеяй так і не стаўся.

P. S.

Пытанне пра беларускі нацыянальны канон, як пра тэарэтычную фікцыю, якая і не магла спраўдзіцца ў гістарычнай рэальнасці Беларусі, безумоўна, патрабуе больш грунтоўных даследзінаў, як і крытычных ініцыятываў. Тым болей, што толькі час можа напэўна засведчыць, наколькі мае сумневы абгрунтаваныя нашай будучыняй. Аднак наастачу я хацеў бы сказаць трохі пра іншае. Шмат хто папікае мяне, што я сваім сумневам выдаляю ўласна нацыянальнае з каштоўнаснага базісу беларусаў. Але гэта суцэльная аблуда. Я толькі хачу сказаць, што калі мой недавер да нацыянальнага канона як да форматворчай ідэі нацыі слушны, дык яго трэба адно пазбавіць ролі канона. Інакш кажучы, мы пакідаем сабе ўсе каштоўнасныя канатацыі нацыянальнага канона (як і ўвесь наробак, што цягам стагоддзяў збіраўся пад ягонымі штандарамі), але аснову нацыянальнага ладу ўкладаем у зусім іншую сацыяльна-палітычную канфігурацыю. У слоганавым фармаце гэта гучыць наступным чынам: "Нацыянальным каштоўнасцям – так! Нацыянальнай ідэі – не!"

Дарэчы, асабіста мне падаецца найбольш адэкватнай і адпаведнай для Беларусі (і беларусаў) не "этнакультурная" канцэпцыя, а канцэпцыя "грамадзянскай нацыі". Але пра гэта я ўжо публічна казаў безліч разоў, таму цікаўных адсылаю хаця б да сваёй кнігі "Код адсутнасці".

# Улада і стварэнне гісторыі ў Беларусі: нататкі да канцэптуалізацыі

Аляксей Ластоўскі

Інстытут палітычных даследаванняў "Палітычная сфера", даследчык.
Даследчыя інтарэсы: гістарычная памяць, нацыянальная ідэнтычнасць, гісторыя нацыяналізму

У сваёй кнізе "Барацьба за ідэнтычнасць"[1], што выйшла ў выдавецтве Цэнтральна-Еўрапейскага ўніверсітэта 1 мая 2010 г., Нэлі Бекус піша пра відавочны крызіс Blearusian Studies, які праяўляецца ў павальнай рэпрадукцыі некаторых банальных ісцін. З кожным паўторам яны становяцца ўсё больш відавочнымі – і разам з тым, ужо нічога не тлумачаць. Я цалкам салідарны з гэтай ацэнкай, але такі дыягназ патрабуе і крытычнага перагляду сферы вывучэння Беларусі, і прапановы новых падыходаў, якія б вярнулі дынаміку асэнсаванню беларускай сітуацыі і валодалі б неабходным эўрыстычным патэнцыялам.

У гэтых кароткіх нататках я паспрабую прапанаваць новы канцэптуальны падыход да таго, якім чынам веда пра гісторыю (альбо інакш – гістарычны дыскурс) ствараецца ў Беларусі. Удакладнім, што мова будзе ісці не толькі пра прафесійную гістарыяграфію, але больш шырэй – пра агульныя рамкі для прадукавання веды аб гістарычным мінулым, якая можа ажыццяўляцца і ў іншых формах: напісанне школьных падручнікаў па гісторыі ці газетных артыкулаў, стварэнне мастацкіх і дакументальных фільмаў і г.д. Паўнавартаснае разуменне абумоўленасці рэпрэзентацый гістарычнага мінулага немагчыма без папярэдняга схоплівання агульнай канфігурацыі ўлады-веды (удакладняючы: улады – гістарычных ведаў), якая сфармавалася ў сучаснай Беларусі.

Для яе апісання я спачатку звярнуся да той інтэрпрэтацыйнай схемы, якая выкарыстоўваецца ў большасці навуковых і аналітычных прац, што тычыцца беларускай сітуацыі агулам. У гэтых тэкстах найбольш папулярная і ўстойлівая дыхатамічная схема, якая апісвае культурна-палітычную прастору Беларусі падзеленай на два процілеглых лагеры (якія апісваюцца ў розных, але сінанімічных катэгорыях: дыскурсы, стратэгіі пабудовы нацыянальнай ідэнтычнасці, нацыянальныя праекты і г.д.). Адзін з гэтых лагераў

[1] Bekus, N. Struggle Over Identity. The Official and the Alternative "Belarusianness". Budapest, 2010. P. 3.

фармуецца вакол структуры дзяржаўнай улады і апісваецца фармальна як дзяржаўны, уладны, афіцыйны – і змястоўна як пра-савецкі, пра-расійскі ці pro-Lukashenka. Адпаведна, другі лагер фармуецца каля палітычнай апазіцыі (і, натуральна, часцяком так і кадыфікуецца як апазіцыйны) і надзяляецца ў аналітыцы такімі характарыстыкамі, як дэмакратычны, нацыянальны (часам – нацыяналістычны), пра-еўрапейскі.

Апошнім часам пачалі з'яўляцца новыя мадыфікацыі гэтай базавай схемы, у асноўным за кошт аналітычнага падзелу апазіцыйнага лагера на дзве часткі: арыентаваную на прынцыпы этнакультурнага нацыяналізму, і тую, што падтрымлівае ідэалы ліберальнага грамадзянскага нацыяналізму. Такое ўдакладненне паказвае на куды больш складаную і дыферэнцыраваную структуру беларускай інтэлектуальнай прасторы, чым гэта відаць праз прызму "класічнай" дыхатаміі. Але і пры выкарыстанні такой больш складанай схемы, апісанне ўсё роўна будуецца праз уводзіны жорсткага размежавання паміж "дыскурсамі", кожны з якіх валодае сваёй логікай, мэтамі і каштоўнасцямі, практыкамі і магчымасцямі інстытуцыянальнага ўвасаблення. Гэта прыводзіць да непазбежнай рэдукцыі складанай рэчаіснасці, з выключэннем ўсіх феноменаў, якія існуюць "паміж", з тэндэнцыяй ігнаравання ўзаемадзеянняў і ўзаемаўплываў, трансфераў і запазычанняў. Акрамя таго, "аб'ектыўны" аналіз беларускай сітуацыі практычна заўсёды аксіялагічна перадвызначаны: калі ён праводзіцца не з Беларусі, то гэтыя супрацьпастаўленыя культурна-палітычныя лагеры, ужо ў сутнасці пазначаныя "мінусам" ("дэманізацыя" дзяржаўнага дыскурсу) і "плюсам" ("ідэалізацыя" апазіцыйнага дыскурсу), што прыводзіць да шматлікіх аберацыяў і скажэнняў.

Калі ж вяртацца да пачатковай сферы зацікаўленасці – узаемадзеянняў гісторыі і ўлады, то і ў спробах аналітычнага апісання бачнае толькі алюстраванне вышэйзгаданай базавай схемы. Найбольш яркія спробы апісаць агульны стан беларускай гістарыяграфіі (якія, тым не менш, выходзілі за межы выключна гістарыяграфіі), створаныя такімі аўтарамі, як Райнэр Лінднэр[2], Генадзь Сагановіч[3], Андрэй Катлярчук[4] і Алесь Смалянчук[5], зноў жа базуюцца на ды-

[2] Ліндэр, Р. Гісторыкі і ўлада. Мінск, 2005.

[3] Сагановіч, Г. Дзесяць гадоў беларускай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны агляд. Том 8. Сшытак 1–2 (14–15). Снежань, 2001; Сагановіч, Г. Вайна з беларускай гісторыяй // ARCHE. 2001. № 3 (17).

[4] Котлярчук, А. Історики в шанцыях: Білоруська наука під Лукашенкам // Україна модерна. 2007. № 1 (12). С. 62–71.

[5] Смалянчук, А. "Савецкасць" беларускай постсавецкай гістарыяграфіі // Політологічні та соціологічні студії. Том VII. Черновці–Вільня, 2010. С. 95–105.

хатаміі. Беларуская гістарычная навука рэпрэзентуецца падзеленай на два варожыя лагеры, які фактычна ідэнтычныя па сваіх характарыстыках двум эскізна вышэйпазначаным нацыянальным праектам.

Адзін лагер фармуецца вакол дзяржаўнай гістарычнай навукі, якая зноў жа валодае падобнымі характыстыкамі: аднаўленне савецкага вобразу разумення гісторыі (а таксама і савецкіх прыёмаў адміністратыўнага кіравання гістарычнай навукай), вяртанне “заходнерускай” канцэпцыі гісторыі беларускага народа як складовай часткі вялікарускага народу і рацыяналізацыя гістарычнай навукі як інструмента ідэалагічнай падтрымкі сучаснай палітычнай улады. Іншы ж лагер паводле гэтых апісанняў адстойвае ідэалы нацыянальнай канцэпцыі гісторыі, якая прэзэнтуецца як больш адпавядаючая “гістарычнай ісціне”. Адначасова нацыянальная гісторыя падаецца праз вылучэнне яе сутнасных рысаў – дэмакратычнасці і еўрапейскасці (і, дададзім, “не-расійскасць”), што фактычна праектуецца на сучаснасць і праблемы нацыянальнага адраджэння як зададзеная неабходнасць “вяртання да сваёй ісцы” ў форме еўрапеізацыі і дэмакратызацыі.

Пры гэтым палітызаванасць і ідэалагізаванасць афіцыйнай гістарычнай навукі вызначаецца як яе эксплацытная характырыстыка, у той час як “апазіцыйныя” гісторыкі малюцца як прафесіяналы, узброеныя сучасным метадалагічным арсеналам (то бок, нават пытанне пра іх палітызаванасць ставіць некарэктна).

Нас больш турбуе не відавочная сфальсікаванасць такой “апалітычнасці”, колькі тое, што такія апісанні фактычна аб’ектывізуюць як агульную карціну персанальны досвед і перспектывы толькі адной пазіцыі.

Прызнаючы пачатковую рэлевантнасць дадзенай схемы, для больш адэкватнага разумення беларускага кантэксту мы прапануем увесці іншую мадэль, якая апісвае канфігурацыію ўлады-гісторыі ў Беларусі як адзінае поле, якое валодае двума полюсамі: адзін з іх фармуе цвёрды русацэнтрызм, іншы – радыкальны этнацэнтрызм. Полюсы канстантныя, іх пазіцыі загадзя перадвызначаныя, яны могуць толькі нязначна змяняцца з цягам часу, але замацаванасць палюсоў у культурна-палітычнай прасторы дазваляе на іх арыентавацца. Паміж гэтымі палюсамі і размяшчаецца шырокае поле, дзе няма жорсткіх меж, затое ёсць мноства пазіцый.

Уласна, што ж новага ўносіць такая мадэль?

Па-першае, гэтым разбураецца атаесамленне дзяржаўнай гістарычнай палітыкі і русацэнтрызму. Пад апошнім разумеецца праект беларускай ідэнтычнасці, які разглядае мінулае, сучаснасць і будучыню беларусаў выключна як складовай часткі рускага суперэт-

насу (вялікаросаў, маларосаў і беларусаў), для якога характэрна адзінства мовы і культуры, каштоўнасцей і менталітэту. Гісторыя Беларусі пры гэтым разглядаецца ў кантэксце існавання агульнай рускай праваслаўнай цывілізацыі (пра развіццё казаць цяжка, паколькі русацэнтрысцкая гістарыяграфія пры аналізе мінулага аперуе пераважна эсэнцыялісцкімі катэгорыямі, дзе "свае" і "ворагі" валодаюць нязменнай сутнасцю). У асноўным прадстаўнікі сучаснага русацэнтрызму (Крыштаповіч, Трашчанок і інш.) аднаўляюць канцэпцыю гісторыі, якая была сфармаваная ў межах "заходнерусізму" XIX ст., з запазычэннем больш сучасных інтэпрэтацыйных схем з расійскага нацыянальна-патрыятычнага дыскурсу. Гэта вельмі ўплывовы лагер гісторыкаў і ідэолагаў, які мае прэтэнзіі да таго, каб цалкам вызначаць курс дзяржаўнай гістарычнай палітыкі, але жорсткасць і зафіксаванасць разумення гісторыі і сучаснасці русацэнтрыстамі з'уляецца не вельмі прыдатнай для афіцыйнага курсу, які больш дынамічны і адаптыўны да змен у сацыякультурным развіцці краіны.

Такім чынам здымаецца зафіксаванасць для афіцыйнага, дзяржаўнага разумення гісторыі. Пра-савецкасць і пра-расійскасць становяцца для афіцыйнай гісторыі не сутнаснымі і вызначальнымі характарыстыкамі, а рысамі, якія паўсталі ў адмысловым культурна-палітычным кантэксце і могуць змяняцца ці нейтралізавацца з цягам часу. Дзяржаўнае разуменне гісторыі "плавае" паміж палюсамі, і таму цалкам некарэктна яго атаесамляць з "русацэнтрызмам". Інтэпрэтаваць змены ў школьнай гістарычнай адукацыі толькі паводле падручнікаў Трашчанка – гэта тое самае, што падаваць словы Пазняка як рэпрэзентатыўныя для ўсёй "дэмакратычнай апазіцыі". Зразумела, што так можна рабіць і так часта і робяць – але ці не падобны такі крок на скажэнне рэчаіснасці?

Па-другое, з прапанаванай мадэлі выцякае тое, што гістарычныя веды выпрацоўваюцца не ў рамках цвёрдых і зададзеных праектаў, а ў шырокім полі, на якім сутыкаецца некалькі розных стратэгій вытлумачэння нацыянальнай гісторыі. Адпаведна паміж палюсамі знаходзіцца шырокая пераходная тэрыторыя, на якой уступаюць ва ўзаемадзеянне розныя імпульсы. Для гісторыка, які не асацыюе сябе з "полюсной" гістарыяграфіяй, ёсць багатыя магчымасці як ўласнага пазіцыянавання, так і дрэйфу ў які-небудзь з бакоў.

Спрыяе стварэнню адзінага поля дзяржаўны кантроль над практычна ўсімі інстытуцыянальнымі ўтварэннямі, у якіх прадукуецца і распаўсюджваецца гістарычная веда (Інстытут гісторыі НАН Беларусі, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы і г.д.). То бок, беларускія гісторыкі працуюць ў дзяржаўных установах, што спрыяе распаўсюджванню нейкіх агульных нормаў і правілаў паводзін. Недзяржаўныя гістарычныя інстытуты (часопісы "Беларускі

гістарычны агляд" і "Гістарычны альманах", Інстытут гістарычных даследаванняў Беларусі пры ЕГУ) відавочна не могуць задаволіць працай значную колькасць беларускіх гісторыкаў і падтрымліваюць пераважна тых, хто быў выціснуты з сістэмы.

Іншае істотнае следства – гэта немагчымасць усталявання канона, вызначанага тэксту ці набору інтэрпрэтацый гісторыі, які б прызнаваўся ўсімі як "узор", класічная праца, чыя каштоўнасць не падлягае сумневу, а тэорыя і метадалогія падлягаюць настойліваму вывучэнню і аднаўленню. Любая гістарычная праца, ажыццёўленая на "палюсах" з'яўляецца нелегітымнай і нават анты-гістарычнай для прадстаўнікоў процілеглага "полюса". Праца, створаная ў "памежжы", заўсёды з'яўляецца вынікам нейкага кампрамісу, які таксама можа аспрэчвацца і з пазіцый іншага магчымага кампрамісу, і ўжо тым больш з боку "полюсных" гісторыкаў.

Але такой прасторавай мадэлі для апісання канфігурацыі ўлады і гістарычных ведаў у сучаснай Беларусі відавочна недастаткова, неабходна таксама ўвесці і хcraналагічнае вымярэнне, дынаміку суадносін розных перспектыў апісання беларускай гісторыі.

Адпраўной кропкай паслужыць 1991 г., калі і была абвешчана незалежнасць Рэспублікі Беларусь. Відавочна, што са стварэннем незалежнай дзяржавы востра ўстала неабходнасць фармавання новага гістарычнага наратыву, які б тлумачыў мінулае беларускай дзяржавы з самастойнай перспектывы, а не як гісторыю савецкай саюзнай рэспублікі. Тым часам адбываецца рэзкі ўздым нацыянальнай гістарыяграфіі, натхнёнай рамантыкай нацыянальнага "адраджэння". Узоры для новага гістарычнага наратыву бяруцца з мінулага – той нацыянальнай гістарыяграфіі, якая пачала фармавацца ў канцы XIX ст., але чыё развіццё было гвалтоўна перапынена сталінскімі рэпрэсіямі. Адтуль запазычаецца без якіх-небудзь сумневаў і агульная тэлеалогія беларускай гісторыі, якая ўяўляецца рэалізацыяй ідэі беларускай дзяржаўнасці, што сыходзіць каранямі ў эпоху Полацкага княства. "Залатым векам" абвяшчаецца перыяд ВКЛ, за якім рушыў услед доўгі час страты дзяржаўнасці і чужацкага панавання: спачатку польскага, затым яшчэ больш рэпрэсіўнага – расійскага і савецкага, пакуль не настаў час "нацыянальнага адраджэння". На жаль, пры агульным эмацыйным уздыме (дзіва што, значнасць гісторыі ў грамадстве ўзрасла неймаверна!) беларускія гісторыкі нацыянальную гісторыю пісаць яшчэ вучыліся. Закладніцай такога становішча стала сістэма адукацыі, у якую ўкараняліся нацыяналістычныя па духу, але яшчэ слаба падрыхтаваныя ў прафесійным плане падручнікі гісторыі.

Але канфігурацыя ўлады і веды зноў радыкальна змянілася пасля таго, як у 1994 г. на прэзідэнцкіх выбарах у Рэспубліцы Беларусь пе-

рамог Аляксандр Лукашэнка. Перамог ён пад лозунгамі вяртання да пазітыўнага досведу савецкага мінулага і аднаўлення саюзных адносін з Расіяй. Натуральна, што і сістэма гістарычных ведаў павінна была быць прыведзена ў адпаведнасць з новымі палітычнымі павевамі. З 1995 г. пачынаецца рэфармаванне дзяржаўнай сістэмы гістарычных ведаў: у першую чаргу праз чарговае перапісванне падручнікаў, а затым і праз узмацненне жорсткасці кантролю над акадэмічнай навукай. Фактычна адбылася рэанімацыя гісторыі БССР, так добра знаёмай большасці беларускіх гісторыкаў, але адрэстаўраванай, адрэтушаванай і адаптаванай да новых рэалій. Да кіравання акадэмічнай гісторыяй вяртаецца старое пакаленне гісторыкаў (Петрыкаў, Сташкевіч), а прадстаўнікі русацэнтрызму ў гэты перыяд практычна кантралююць агульны ідэалагічны курс, па якому павінна развівацца беларуская гістарыяграфія.

Наступныя базавыя прынцыпы беларускай савецкай гістарыяграфіі здабылі сваё новае жыццё і сталі з тых часоў асновай для афіцыйнага наратыву беларускай гісторыі:

1) аксіяматычнае прызнанне ўсходнеславянскага характару беларускага народа (з яго прыналежнасці да рускай цывілізацыі і праваслаўнай культуры выцякаюць шматлікія ўстаноўкі на апісанне розных падзей – у першую чаргу, акцэнтаванне станоўчага характару гістарычных сувязяў беларускага і рускага народаў);

2) пазітыўны вобраз савецкага мінулага, дзе фармаваліся падставы для сучаснай беларускай дзяржаўнасці;

3) фундаментальнасць міфа пра перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне як ключавой падзеі ў беларускай гісторыі, што кладзецца ў падмурак легытымнасці Рэспублікі Беларусь.

Варта адзначыць, што з савецкай гістарыяграфіі былі прысвоены не толькі наратыўныя патэрны, але і пазітывісцкая метадалогія, якая безумоўна дамінуе ў беларускай гістарыяграфіі і да цяперашняга часу. Гэтыя запазычанні падкрэсліваюцца крытыкамі “афіцыйнай гісторыі” дзеля таго, каб пазначыць поўную ступень пераемнасці паміж беларускай гістарыяграфіяй у савецкія і постсавецкія часы.

Пры гэтым практычна замоўчваецца, што яшчэ адной важнейшай крыніцай для афіцыйнага вобразу гісторыі стала нацыянальная гістарыяграфія, адкуль была запазычана агульная тэлеалогія станаўлення беларускай дзяржаўнасці, але з вызначанымі мадыфікацыямі – больш пазітыўным бачаннем перыяду знаходжання ў Расійскай імперыі і куды больш скептычным стаўленнем да першай спробы ўсталявання беларускай дзяржаўнасці ў 1918 г. (Беларуская Народная Рэспубліка).

Чарговая змена канфігурацыі ўлады і гістарычных ведаў адбылася ўжо не ў выніку нейкага радыкальнага перавароту ў палітычным

курсе, а як следства акрэсленых тэндэнцый у культурна-палітычным развіцці Рэспублікі Беларусь, умацавання суверэнітэту і будаўніцтва нацыянальнай дзяржаўнасці. Таму і саму змену можна датаваць толькі з вызначанай дзеллю ўмоўнасці – 2000–2002 гг. Да гэтага часу стала зразумела, што стаўка на звяз з Расіяй мае сур'ёзныя абмежаванні і далёка не здымае незалежны статут беларускай дзяржавы. Узнікае дзяржаўны запыт на нацыянальную ідэалогію, і пра-савецкія і пра-расійскія ўплывы становяцца відавочна недастатковымі (а часцяком і даволі падазронымі) для такіх патрэб. Падручнікі гісторыкі перапісваюцца ў чарговы раз. На гэты раз з яшчэ больш сур'ёзнай доляй інкарпарацыі элементаў нацыянальнай гістарыяграфіі.

У цэлым, для апісання таго стану гістарычных ведаў, якое сфармавалася ў выніку такіх пертурбацый, найбольш падыходзіць метафара ўмеранага сінтэзу, у якім у адзінае цэлае сыходзяцца савецкая і нацыянальная версія беларускай гісторыі. Сінтэз адбываецца за кошт здымання экстрэмумаў версій – выдаляецца нагрузка камуністычнай ідэалогіі для савецкай версіі і радыкальныя нацыяналістычныя дамаганні і антырасійскасць для нацыянальнай версіі беларускай гісторыі.

Пры гэтым прыкметная тэндэнцыя да ўсё большай нацыяналізацыі афіцыйнага наратыву беларускай гісторыі – яна адбываецца вельмі павольна ў параўнанні з суседнімі краінамі (і таму яе можна метафарычна абазваць “паўзучай нацыяналізацыяй”), але ўстойлівасць гэтага трэнду не падлягае сумневу.

Натуральна, на практыцы сінтэз можа ажыццяўляцца дзякуючы наяўнасці правілаў і нормаў для падтрымання раўнавагі, а таксама за кошт выдалення радыкальных элементаў. І ў сістэме адукацыі, і ў акадэмічнай сферы ў Беларусі існуе некалькі нефармальных імператываў, якія не кадыфікаваны і не легалізаваны, але маюць цалкам рэальны статут. Вызначаная свабода для любога гісторыка, які можа дрэйфаваць у прасторы паміж “палюсамі”, усё ж мае і свае абмежаванні (зразумела, гаворка ідзе пра тых гісторыкаў, якія працуюць у дзяржструктурах, для вольных агентаў такіх абмежаванняў няма, але ж мы памятаем, што гэта тычыцца абсалютнай большасці беларускіх гісторыкаў). Нельга рэзка крытыкаваць савецкі перыяд, нельга аспрэчваць бездакорны міф пра Вялікую Айчынную вайну, нельга занадта адкрыта падтрымліваць этнацэнтрычную версію нацыянальнага мінулага. Такія рэкамендацыі існуюць у рэжыме патрабаванняў палітычнай карэктнасці, і іх невыкананне пагражае выцясненнем гісторыка ў маргінальную пазіцыю.

І сапраўды, час ад часу некаторых гісторыкаў, якія не вытрымліваюць гэтыя імператывы, пазбаўляюць працы альбо выціскаюць з

дзяржаўнага гістарычнага поля. Выдаленне "радыкалаў" спрыяе нармалізацыі і стабільнасці status quo, але найбольш сур'ёзная праблема ў тым, што выдаляюцца з сістэмы выбітныя гісторыкі, амбітнасць якіх мае ўсе падставы ў высокай прафесійнай кампетэнцыі і арганізацыйных здольнасцях (Сагановіч, Смалянчук, Краўцэвіч). Фактычна гэта спрыяе паніжэнню прафесійнага і метадалагічнага ўзроўня беларускай гістарыяграфіі і негатыўна сказваецца на агульным узроўні працы з гістарычным мінулым у Беларусі.

Гэтым таксама ствараецца ўстойлівы стэрэатып пра варожасць афіцыйнай гістарычнай навукі да канону нацыянальнай гістарыяграфіі, які зусім не адпавядае рэчаіснасці. Пры гэтым нацыяльнай гісторыі надаецца рамантычны статус "забароненай" і "рэпрэсаванай" ісціны, што прыводзіць да немагчымасці ўзважанай і аб'ектыўнай крытыкі прынцыпаў і метадалогіі нацыянальнай гістарыяграфіі, праз якую праходзіць, напрыклад, украінская гістарычная навука.

Такім чынам, беларуская гістарычная навука не толькі выконвае інструментальную функцыю легітымацыі дзяржаўнай улады, але і таксама спрыяе афармленню і пашырэнню нацыянальнага разумення гісторыі, якое ўмацоўвае працэсы станаўлення беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці і будаўніцтва суверэннай дзяржаўнасці. Але гэта адбываецца ў складаных узаемадачыненнях з устойлівымі схемамі інтэрпрэтацыі гісторыі савецкіх часоў, што прыводзіць да неабходнасці ўмеранага сінтэзу нацыянальнай і савецкай версій гістарыяграфіі. З іншага боку, падтрыманне раўнавагі за кошт выдалення радыкальных элементаў прыводзіць да відавочнага зніжэння прафесійнага ўзроўню беларускай гістарычнай навукі і адставання ад сучасных стандартаў гуманітарнай веды.

# Перапіс як крыніца даследаванняў нацыянальнай палітыкі і нацыянальнай ідэнтычнасці[1]


## Іван Новік

Аспірант 3-га году навучання Інстытута філасофіі НАН Беларусі (спецыяльнасць 09.00.13 "філасофская антрапалогія і філасофія культуры").

Зацікаўленасці: інтэлектуальная гісторыя Беларусі, гісторыя ідэй, метадалогія даследавання нацыянальнай гісторыі філасофіі, тэорыі нацыяналізму, сацыялінгвістыка, інтэлектуальная гісторыі і гісторыя філасофіі Беларусі 20–30 гг. XX стагоддзя


Перапіс, які мае адбыцца ў хуткім часе, нават негледзячы на яго магчымыя ці меркаваныя вынікі, ужо паспеў стацца сацыяльным фактам беларускай культурнай і інтэлектуальнай прасторы. Сцвярджаць гэта дае падставу той розгалас, які ён выклікаў у СМІ і некаторых фрагментах байнэту: даволі актыўна абмяркоўваюцца як фармулёўкі некаторых пытанняў (асабліва тых, што датычаць мовы), так і рэлевантнасць саміх вынікаў у варунках сучаснай беларускай палітычнай сістэмы. Гэта ўсё – даволі чаканыя вынікі, бо перапіс з'яўляецца адной з галоўных прыладаў легітымацыі/дэлегітымацыі тых альбо іншых палітычных стратэгіяў, таму не дзіўна, што палітычныя актары спрабуюць паўплываць на ягоныя вынікі, змадэляваць іх. Але ж здзіўляе іншае – што інтэлектуальная супольнасць Беларусі замерла ў чаканні тых самых вынікаў, прымаючы саму сітуацыю перапісу як дадзенасць, у той жа час як мы маем перад сабой складаны артэфакт, які нясе дастаткова інфармацыі, каб стацца нагодай для асэнсавання і грунтоўнага аналізу.

Праблема палягае ў тым, што не толькі вынікі, канкрэтныя лічбы і прапорцыі, у якіх мае ўвасобіцца перапіс, але і сам ён, як пэўная дыскурсіўная падзея[2], што стаіць у шэрагу падобных жа дыскурсіўных падзеяў (гісторыя перапісаў на нашых землях), улучае ў сябе пэўную канфігурацыю веды і дасылае да тых ці іншых дыскурсіўных практыкаў (беларуская дэмаграфія і этнаграфія), мае сваю валіднасць адносна палітычнага, нацыянальнага наратыву (выкарыстанне вынікаў перапісаў у палітычнай барацьбе) – усё гэта

[1] Артыкул быў першапачаткова прысвечаны і прымеркаваны да перапісу беларускага насельніцтва, які адбыўся ў 2009 г.

[2] Гл.: Фуко, М. Археология знания. СПб., 2004. 416 с.

з'яўляецца прадметам для навуковага аналізу, а адпаведна – сімвалічная барацьба павінна разгортвацца не толькі за ягоныя вынікі, але ж і за спосабы яго інтэрпрэтавання.

Тут можна дыягназаваць адзін з характэрных сімптомаў сучаснай беларускай гуманітарнай навукі: у той час, як ключавыя тэксты для заходняй гуманітарыстыкі (у нашым выпадку ў якасці такіх, пэўна, трэба пазначыць тэксты М. Фуко і Б. Андэрсана) патрапілі ў інтэлектуальную беларускую прастору ўжо досыць даўно і мелі пэўны розгалас, як і свае лакальныя тлумачэнні, але ж іх выкарыстанне не сягае далей праблемаў прэдыкацыі (ці варта пазначаць беларускую нацыю як "уяўную супольнасць", як сканструяваную), але ж амаль цалкам адсутнічаюць спробы прачытаць тыя тэксты ў інструментальным рэчышчы – як схему навуковае працы, як інструкцыю для спосабаў аперавання з тутэйшымі рэаліямі.

## Перапіс у сістэме каардынатаў сучаснай заходняй гуманітарыстыкі

Легітымацыя тэмы перапісу як прадметнасці навуковага аналізу можа быць прымеркавана да другога выдання кнігі "Уяўныя супольнасці" Б. Андэрсана, калі гэты найбольш уплывовы і слынны з сучасных даследнікаў нацыяналізму ўлучыў у сваю кнігу асобны раздзел, прысвечаны таму, якую ролю ў паўстанні і развіцці нацыяналізму сыгралі перапісы, мапы і музеі[3].

Андэрсана, у прыватнасці, цікавілі тыя зрухі ў спосабах правядзення перапісаў, якія адбываліся ў каланіяльных краінах напярэдадні іх нацыянальнага разняволення – зрухі, якія, на думку даследніка, і канстытуявалі, у пэўнай ступені вызначылі межы і семантыку будучых посткаланіяльных рухаў. Новыя рысы, што з'явіліся ў перапісах, якія Андэрсан прымяркоўвае да часу пасля 1850 г., улучалі ў сябе дзве істотныя рысы. Гэта, па-першае, татальнасць перапісаў: у той час, як папярэднія перапісы датычылі толькі працаздольнага мужчынскага насельніцтва (адпаведна былі пакліканы падлічыць колькасць насельніцтва, на якога распаўсюджваліся падаткі і вайсковая павіннасць), новыя перапісы "выкарыстоўвалі новую складаную катэгарыяльную сетку, якая не мела наўпростых фінансавых ці ваенных мэтаў"[4] і ў якую траплялі аднолькава і мужчыны, і жанчыны, дзеці, старыя. Такім чынам, у новых перапісах замацоўвалася нябылая дагэтуль "роўнасць" каланіяльнага насельніцтва перад

3 Anderson, B. Imagined communities: reflections on the origin and spread of nationalism. Ed. 2, revised. Verso, 1991. P. 163–187.

4 Ibid. P. 168.

катэгорыямі кіруючай адміністрацыі. Татальнасць новых перапісаў мела і іншае вымярэнне: іх вылучаў "шал вытворцаў перапісу да завершанасці і адназначнасці. Адгэтуль іх нецярпімасць да множных, палітычна «трансвестыўных», невыразных і зменлівых ідэнтыфікацыяў. <...> Задума перапісу ў тым, каб кожны ў ім патрапіў адно – і толькі адно – абсалютна адназначнае месца"[5].

Другой істотнай рысай новых перапісаў сталася асаблівае – "серыяльнае" – мысленне, што ляжала ў іх падставе: яны замацоўвалі новы, не вядомы для традыцыйных грамадстваў, па-над якімі яны разгортвалі, квантыфікацыйны светагляд, у якім уся рэчаіснасць ператваралася ў паслядоўнасці серыяльных радоў, дзе кожнай рэчы ці асобе належаў свой серыйны нумар і роля прадстаўніка серыі: усё можа і павінна быць злічана.

Такім чынам, праз перапісы стваралася тое ментальнае поле, у якім і сталася магчымым "уяўленне" нацыяў, тым больш, што вынікі перапісаў пасля замацоўваліся ў адпаведных практыках адміністравання і кіравання, ператвараючы іх у квазірэчаіснасць. Іронія ж гэтых працэсаў, паводле Андэрсана, палягала ў тым, што перапісы намагаліся "рупліва падлічыць аб'екты свайго запалёнага ўяўлення"[6]: негледзячы на ўсю матэматычную дакладнасць, да якой імкнуліся стваральнікі новых перапісаў, самі катэгорыі, паводле якіх меліся лічыць, засталіся ў спадчыну ад "прастачынаў з іспанскіх галеонаў"[7]. Гэта значыць, сістэма расавых і нацыянальных катэгорыяў, пакладзеная ў апірышча перапісаў, не мела нічога супольнага з тымі сацыяльнымі дачыненнямі, што мелі месца ў каланізаваных тэрыторыях, як і не адлюстроўвала рэальных самаазначэнняў, хутчэй яна дублявала тыя цмяныя катэгорыі, што існавалі толькі ў галовах каланізатараў. Катэгорыі, бясконца далёкія ад традыцыйнае культуры кіраваных імі мясцовасцяў, катэгорыі, якія маглі толькі засведчыць гісторыю расавае і нацыянальнае пыхі еўрапейцаў. Але ж менавіта гэтыя катэгорыі і сталіся падставамі для нацыянальных прэтэнзіяў новых рухаў разняволення ў каланіяльных краінах.

Паўстае пытанне: наколькі высновы Андэрсана маюць дачыненне да нашага выпадку? Бо яго галоўным доследным полем былі менавіта "экзатычныя" для еўрапейскага чытача выпадкі. Але пры тым, што зараз "модна" інтэрпрэтаваць сучасную культурную сітуацыю Беларусі як своеасаблівы посткаланіяльны выпадак, было б варта праінтэрпрэтаваць яе гісторыю адносна і гэтых разважанняў даследніка.

---

[5] Anderson, B. Op. cit. P. 166.
[6] Ibid. P. 169.
[7] Ibid. P. 167.

Ужо ў "пост-Андэрсанаўскія" часы сучасная заходняя гуманітарная навука, разгледзеўшы ў перапісах адну з фігураў "тэхналогіяў вытворчасці ісціны", што з'яўляюцца падставовым элементам дысцыплінарнага грамадства, апісанага М. Фуко[8], адказала на гэта шэрагам публікацый, дзе перапіс аналізуецца праз накладанне на сеціва паняццяў "улада", "каланіяльныя дачыненні", "нацыяналізм"[9].

## З гісторыі "моўнага пытання"

Тыя спрэчкі, што разгарнуліся вакол графы "родная мова" (у прыватнасці, аспрэчваецца "навуковасць" яе азначэння як "мовы, засвоенай першай у раннім дзяцінстве"[10]) і раскалолі беларускую грамадскую думку на некалькі супрацьлеглых лагераў, не з'яўляюцца выключным для Беларусі выпадкам, хутчэй яны сведчаць аб яе сутнаснай прыналежнасці да культурнага рэгіёну Цэнтральнае і Усходняе Еўропы.

Першапачаткова пытанне наконт мовы ўвогуле не ўваходзіла ў перапісы, першай краінай, якая ўнесла адпаведную графу ў свой перапіс, сталася Бельгія (1846 г.), услед за ёй пытанне наконт мовы было ўнесена ў перапісы Прусіяй і Швецыяй (1850 г.)[11]. У хуткім часе праблема была спазнаная як кропка разыходжання навуковых меркаванняў, калі на першым Інтэрнацыянальным статыстычным кангрэсе ў Брусэлі ў 1853 г. нямецкай дэлегацыяй было прапанавана ўнесці адпаведны пункт (адпаведна з афіцыйнай мовай кангрэсу – французскай: "langue parlée" – размоўная мова) у адзіны стандартызаваны апытальнік[12]. Цікавым з'яўляецца той кантэкст, у якім

8 Census and identity: the politics of race, ethnicity, and language in national census. Volume 1 of New perspectives on anthropological and social demography / ed.: D.I. Kertzer, D. Arel. Cambridge, 2002. 210 p.

9 Гл., напрыклад, ужо згаданую Census and identity: the politics of race, ethnicity, and language in national census…; Skerry, P. Counting on the census?: race, group identity, and the evasion of politics. Brookings Institution Press, 2000. 261 p. Асаблівую цікавасць у нашым выпадку прадстаўляюць артыкулы Francine Hirsch, прысвечаныя ролі перапісаў у паўстаўанні савецкай палітычнай сістэмы: Hirsch, F. Towards a Soviet Order of Things: The 1926 Census and the Making of the Soviet Union // Categories and Contexts: Anthropological and Historical Studies in Critical Demography / ed.: S. Szreter, H. Sholkamy, A. Dharmalingam. Oxford, 2004. P. 126–147; Hirsch, F. The Soviet Union as a Work-in-Progress: Ethnographers and the Category "Nationality" in the 1926, 1937 and 1939 Censuses. Slavic Review 56, № 2. Summer, 1997. P. 251–278.

10 Гл.: http://belstat.gov.by/homep/ru/perepic/2009/forma_2H_bel.pdf.

11 Arel, D. Language categories in censuses: backward- or forward-looking? // Census and identity: the politics of race, ethnicity, and language in national censuses / ed.: D.I. Kertzer, D. Arel. Cambridge, 2002. P. 94.

12 Ibid; Tebarth, H.-J. Geschichte der Volkszählung // Die Nationalitäten des

паўстала “моўнае пытанне”: нямецкая дэлегацыя, спасылаючыся на тагачасныя варункі нямецкай культуры, аспрэчвала дзейснае дагэтуль французскае азначэнне “нацыі” як палітычнай супольнасці і прапанавала сваё – нацыя як культурная супольнасць (а адпаведна – і маўленчая), якая не супадае з існымі дзяржаўнымі і адміністрацыйнымі межамі і нават супрацьстаіць ім у сваёй “натуральнасці”[13].

Такім чынам, мы бачым, што пытанне наконт мовы ў самой сваёй генеалогіі дасылае да гісторыка-культурных рэаліяў Цэнтральнае і Усходняе Еўропы і знітавана з парадыгмай этнанацыяналізму. Ягонае паўстанне было звязана з утварэннем новых прадметнасцяў – “натуральных” маўленчых супольнасцяў – у межах палітычнага дыскурсу, які выступаў як контрдыскурс у стасунку да існых дзяржаўных і інстытуцыйных практыкаў.

Далейшае развіццё, замацаванне і інстытуалізацыю гэтая новая дыскурсіўная практыка атрымала на наступным Інтэрнацыянальным статыстычным кангрэсе ў Санкт-Пецярбурзе ў 1872 г., дзе мова была ўвогуле вылучаная як адзіны надзейны індыкатар нацыянальнасці: “статыстыкі ў Санкт-Пецярбурзе прыйшлі да высновы, што толькі мова ёсць адзінай сапраўднай катэгорыяй, якая можа даць статыстычную інфармацыю аб нацыянальнасці”[14]. Прычым было прапанавана ўвогуле выключыць прамое пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці, бо “прамое пытанне аб нацыянальнасці можа збянтэжыць рэспандэнтаў, не звыклых думаць у «нацыянальных» паняццях, а таму адчыніць дзверы для «суб’ектыўных» ацэнак”, у той жа час як “кожны цудоўна ведае сваю асабістую мову”[15]. Такім чынам, назіраем цікавую рэверсію: калі пытанне “нацыянальнасці” было выведзена па-за абсяг асабістае свядомасці і жаданняў індывіда і аддадзена на водкуп экспертнае ведзе як частка “аб’ектыўнае” таксаноміі, дзе ледзве не адзіным таксонам апынулася мова. У той жа час дэмаграфічная веда ў гэтай сваёй новай канфігурацыі непазбежна знаходзіць маўленчага суб’екта як носьбіта і прадстаўніка палітычных і культурных запатрабаванняў, а адпаведна – як аб’ект для палітычнай і сацыяльнай інжынерыі. Размаўляць сталася небяспечнай справай.

У той жа час практыка інтэрпрэтавання мовы як галоўнага інструменту дэкадавання нацыянальных стасункаў, якая была замацаваная ў хуткім часе ў перапісах 1880 г. у Аўстра-Венгрыі, 1890 г. – у Прусіі і 1897 г. – у Расіі, мела таксама яшчэ адно далёкасягаючае

Russischen Reiches in der Volkzählung von 1897. Vol. 1. / H. Bauer, A. Kappeler, B. Roth (Hrsg.). Stuttgart, 1991. S. 25–87.

13 Ibid.

14 Arel, D. Op. cit. P. 95.

15 Ibid.

наступства: яна, па сутнасці, сталася адным з падставовых элементаў таго працэсу “вынаходніцтва Усходняе Еўропы”, які апісвае ў сваёй кнізе Лары Вульф[16]. Бо тыя “заходнія статыстыкі, што прысутнічалі на сесіях Інтэрнацыянальнага статыстычнага кангрэсу, не думалі, што нацыянальнасць, як культурная супольнасць, мае дачыненне да іх дзяржаваў <...> нацыянальнасць на Захадзе была прыроўненая да дзяржавы нараджэння (г.зн. грамадзянства) індывідуума”[17]. І тое, што катэгорыя нацыянальнасці, атоесненая з моваю індывіда, сталася часткай навуковага дэмаграфічнага дыскурсу і адпаведных практыкаў перапісаў, разглядалася імі як частка таго “нонсенсу”, якім выступала ў іхніх вачах прастора Усходняй Еўропы.

Для далейшага разгляду трэба мець наўвеце, што вышэйазначаная Санкт-Пецярбургская канферэнцыя пакінула тое ж паняцце “langue parlée”, дадаўшы толькі азначэнне “мова паўсядзённага стасавання”[18]. Такім чынам, не было праведзена падзелу паміж прыватным і публічным выкарыстаннем мовы, бо відавочна, што мова хатняга ўжывання і мова, якую чалавек выкарыстоўвае ў публічнай сферы, можа адрозніваецца, што і было паўсюднай практыкай у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Менавіта гэтая двухсэнсоўнасць, закладзеная ў азначэнне катэгорыі “мовы” ў Санкт-Пецярбургскай канферэнцыі, і сталася тым люстэркам, у якім адбіліся межы “аб’ектыўнасці” новазнойдзенага крытэру нацыянальнасці. Бо хутка высветлілася, што кожны зусім не “цудоўна ведае сваю асабістую мову”, якой менавіта моваю ёсць гэтае канкрэтнае маўленне, якая мова свая і якая асабістая – усе гэтыя пытанні апынуліся не маючымі відавочных адказаў. Адказ на гэтая пытанні стаўся справаю элітаў: адбыўся падзел паміж адміністрацыяй імперыяў (Прускай, Аўстра-Венгерскай і Расійскай), якая настойвала на занатоўванні мовы публічнага стасавання, і лідэрамі нацыянальных рухаў, што настойвалі на сваім азначэнні “langue parlée”[19]. Бо з пункту гледжання наратыву нацыянальнага адраджэння існыя імперскія інстытуцыі, як і сукупнасць усталяваных сацыяльных адносінаў, выступалі не больш, чым прыладамі асіміляцыі. Таму адбывалася наўпростае атаясненне “несправядлівай” дзяржаўнай палітыкі з “чужынскім” уздзеяннем, з культурнай вайной рознанацыянальных сацыяльных арганізмаў. А калі мова была замацаваная, у тым ліку і праз практыкі перапісаў, з асноўным індыкатарам нацыяналь-

16 Wolff, L. Inventing Eastern Europe: the map of civilization on the mind of the enlightenment. Stanford University Press, 1994. 419 p.

17 Arel, D. Op. cit. P. 96.

18 Ibid.

19 Гл. разгляд гэтых працэсаў на падставе чэшска-нямецкага канфлікту ў Ibid. P. 101–103.

насці – то і “нацыянальны канфлікт”, як тлумачальная матрыца для крытыкі дзяржаўнае палітыкі, пераносіўся ў цэнтр моўных пытанняў. Таму ў якасці адзінага “аб’ектыўнага” крытэру для вызначэння “сваёй”, “асабістай” мовы было прапанавана канцэптуалізаваць “прыватную” мову індывіда – тое маўленне, што па-за абшарам, дасягальным для дзяржавы. На перакрыжаванні гэтых інтэнцыяў і з’явілася паняцце матчынай ці роднай мовы.

Пасля Першай сусветнай вайны, калі Аўстра-Венгрыя, Германія і Расія апынуліся падзеленымі на незалежныя дзяржавы ці савецкія рэспублікі (у адпаведнасці з лінгвістычным крытэрам), пытанне нацыянальнасці, у адрозненне ад перадваенных практыкаў, было непасрэдна ўнесена ў апытальнікі ці 1. замест моўнага пытання (Румынія, Польшча), ці 2. у дадатак да моўнага пытання (СССР), ці 3. поруч з ім (Чэхаславакія: “Якая ваша нацыянальнасць [родная мова]?”)[20]. У той жа час у Савецкім Саюзе асобна занатоўваліся і нацыянальнасць, і мова, прычым у той час, як родная мова абіралася самім апытаным, нацыянальнасць (вызначаная ў тым ліку і як лінгвістычная прыналежнасць) лічылася праддадзенай – вызначалася паводле нацыянальнасці бацькоў (адзіным выпадкам, калі яе можна было абіраць, быў выпадак змешанага шлюбу бацькоў).

Паралельна нацыянальнасць інстытуалізавалася праз адпаведную графу ў пашпарце. Такім чынам, у паваенныя гады адбываецца пэўнае размежаванне паміж катэгорыямі нацыянальнасці і мовы, што надае іх стасункам пэўнай дынамікі, але ж там, дзе назіраецца пэўная хісткасць нацыянальнай ідэнтычнасці ці існуе некалькі альтэрнатыўных палітычных стратэгіяў яе мадэлявання, лінгвістычныя аргументы граюць вырашальную ролю, а таму і адпаведныя фармуліроўкі пытанняў перапісу нясуць на сябе сляды палітычнай барацьбы[21].

Чым жа ёсць родная мова? Справа ў тым, што на гэтае пытанне ў сучаснай лінгвістыцы існуе некалькі, падчас супрацьлеглых, адказаў: 1) мова, якой індывід авалодаў першай у дзяцінстве (азначэнне ў перапісах ЗША); 2) мова, якой ён валодае найлепш падчас перапісу (азначэнне ў перапісах Швецыі і Фінляндыі); 3) мова сімвалічнага атаясnення – “мова продкаў”. “Першая мова ці мова ўжытку – кожная з сітуацый можа быць азначана як «матчына мова», у залежнасці ад нацыянальнага кантэксту”[22], у той час як “абранне той ці іншай адмены вынікае з палітычных рашэнняў”, “нейтральная катэгорыя ідэнтычнасці ёсць аксюмаранам”[23].

---

[20] Ibid. P. 96.

[21] Гл. сучасныя прыклады Квебеку і Бельгіі ў Ibid. P. 110–116.

[22] Ibid. P. 115.

[23] Ibid.

З пункту гледжання ўсяго вышэйазначанага і тых спрэчак, што разгарнуліся вакол азначэння роднае мовы, пададзенага ў цяперашнім перапісу, цікава будзе параўнаць тыя азначэнні і фармулёўкі, што падаваліся ў папярэдніх перапісах:

Табліца: фармуліроўка моўнага пытання ў перапісах, што адбываліся на беларускае тэрыторыі да здабыцця незалежнасці Беларусі[24]:

Год Фармуліроўка Указанні да адказаў

1897 12. Родная мова. Тут запісваецца назва той мовы, якую кожны лічыць для сябе роднаю. Для расійскай мовы досыць пазначэнні "Р", для маларасійскай – "М", для беларускае – "БЛ", іншыя ж мовы павінны быць занатаваныя цалкам, напрыклад, польская, французская, англійская, нямецкая, габрэйская, татарская, мардоўская і г.д.

1926 5. Родная мова. Роднай моваю прызнаецца тая, якой апытаны лепш за ўсё валодае ці на якой звычайна размаўляе. Роднай мовай дзяцей, што не ўмеюць размаўляць, лічыць мову маці; роднай мовай глуханямых лічыцца мова, якой яны карыстаюцца ў зносінах з атачэннем.

1939 8. Родная мова. Запісваецца назва мовы, якую сам апытаны лічыць сваёй роднай. Роднай мовай для дзяцей, якія яшчэ не ўмеюць размаўляць, запісваецца мова, на якой звычайна размаўляюць у сям'і. Роднай мовай глуханямых лічыцца мова, якой карыстаецца іх сям'я ці асобы, з якімі яны пераважна маюць стасункі. Родная мова можа не супадаць з нацыянальнасцю.

1959 8. Родная мова. Запісваецца назва мовы, якую сам апытаны лічыць сваёй роднай мовай. Калі апытаны не можа назваць якую-кольвек мову роднай, трэба запісаць назву мовы, якой апытаны лепш за ўсё валодае ці якой звычайна карыстаецца ў сям'і. Роднай мовай для дзяцей, якія яшчэ не ўмеюць размаўляць, запісваецца мова, на якой звычайна размаўляюць у сям'і. Роднай мовай глуханямых лічыцца мова, на якой яны чытаюць і пішуць, ці якой карыстаюцца сям'я ці асобы, з якімі яны пераважна маюць стасункі. Родная мова можа не супадаць з нацыянальнасцю.

1970 8. Родная мова. Указаць таксама іншую мову народаў СССР, якой вольна валодае. Запісваецца назва мовы, якую сам апытаны лічыць сваёй роднай мовай. Калі апытаны не можа назваць якую-кольвек мову роднай, трэба запісаць назву мовы, якой ён лепш валодае ці якой звычайна карыстаецца ў сям'і. Родная мова дзяцей, якія яшчэ не ўмеюць размаўляць, і іншых малалетніх дзяцей

[24] Паводле: Подлесных, О. Вопросы о языках в переписных анкетах и государственная языковая политика // Этнические категории и статистика / под ред. Е. Филипповой. М., 2008. С. 39–49.

вызначаецца бацькамі. Калі бацькі не могуць вызначыць родную мову дзіцяці, варта запісаць мову, на якой звычайна размаўляюць у сям'і. Роднай мовай глуханямых лічыцца мова, на якой яны чытаюць і пішуць, ці якой карыстаецца іх сям'я ці асобы, з якімі яны пераважна маюць стасункі. Родная мова можа не супадаць з нацыянальнасцю. Пасля запісу роднай мовы ў верхнім радку асобам, што вольна валодаюць іншай моваю народаў СССР (г.зн. умеюць вольна размаўляць на гэтай мове), запісаць у ніжнім радку, якой (расійскай, украінскай і г.д.) мовай апытаны яшчэ валодае. Калі апытаны, акрамя роднага, вольна валодае яшчэ дзвюма і больш мовамі народаў СССР, то варта запісаць толькі тую з іх, якой ён лепш валодае. Асобам, што валодаюць вольна іншай мовай народаў СССР, а таксама дзецям, яшчэ не ўмеючым размаўляць, у верхнім радку запісваецца родная мова, а ў ніжняй запісваецца "няма".

1979 8. Родная мова. Указаць таксама іншую мову народаў СССР, якой вольна валодае. Запісваецца назва мовы, якую сам апытаны лічыць сваёй роднай мовай. Калі апытаны не можа назваць якую-кольвек мову роднай, трэба запісаць назву мовы, якой ён лепш валодае ці якой звычайна карыстаецца ў сям'і. Родная мова дзяцей, якія яшчэ не ўмеюць размаўляць, і іншых маладетніх дзяцей вызначаецца бацькамі. Калі бацькі не могуць вызначыць родную мову дзіцяці, трэба запісаць мову, на якой звычайна размаўляюць у сям'і. Роднай мовай глуханямых лічыцца мова, на якой яны чытаюць і пішуць, ці якой карыстаецца іх сям'я ці асобы, з якімі яны пераважна маюць стасункі. Родная мова можа не супадаць з нацыянальнасцю. Пасля запісу роднай мовы ў верхнім радку асобам, якая вольна валодае іншай мовай народаў СССР ці ўмее толькі вольна размаўляць на гэтай мове, запісваецца назва гэтай мовы (расейская, украінская, казахская, латышская і д.п.). Калі апытаны, акрамя роднай, вольна валодае дзвюма ці больш мовамі народаў СССР, то варта запісаць толькі тую з іх, якой ён лепш валодае.

1989 9. Родная мова. Указаць таксама іншую мову народаў СССР, якой вольна валодае. Запісваецца назва мовы, якую сам апытаны лічыць сваёй роднай мовай. Калі апытаны не можа назваць якую-кольвек мову роднай, трэба запісаць назву мовы, якой ён лепш валодае ці якой звычайна карыстаецца ў сям'і. Родная мова дзяцей, якія яшчэ не ўмеюць размаўляць, і іншых маладетніх дзяцей вызначаецца бацькамі. Калі бацькі не могуць вызначыць родную мову дзіцяці, трэба запісаць мову, на якой звычайна размаўляюць у сям'і. Роднай мовай глуханямых лічыцца мова, на якой яны чытаюць і пішуць, ці якой карыстаецца іх сям'я ці асобы, з якімі яны пераважна маюць стасункі. Родная мова можа не супадаць з нацыянальнасцю. Пасля запісу роднай мовы ў верхнім радку асобам,

якая вольна валодае іншай мовай народаў СССР, то бок умее чытаць, пісаць і вольна размаўляць ці ўмее толькі вольна размаўляць на гэтай мове, запісваецца назва гэтай мовы (расійская, украінская, казахская, латышская і д.п.). Калі апытаны, акрамя роднай, вольна валодае дзвюма ці больш мовамі народаў СССР, то варта запісаць толькі тую з іх, якой ён лепш валодае.

Перапіс насельніцтва адбываўся і ўва Украіне ў 2001 г. Тут "рідною мовою записувалась та мова, яку самі опитувані вважали рідною. Рідна мова дітей, які ще не вміли говорити, та інших малолітніх дітей визначалася батьками". "Національність записувалася зі слів самих опитуваних без документального підтвердження; національність малолітніх дітей визначалась батьками. У разі виникнення ускладнень з визначенням національності дитини, коли батьки були різної національності, перевага надавалась національності матері"[25].

Перапіс насельніцтва ў Расійскай Федэрацыі мае адбыцца ў 2010 г., у перапісных лістах пытанне нацыянальнасці сфармулявана наступным чынам:

Ваша национальность;

По самоопределению;

Национальность детей определяют родители;

адмысловая графа: отказ от ответа.

Моўныя пытанні сфармуляваны наступным чынам:

10.1 Первый язык, усвоенный Вами в детстве (родной язык);

10.2 Какими языками вы обычно пользуетесь? Можно записать несколько языков, но не более трех;

10.3 Владеете ли Вы русским языком?[26].

Цікава адзначыць, што ў той час беларускае грамадства актыўна абмяркоўвае пытанні, датычныя нацыянальнасці і мовы, для саміх стваральнікаў перапісу – на ўзроўні публічных выступленняў – гэтая праблема як быццам і не існуе: артыкулы, змешчаныя на афіцыйным сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэта РБ, абыходзяць маўчаннем "скандальнае" моўнае пытанне[27]. Адзінае згадванне беларускай мовы змяшчае артыкул у беларускамоўнай "Звяздзе"[28], дый тое датычыць ён толькі беларускамоўнай формы перапіснага ліста:

"Як вядома, ці не найбольш спрэчным момантам перапісу-99 стала мова. Сёлета, лічаць у Нацыянальным статкамітэце, падобныя пытанні ўзнікнуць не павінны.

---

25 http://www.ukrcensus.gov.ua/.

26 http://www.perepis2002.ru/ct/perepis2010/blank/do.zip.

27 Гл.: http://belstat.gov.by/homep/ru/perepic/2009/main_d.php.

28 http://belstat.gov.by/homep/ru/perepic/2009/articles/4.php.

– Форма перапіснога ліста падрыхтавана як на рускай, так і на беларускай мове, да таго ж, па жаданні рэспандэнта, пытанні перапісу могуць быць зададзеныя на любой з дзвюх дзяржаўных моў, – кажа Уладзімір Зіноўскі. – У прыватнасці, падчас навучання перапісчыкаў асаблівая ўвага будзе надавацца менавіта правільнасці правядзення апытання па-беларуску”[29].

## Некаторыя высновы

1. Перапіс ёсць уцялесненнем таго сеціва паняццяў, праз якія ўлада бачыць падкантрольнае ёй “сацыяльнае цела”, праз якія яна вымярае і намацвае ўзровень лаяльнасці, а таксама тыя сацыяльныя антаганізмы (магчыма толькі ўяўныя), улагодзіць якія яна бачыць сябе пакліканай. У той жа час тое сеціва ўцялесніваецца і дублюецца ў сістэме практык адміністравання і навуковых дыскурсах, такім чынам надаваючы сістэме “ўяўных” катэгорый усё большы статус пачатковай “рэчаіснасці”. Гэта значыць, праз перапіс мы маем шанец зазірнуць у своеасаблівае “мысленне” ўлады.

2. У той жа час, як і любы навуковы дыскурс, што выконвае замову ўлады і высновы якога ўцялесніваюцца ва ўладных, інстытуцыянальных структурах, дыскурс дэмаграфіі і канкрэтна практыкі перапісаў маюць сваю пэўную інерцыю і суверэнітэт. Выяўляецца гэта, апрача іншага, і ў тым, што дзяржава не можа, па сутнасці, неяк радыкальна змяніць сістэму этнічных (расавых, сацыялінгвістычных) катэгорый згодна з сваімі інтарэсамі. Хутчэй яна знаходзіць ужо зададзеным пэўны веер магчымых навуковых рашэнняў, з якіх яна абірае выгадныя ёй. Адсюль другая тэма: уплывы навуковага дыскурсу пэўнага кшталту на ўладу, дэмаграфія з яе практыкай перапісаў прадвызначае будучыя лініі ўладарання, гарызонты палітычных рашэнняў.

3. Перапіс ёсць складанаю сістэмай, дзе чалавек пакліканы, кіруючыся сваімі сімвалічнымі перакананнямі, абраць адзін з альтэрнатыўных варыянтаў “ідэнтычнасці”, каб потым патрапіць у межы адной з клетак сеткі палітычнага кантролю і навуковага дыскурсу.

4. Што “замярае” перапіс пытаннямі пра мову ці нацыянальнасць? Па сутнасці, не больш, чым статус кво, які ўсталяваўся на дадзены момант у сістэме палітычнай і сімвалічнай барацьбы вакол пытанняў ідэнтычнасці.

5. “Сацыяльным фактам” тут з’яўляецца толькі тое, што сацыяльныя актары зыходзяць з перакананняў аб “натуральнасці”, “прыроджанасці” катэгорыяў ідэнтычнасці.

[29] Усё пра ўсіх. Па-беларуску // газета «Звязда». 23.01.2009. № 12.

6. У той час як 1) для СТВАРАЛЬНІКАЎ перапісу ён [перапіс] паўстае як таксон "ісціны", як тая прызма, праз якую можна ўбачыць індывіда ў сетцы яго "аб'ектыўных" каардынатаў, патлумачыць яго ў ягонай "аб'ектыўнасці" і дадзенасці, для самога 2) ЗАПЫТАНАГА ІНДЫВІДА перапіс з'яўляецца не больш як прыватнай і памежнай формай дыялогу, на супрацьлеглым баку якой ён бачыць запытаўшую яго дзяржаву, а адпаведна – ўзровень "шчырасці" яго адказу наўпрост залежыць ад ступені даверу да ўлады. Сам жа дыялог вядзецца пра ягоную "мы-ідэнтычнасць", а таму сітуацыя перапісвання-дыялогу можа разгортвацца па двух сцэнарах: прамаўленне дадзенага, прамова рэчаіснасці ці як падстава для палітычных сцвярджэнняў, сцвярджэння належнага.

7. Сама працэдура перапісу можа быць убачанай як складаны артэфакт, які ўлучае: 1) пэўны сінхранічны "зрэз" стану навуковага поля (беларуская дэмаграфія); 2) пэўную замову з боку палітычнай эліты; 3) "супрамат" насельніцтва, якое падлягае перапісу, г.зн. здатнасць глядзець на рэчаіснасць праз акуляры катэгорыяў перапісу, гатоўнасць да "шчырых" адказаў і г.д.

# Вобразы сучаснасці ў свеце глабалізацыі[1]

## Вольга Давыдзік

Аспірантка Цэнтра стратэгічных еўрапейскіх даследаванняў і міжкультурнага супрацоўніцтва Інстытута філасофіі НАН Беларусі.

Кола навуковых інтарэсаў: сацыяльная філасофія, сацыяльна-крытычная тэорыя

Сучасны стан беларускай рэчаіснасці ёсць прадметам разнастайнага філасофска-сацыяльнага пошуку, бо вызначаецца як нетэматызаваны, супярэчлівы, увесь час слізгаючы скрозь пальцы. Абумоўлена гэта збольшага тым, што сфармаваныя тут сацыяльна-палітычныя кантэксты маюць вельмі неадназначныя, неўнармаваныя ані стратэгічна, ані каштоўнасна сцэнары, будуюць метанаратывы, спрабуюць апісаць праз іх сетку аповед прыватнага чалавека, змяняюць іх унутраную структуру наноў, спрабуючы розныя метады маніпуляцыі і адраджэння нацыі. Зразумела, што для Беларусі канец XX – пачатак XXI ст. ёсць чарговым цяжкім перыядам, бо прысутнічае інтуітыўнае адчуванне нестабільнага, варожага, нерацыянальнага сацыяльнага свету і палітычнага ладу. Таму на такой рухомай глебе паўстаюць розныя праекты апісання сучаснасці Беларусі, тэндэнцый і канстант, якія вызначаюць дынаміку і трымаюць у сабе пэўныя намёкі на будучыню. Але перш, чым звярнуцца да ўласна беларускіх праектаў сучаснасці, хацелася б засяродзіцца на двух досыць цікавых тэкстах І. Канта[2] і М. Фуко[3], што тычацца канцэпцыі Асветы, але разам з тым закранаюць вельмі істотныя моманты катэгорыі сучаснасці.

М. Фуко адзначае, што І. Канту ўласцівы іншы пагляд на сучаснасць як такую ў адрозненні ад ягоных папярэднікаў. Раней сучаснасць разглядалася у якасці таго, што дазваляе дэшыфраваць знакі будучыні, як патэнцыйнага прадвызначанага цывілізацыйнага ідэалу. Кант адказвае на пытанне пра сучаснасць іначай, звяртаючыся да сутнасці Асветніцтва. Па-першае, чалавецтва для яго знаходзіцца ў стане непаўнагадовасці, які характарызуецца пошукам аўтарытэтаў, добраахвотнае падпарадкаванне іх уладзе, хоць патрэбы ў гэтым

---

1 Апірышчам для гэтага эсэю ёсць некалькі аўтараў, то бок гэта Бауман, Дзірлік, Акудовіч, Абдзіраловіч, Бабкоў і ў некаторай ступені Йофэ з пункту гледжання яго аналізу беларускай ідэнтычнасці.

2 Kant, I. An Answer to the Question: What is Enlightenment? (1784). – Рэжым доступу: http://www.english.upenn.edu/~mgamer/Etexts/kant.html.

3 Фуко, М. Что такое просвещение. Начала новой науки о природе наций. – Рэжым доступу: http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Culture/Fuko/chto_prosv.php.

ужо няма. Выхад з такога стану застаецца і задачай, і працэсам адначасова. Кант маркіруе сучаснасць наступным выказваннем: «имей мужество, имей решимость знать». Такім чынам, першапачатковым імпульсам да вызвалення чалавека ёсць веда, рэфлектыўная дзейнасць, якая выводзіць чалавека па-за межы непаўнагадовага стану. Свабода меркавання, аналізу, крытычнага стаўлення ёсць адзінай умовай вызвалення чалавека, які, разам з тым, мусіць строга выконваць усе загады сацыяльнай сістэмы. Святар можа служыць імшу, маючы пры гэтым магчымасць свабоднага меркавання пра рэлігійныя дагматы. Такім чынам, Асветніцтва ставіць задачу перад чалавекам імкнуцца да веды і несці адказнасць за свой выбар.

Як мяркуе М. Фуко, тэкст І. Канта не можа цалкам быць задавальняючым у тым, што тычыцца Асветы, але ён ёсць каштоўным з пункту гледжання разумення гісторыі і адказнасці ўсіх і кожнага за яе, то бок адказнасць кожнага чалавека за сваю сучаснасць. М. Фуко даводзіць сэнс паняцця "установўка сучаснасці", якую прапануе разумець у якасці пэўнага стаўлення суб'ектаў да актуальнасці, як выбар, адказнасць і задачу, спосаб дзеяння і паводзінаў, адчування, падобнага старажытнагрэцкаму этнасу. Абапіраючыся на Ш. Бадлера, Фуко прапануе наступную трактоўку сучаснасці:

1. Установўка сучаснасці ёсць такім пражываннем, якое выкрывае сябе ў схопліванні менавіта таго, чым ёсць сучаснасць. Гэта не крочанне ў след, або сляпое падпарадкаванне модзе, ці канстатацыя цякучасці часу, але менавіта схопліванне нечага вечнага, што ёсць у моманце сучаснасці.

2. Гераізацыя сучаснасці не ў сэнсе сакралізацыі, але ў сэнсе прыслухоўвання і глыбіннага пагляду ў моманты сучаснасці. Не простае іх калекцыянаванне, але захаванне з мэтаю ўдасканалення. Гэта амаль паэтычнае стаўленне да моманту сучаснасці арыентуе на памкненне да свабоднай гульні паміж чалавекам і натуральнасцю прыгажосці ў схопленным моманце рэчаіснасці.

3. "Бунт чалавека супраць самога сябе". Установўка сучаснасці прадугледжвае не толькі свабоднае стаўленне да рэчаіснасці, але і крытычную ўстаноўку да сябе. Чалавек не можа задаволіцца тым, які ён ёсць у хвалях часа, яму ўласціва змяняцца, трансфармаваць сваю самасць, ставіцца да сябе "...как к объекту, сложной и тяжелой работе".

4. Магчымасць свабоднага творчага стаўлення да сучаснасці і да сябе мусіць рэалізоўвацца ў мастацтве.

М. Фуко адзначае, што гэтыя заўвагі, магчыма, не вычэрпваюць усяго пытання пра Асвету, але канстатуюць захаванне ў філасофіі пазіцыі самарэфлексійнага суб'екту і трывалай крытыкі актуальнага быцця. Выхад з-пад гнёту Асветы (шантажу Асветы) ёсць другасным пытаннем, бо ключавым момантам ёсць уласна пазіцыя –

пазітыўная ці негатыўная. Праблема заключаецца ў крытычным стаўленні да нас саміх і спосаба нашага быцця. Па-першае, гэта неабходна для таго, каб правесці рэвізію дастатковых элементаў для канструявання нас саміх, як аўтаномных суб'ектаў. Па-другое, такое крытычнае стаўленне павінна быць здзейснена з мэтаю ўсведамлення розніцы паміж гуманізмам і Асветаю, паміж якімі ўзнікае блытаніна, з мэтаю выключэння першага з праекту суб'ектыўнасці, бо паняцце "гуманізм" ёсць размытым і мусіць ўблытвацца ў рытарычную гульню абсалютна любой ідэалогіі (Фуко прыводзіць прыклад са сталінізмам).

Такім чынам, згодна з М. Фуко, удакладненне сутнасці чалавечага існавання адбываецца шляхам асэнсавання свайго стаўлення да сучаснасці, паглыблення ў працэс канструявання аўтаноміі суб'екта праз рэвізію элементаў, якія маюць дачыненне да гэтага канструявання. Прычым такое разуменне павінна здзяйсняцца скрозь прызму гістарычнага досведу, праз пазітыўную крытыку пераадолення, а не ўсталявання межаў, як гэта вызначалася ў Канта. Для суб'ектыўнасці важна ўвесь час мець на ўвазе тыя гістарычныя дыскурсы, якія ўплываюць на наша маўленне, учынкі і мысленне. "Итак, я бы охарактеризовал философский этос, присущий «критической онтологии нас самих», как историко-практическое исследование границ, которые мы можем преодолевать, и, следовательно, как нашу работу над нами самими как над свободными существами". Гэта працэс генеалогіі гісторыі з мэтай высвятлення ўмоваў, якія паўплывалі на нашу ідэнтычнасць. У выніку задача філасофіі – ставіць пытанні з нагоды як сучаснасці чалавека, так і з нагоды межаў магчымай свабоды і магчымасцяў іх пераадолення.

Тэндэнцыя гамагенізацыі, спроба наладзіць такія стасункі паміж развітымі краінамі і тымі, хто адсунуты на пазіцыі краінаў *трэцяга свету*, што яны вымушаныя на працягу сваёй мадэрнізацыі аглядацца на дэмакратычны ўзор Захаду, аднак не з'яўляецца такой адназначнай і мае шмат якіх схаваных працэсаў, якія пажадана прыхаваць пад маскаю глабалізаванага свету.

Аўтары, што аналізуюць працэс глабалізацыі і тыя тэндэнцыі, што павінны ствараць *сучаснасць*, прыходзяць у выніку да высновы, што не толькі глабальныя працэсы ў свеце маюць супярэчнасці і нясуць у сабе рознага кшталту праблемныя дыспазіцыі, але і сам дыскурс сучаснасці ёсць неадназначным і мае некаторую колькасць праекцыяў, што ўзнікаюць у нетрах і на перыферыі еўрапацэнтрычнага і еўра-амерыкацэнтрычнага метанаратываў. Ці мае рацыю казаць пра метанарацыю ў свеце, які імкнецца да размывання якога-кольвек цэнтраванага разумення рэчаіснасці? Ці можна ў прынцыпе сцвярджаць, што існуе пэўная арганізаваная

сістэма знакаў, якая праектуецца на іншыя сістэмы і прапануе, але, можа, і змушае да ініцыяцыі сваімі значэннямі і сэнсамі? Напэўна, можна казаць пра тое, што існуе тэндэнцыя ўспрыняцця пэўнага культурнага і палітычнага асяродку як дамінантнага. Еўрапейская і амерыканская мадэлі чалавечага ўкладу жыцця вызначаюцца як экспансіўныя, але збольшага справядліва экспансіўныя, хоць такая маральная афарбоўка падаецца не вельмі трапнаю для апісання матывацыі прыхільнікаў азначаных мадэляў развіцця. Безумоўна, існуе пэўная колькасць незадаволеных, чые меркаванні наконт палітыкі Захаду таксама маюць рацыю і базуюцца на пэўных падставах. Але ўсё яшчэ мы вымушаныя зазначыць, што, калі раптам пахіснецца *амерыканскі цуд*, чалавецтва апынецца перад сацыяльнай, эканамічнай і палітычнай катастрофай планетарнага маштабу.

Такім чынам, трэба адзначыць, што мы маем некалькі праяваў таго, як мы мусім разумець сучаснасць, і дамінуючай сярод гэтых праекцыяў з'яўляецца еўрапейска-амерыканская мадэль. Аднак насуперак ёй паўстаюць іншыя праекты, якія мусяць прэтэндаваць на значнасць і актуальнасць, гэтыя лакальнасці, высунутыя на перыферыі свету, дзе кажуць пра адсутнасць цэнтру, часам гвалтоўна і агрэсіўна заяўляюць свае прэтэнзіі на дамінацыю, ці прынамсі, на ўплыў у сусветным гістарычным працэсе. Еўрапейская мадэль дамінацыі і сучаснасці можа быць параўнана з тым, каго Бауман называе *лэндлордамі, што адсутнічаюць*[4], бо еўрапейскі метанаратыў як мадэль элітарнага панавання ў сучаснасці, дзякуючы тэхнічным сродкам, пераўзыходзіць межы і крочыць насустрач усім лакальнасцям і нацыянальнасцям, пазбаўляючы Іншага ягонага статусу, з аднаго боку, а з іншага – пакідае адказнасць за ягоны лёс на ягоных плячох, бо больш не зацікаўлена ў выжыванні яго як Іншага для сябе. Бабкоў зазначае, што Еўропа пакідае Іншага на сваіх межах дзеля таго, каб кожны раз звяртацца да яго і вызначаць уласную культуру як элітарную, высокага кшталту[5]. Аднак пад націскам тэндэнцыяў глабалізацыі еўрапейскі, ці амерыканскі праекты дэмакратызацыі, да прыкладу, мусяць пазбягаць гэтага з пункту гледжання памкненняў да гамагенізацыі свету і абсарбацыі лакальнасцяў у сваю цывілізацыйную стадыю. Бауман зазначае, што для капіталу, які ў сучасным свеце лёгка і без перашкодаў здзяйсняе вандроўкі ў самыя розныя кропкі і абсалютна не зважае на тыя рознасці, культурныя ці сацыяльныя, да таго моманту пакуль не сутыкнецца з супрацьдзеяннем. Але каб супрацьдзеянне было распазнаная як та-

---

[4] Бауман, З. Улада без месца, месца без улады. – Рэжым доступу: http://www.nir.ru/sj/sj/34-bauman.htm.

[5] Бабкоў, І. Этыка памежжа: транскультурнасць як беларускі досьвед // Каралеўства Беларусь. Вытлумачэнне руінаў. Мінск, 2005. С. 115.

кое і прымусіла ўступіць у камунікацыю, яно мусіць валодаць пэўнай цэльнасцю сябе, то бок быць досыць замкнёным культурным, эканамічным і сацыяльным арэалам. Мабільнасць капіталу прыніжае здольнасць пэўных рэгіёнаў да стварэння такой цэльнасці і да вырошчвання ў сваіх нетрах пэўнага агрэсіўнага асяродку, які б мог арганізаваць якое-небудзь супрацьдзеянне.

Нешта падобнае адбываецца і ў працэсе глабалізацыі свету і размывання лакальнасцяў пад ціскам напору еўропа- і амерыкацэнтрысцкае карціны свету. Маўклівыя масы людзей, вымушаныя толькі назіраць за падзеямі, пазбаўлены магчымасці адпаведным чынам рэагаваць на тое, што адбываецца ў палітычнай сферы, дзе прымаюцца рашэнні наконт іхняга агульнага існавання. Тады, калі еўрапейская культутра вызнаецца як узор высокага кшталту і транслюецца належным чынам элітамі розных краінаў, лакальныя культуры рэгіёнаў трэцяга свету даследуюцца з уважлівай зацятасцю біёлага, разбіраюцца на часткі і заносяцца ў энцыклапедыі дзеля змяшчэння ў гіганцкі еўрапейскі музей для захавання. Тое, што бальшынёй людзей успрымаецца як *блізкае, знаёмае ці роднаснае, свойскае*, размываецца пад уздзеяннем глабалізаваных стасункаў, калі арэнай палітычных і эканамічных, сацыяльных актаў становіцца ўвесь свет. *Дом*, у тым разуменні, якое прапаноўвае Розанаў, да прыкладу, губляе сваё значэнне як для тых, хто атрымлівае магчымасць быць мабільным, так і для тых, хто з гэтага моманту вымушаны быць прывязаным да адной мясцовасці, да адной лакальнасці і не мае магчымасці атрымаць той самы статус, што і іх больш удалыя апаненты. Няма падставаў казаць, што такая сацыяльная пазіцыя з’яўляецца чымсьці новым: мае значэнне той факт, што рэсурсы і магчымасці значна пашырыліся для дзейнасці элітаў, што яшчэ больш віртуалізаваліся і цалкам сталі аўтаномныя ад тэрыторыі і ад *тутэйшых*, якія, па словах Баўмана, зараз вымушаны існаваць на абмежаванай прасторы. Такім чынам, атрымліваецца, што існуюць розныя сучаснасці на розных узроўнях: ад планетарнага да сацыяльнага. Сучаснасць унутры сябе падзяляецца на сучасных тых, хто можа быць мабільным, і тых, хто замкнёны ў межах аднае тэрыторыі; сучаснасць еўра-амерыканскага кшталту і сучаснасць краінаў трэцяга свету[6]. Іншыя, тыя, хто застаюцца на маргінальных або перыферыйных пазіцыях, прызначаны да дэманстравання ўнікальнасці еўра-амерыканскага праекту з аднаго боку, а з іншага ўкладаюць кантэнт агульнай, універсальнай гісторыі, у якую яны ўключаюцца.

[6] Дзірлік, А. Рэканфігуруя сучаснасць: ад мадэрнізацыі да глабалізацыі // Журнал “Гендерные исследования”. № 7–8. С. 9. – Рэжым доступу: http://www.gender.univer.kharkov.ua/gurnal-007-8.shtml.

У сваім артыкулу А. Дзірлік адзначае, што еўрапейскі праект у аналізе посткаланіяльных даследаванняў выглядае на метанаратыў, які патрабуе чысціні і дасканаласці ад сваёй гісторыяграфіі, нават шляхам зацірання сваіх уласных гістарычных каранёў, "змяшчэннем іх у новы кантэкст". Да таго ж посткаланіяльныя даследаванні паказалі, што для сучаснасці характэрна развіццё двух новых шляхоў мыслення: першае тычыцца дэманстрацыі таго, якімі сродкамі еўра-амерыканскі праект аддзяляе сябе ад ўздзеяння Іншага, а другое – якім чынам той жа самы праект размывае нацыянальныя культуры або пакідае іх у стане індыферэнцыі, бо тыя, што ўступаюць у канфлікт пераўтвараюцца ў гібрыдныя формы і здзяйсняюць той праект сучаснасці, які паглынае нацыянальныя культуры.

Справе экспансіі капіталу і глабалізацыі падпарадкуюцца шмат якія ідэалогіі, у тым ліку і ідэалогія плюралізму культураў, іх роўнасці, але таксама аргументы за гібрыдызацыю, бо яны захоўваюць у сабе палітычнае разуменне адсутнасці такой роўнасці і нават адсутнасці патэнцыі да ўзнікнення і развіцця такой роўнасці. Уключэнне нацыянальных культураў у агульны дыялог з нагоды сучаснасці – гэта такая ж праява ўніверсалізацыі і выціскання на маргінэз, як і еўра-амерыканская гісторыяграфія і дэмакратызацыя. А. Дзірлік схіляецца да думкі, што сучаснасць, калі ўвогуле можна казаць пра такі тэмпаральна вылучаны перыяд, лепш за ўсё характарызуецца тэрмінам імперыі, як яго разумелі і эксплікавалі ў аднайменнай кнізе Мішэль Хардт і Антоньё Негры. Імперыя[7], як *біялагічная* ўлада, – гэта чыстае дамінаванне, чыстая воля да ўлады, якая актуалізуе свае кансалідуючыя механізмы толькі пад час пагрозы ўласнаму існаванню. Такім чынам, рэагаванне гэтага па-за гістарычнага фармавання носіць выключна сітуацыйны характар, мае рысы арганізму, які абараняецца зручнымі сродкамі, але не праводзіць нейкай паслядоўнай палітыкі, адзінай яе палітыкай з'яўляецца самазахаванне ва ўніверсальнасці і вечнасці, "якая палягае па-за межамі гісторыі"[8].

Той хаос, што ўзнікае ў нетрах імперыі, не вырашаецца яе сродкамі, бо не з'яўляецца мэтаю імперыі, выключаючы моманты прамой пагрозы існаванню. З гэтага Імперыя фармуе свой вобраз сучаснасці, вельмі праблемны, з выбухамі хаатычных праяваў і супрацьстаянняў, аднак у яе нетрах яшчэ ўзнікаюць у шэрагу дыструкцыйных праяваў і іншыя, адрозныя формы мыслення, якія выражаюць іншыя формы асэнсавання сучаснасці, насуперак памкненням імперыі да выціскання з памяці старых формаў асэн-

[7] Хардт, М., Негри, А. Империя. – Рэжым доступу: http://www.gumer.info/bibliotek_Buks/Polit/hardt/index.php.

[8] Тамсама. С. 100.

савання. Імперыя, апроч таго, што наноў фармуе планетарнае размеркаванне, яшчэ і афармляе іншы спосаб мыслення і вобраз сучаснасці, стварае хаос і маскуе тыя праблемы, што нарадзіліся яшчэ за часам мадэрну.

Такім чынам, мы можам зрабіць вынік, што вобраз сучаснасці, сама сучаснасць ёсць суплётам многіх аспектаў: гістарычных, палітычных, сацыяльных, культурніцкіх, інш. Каб адказаць на пытанне, чым ёсць сучаснасць для нас зараз, з чаго яна складаецца і як мы яе магчыма ўспрымаем, можна звярнуцца да ўласнага лакальнага (з пункту гледзішча глабальнага) досведу і актуалізаваць тыя тэарэтычныя канструкты, што былі спрадукаваныя інтэлектуаламі ў ягоных межах. Звернемся да трох тэкстаў беларускае культуры, розных па часе і па культурна-гістарычнаму атачэнню, а менавіта да тэксту І. Абдзіраловіча, В. Акудовіча і І. Бабкова.

І. Абдзіраловіч, як вядома, прапануе канцэпт ліючыйся формы, якая прынцыпова не засяроджана на пэўным застылым, стрыжневым, цэнтраваным разуменні рэчаіснасці. Гэтая прынцыповая ліючасць, перацяканне аднаго ў другое, пазбаўлена прасторавай укарэненасці ўжо ад пачатку свайго існавання. Тэрмін "форма", які больш-меньш надае канкрэтнасці самому паняццю, носіць тут выключна сітуацыйны характар, бо, апроч вызначэння пэўнага стану існавання, яна не актуалізуе ніякае асацыяцыі з тым, што мае акрэсленыя межы. Мяжа для ліючагася рэчыва – гэта тое, у што яно будзе змешчана штучна. Такой мяжой можа быць усё, што заўгодна, любая канструкцыя або структура, і тады разуменне рэчаіснасці і светабудова будуць залежыць ад знешніх умоваў. Але пэўна павінна застацца нешта нязменнае ў тым рэчыве, якое "заліваецца" ў форму бытнага і актуалізуе пэўны стан рэчаў. Для лакальнасці, якая змяшчаецца ў некаторую рамку, павінны заставацца нязменнымі тыя прынцыпы і сэнсы, якія і робяць з лакальнасці лакальнасць. Да прыкладу, габрэі, жывучы на розных абмежаваных тэрыторыях, у складзе ВКЛ ці Расейскай імперыі, адмыслова захоўвалі магчымасць заставацца досыць закрытай нацыянальнай адзінкай, хоць і траплялі ў розныя сацыяльныя, культурныя і гістарычныя ўмовы. Беларусь, атрымаўшы свой сучасны назоў у XIX ст. ад Багушэвіча, доўжыць сваё фармаванне і зараз, бо атрымаць сваю гістарычную спадчыну, так бы мовіць, легальным шляхам, то бок шляхам пэўных негвалтоўных трансфармацыяў, не атрымалася, а працяг барацьбы за прызнанне як самастойнай нацыянальнай адзінкі і да сёння суправаджаецца рознага кшталту праблемамі і супрацівамі.

"Ліючаяся форма" як канструкт асэнсавання сябе ва ўмовах працэсу нацыястварэння ёсць для Беларусі як праекту, адным з магчымых шляхоў да таго, каб не згубіцца паміж імперыялістычнымі

і еўра-амерыканскімі формамі сучаснага. Здольнасць "ліцца" паміж метанаратыўнымі гігантамі і міфалагемамі, кшталту "славянскага братэрства" і еўрапейскай прыналежнасці – гэта той шлях існавання, які дагэтуль захоўвае Беларусь, як гэта было за часам Саветаў, так і за цяперашняй уладай Лукашэнкі. Але такое існаванне ўсё ж такі суправаджаецца яшчэ і вельмі непразрыстай будучыняй, бо немагчыма прадугледзіць, паміж якімі формамі будзе адбывацца гэтае "перацяканне". Трэба адзначыць, што такі стан культуры, апроч таго, што захоўвае пэўнае ядро, паводле якога яна вызначаецца як існая, культура атрымлівае яшчэ і тыя характарыстыкі, што надаюцца ёй аб'ектыўна ў працэсе дачынення да розных Іншых. Падзел на суб'ектыўны і аб'ектыўны аспекты ў культуры як "ліючыйся форме" тут здзяйсняецца з мэтаю падкрэсліць, што адносна ўнутранняга ядра лакальнай культуры працэс далучэння да еўра-амерыканскага метанаратыву ёсць аб'ектыўным следствам. У сувязі з "ліючайся формай" трэба адзначыць, што ў сучаснасці Беларусі існуе тры аспекты, якія прэзентуюць яе (сучаснасць) з уласнага гледзішча згодна з дамінантнымі светабудоўчымі ўстаноўкамі: натывісцкі, крэольскі і прарасейскі-ліберальны[9]. Такое размаітае поле трактовак беларускай сучаснасці не падаецца выпадковым, сфармаваным шляхам выпадковай генерацыі абставінаў і ідэяў. З гледзішча асноўнага культурна-філасофскага тэксту (І. Абдзіраловіча), які ўважаецца за пэўны ўзор мыслення, такая сітуацыя цалкам вынікае з натуральнага стану рэчаў, з таго, як і якім чынам павінна фармавацца беларуская нацыянальная рэчаіснасць. Мы можам адно казаць пра нестасоўнасць пагдядаў, да прыкладу, крэольскай нацыянальнай ідэі з непасрэднымі інтарэсамі развіцця менавіта *беларускага* праекту як праекту канструявання беларускай мовы, самабытнай культуры, незалежнай палітыкі, суверэннай еўрапейскай дзяржавы і г.д. Але такое панаванне зусім розных ідэяў нацыястварэння з'яўляецца тады цалкам натуральным, і, больш за тое, толькі такое існаванне, паміж гэтымі розніцамі, ёсць нарамалёвым для беларускай інтэлектуальнай палітычнай прасторы. Пытанне тады застаецца толькі з якасцю такіх праектаў, ідэяў, іх жыццяздольнасці і да т.п.

З гэтага гледзішча абсалютна натуральным выглядае, так бы мовіць, інтэлектуальны працяг, наследаванне ідэі ліючайся формы сп. В. Акудовічам, толькі ўжо асэнсаванае праз праекцыі постмадэрну. Філосаф прапануе глядзець на Беларусь вачыма, не пашкоджанымі ніякім метанаратывам, ніякай цэнтраванай ідэяй, якая б мусіла выступаць у якасці адзінага стрыжню, вакол якога б разгортвалася нацыянальная будоўля. Постмадэрн як найбольш спрыяльны канструкт для аналізу беларускай сітуацыі адзначыўся

[9] Йофэ, Г. Культурныя войны, пошукі душы і беларуская ідэнтычнасць. С. 349.

тут у архетыпе балота як адпаведніку адсутнасці цэнтру і пэўнага метанаратыву, пануючай ідэі, якая б структуравала рэчаіснасць. На думку аўтара, гэта звязана з тым фактам, што для “тутэйшага” чалавека неўласціва схільнасць да эйдэтычнага мыслення і апрабацыі яго на глебе бытнага. Такая “неўпісанасць” у агульны еўрапейскі кантэкст вымагае прагу да набліжэння гэтага прыкладу стасункаў з рэчаіснасцю. Канструяванне рэальнасці згодна з ідэальным прынцыпам ёсць зрэшты асаблівасцю, але і агульным метадам еўрапейскай культуры, тады як для беларуса ўласціва пражыванне быцця ў ягонай непасрэднасці, быццё як такое ёсць непасрэдным асяродкам артыкуляцыі ўсіх жыццёвых чалавечых прынцыпаў. Аднак, як заўважае сп. В. Акудовіч, застаецца пэўная незадаволенасць такой непасрэднасцю і не заангажаванасцю ніякімі ідэальнымі канструктамі. Схільнасць да “штукавання” з рэчаісным ёсць пэўна агульна чалавечай рысаю, таму беларуская прастора таксама непазбегла такога чалавечага “ўмоўнага” структуравання. Зрэшты такое будаванне ідэальнага кантэксту пераўтвараецца ў фатальнае і правальнае, бо “перацягванне” ідэальных канструкцыяў адбывалася штучным. Ненатуральным чынам, бо не мела “тутэйшага” паходжання. Рэзультатам атрымлівалася “чарговы землятрус”, які “абрушваў нашу канструкцыю, і мы зноў апыналіся на руінах некалі запазычаных абстракцыяў, паныла адзначаючы, што парэшткі высокіх ідэяў у каторы раз пакрысе зарастаюць дробным чарналессем бытнага...”[10].

Такім чынам, адмаўляючыся дыскурсійнай практыкі *балота* мясцовы чалавек абрынае на сваё бытнае чужынныя яму ідэі, канструкты, татальныя праграмы падпарадкавання сабе рэчаіснасці замест таго, каб прызнаць неабходнасць постмадэрнісцкага праекту Беларусі як прасторы суіснавання розных і роўных паміж сабою дыскурсаў. Такая ж самая праблема паўстае з праектам Адраджэння, у якім пануе “Нацыянальная Ідэя” у якасці абстракцыі, што замінае развіццю іншых практыкаў беларускасці. З гэтага любая ўніверсалісцкая канструкцыя падаецца і паўстае ненатуральнай для прасторы беларускага бытнага. Афармляецца два ўяўленні пра Беларусь: *дыскурс Беларусі* і *ідэя Беларусі* – варожыя адзін аднаму ўяўленні. “*Ідэя* Беларусі – гэта звычайны платонаўскі сімулякр, якім не пазначаецца нішто рэальна яўнае і які мае сэнс адно ў а-рэальнасці, да таго ж толькі ў яе логацэнтрычным закутку... *Дыскурс* Беларусі – гэта пэўны вымер вечна рухомага бытнага, які ахоплівае ўсе соцыякультурныя феномены, што могуць быць паасобку ці ў вязьме актуалізаваныя (вымкнутыя з сваёй латэнтнай утоенасці) хоць якой апрычонай сітуацыяй”[11].

---

10 Акудовіч, В. Разбурыць Парыж: два несправаджаных эсэя // Фрагмэнты. 2000. № 9. – Рэжым доступу: http://knihi.com/frahmenty/9akudovich.htm.

11 Акудовіч, В. Назв. сач.

Праз разбурэнне логацэнтрычнага стаўлення да рэчаіснасці Беларусь і чалавек у ёй мусяць быць упісаны ў агульнасусветны кантэкст, з аднаго боку, а з іншага – даць магчымасць развіццю розных сцэнароў беларускасці, розных дыскурсаў беларускасці, якія стануцца практыкамі фармавання новай беларускай ідэнтычнасці, і гэткім чынам расчыняцца магчымасці для самотнай занядбанасці бытнага, што было прымусова ўпісанае неаднойчы ў межы татальнай ідэі, пануючага цэнтру, які дыктуе правы і абавязкі рэчаіснасці.

Такім чынам, сп. Акудовіч уводзіць беларускае разуменне сучаснасці, свайго лакальнага сучаснага кантэксту ў сусветныя рамкі, упісвае Беларусь у глабальнасць праз дэканструяванне Ідэі як структуры, што арганізуе бытнае чынам падпарадкавання, шэрагавання ці цэнтравання. Разбіраючы які-кольвек існуючы ў беларускай прасторы ідэальны канструкт, што мусіў б зарганізаваць мысленне таталітарным чынам, мы пакідаем ягоныя часткі дзеля таго, каб з іх сабраць некалькі розных разуменняў сучаснасці, беларускасці і інш., размываючы, гэткім шляхам, магчымасць існавання аднаго прачытання нацыянальнага кантэксту.

Сп. Бабкоў ідзе далей, цалкам знішчае магчымасць нават прадукавання Ідэі, якая б агортвала сабою ўсю рэчаіснасць і апісвала б яе. Этыка памежжа тэарэтычна здзяйсняе праект канчатковага вынішчэння слядоў метанаратыву і ўводзіць панятак, што прэзентуе іншы шлях мыслення культурнай прасторы і бытнага. Анталагічна, памежжа – гэта менавіта “мудрасць” існавання ў стане падзеі мяжы, пераходаў свайго і чужога, “агалення” тых сутнасцяў, якія дагэтуль ёсць у маўклівым існаванні цэнтру. Цэнтр знікае, калі мы звяртаемся да мяжы, паўстае іншае разуменне топікі, іншае экзістэнцыяльнае вымярэнне культуры, якая асэнсоўвае сябе менавіта праз гэтыя падзеі, сустрэчы іншага, сутыкненні з чужым. Дынамічна ж існаванне ў памежжы ёсць не пераходамі цераз мяжу, а “прасоўваннем паўз існуючых межаў”[12], сітуацыя *нявыбару* паміж гэтымі сваім і чужым, “існаваньне між Айчынай і Чужынай, якія насамрэч аказваюцца двума тварамі адзінага цэлага”[13].

З гэтага беларускі досвед у пошуку цэльнасці, механічнага звязвання сваіх памежжаў абарочваецца *беларускай доляй*, якая страчвае кожны раз гэтую цэльнасць, бо Беларусь менавіта паўстала з гэтага цьмянага існавання ў прасторы памежжа, але ніводнага разу (акрамя “Тутэйшых”) не рабілася спробы тэматызаваць гэты свой стан. Такім чынам, беларускія землі з’яўляюцца традыцыйна прасторай, дзе сустракаюцца некалькі культурных дыскурсаў, і тады на

---

12 Бабкоў, І. Этыка памежжа: транскультурнасць як беларускі досьвед // Каралеўства Беларусь. Вытлумачэнне руінаў. Мінск, 2005. С. 112.

13 Тамсама.

сёння спроба стварыць ”монанацыянальнасць”, монакультурнасць, забяспечыць сучасную беларускую нацыю адной мовай, адной гісторыяй, ёсць, прынамсі з боку гэткай полікультурнасці, штучным працэсам. І. Бабкоў адзначае, што сучасная полікультурная сітуацыя ў Беларусі можа нечым нагадваць мульцікультуралізм, што дазваляе існаваць некалькім Іншым на адной тэрыторыі, але такі праект застаецца ўтапічным, бо, на думку аўтара, беларуская культурная, моўная сітуацыя зараз ёсць *вайной культураў*[14].

Беларуская культурная прастора, моўная прастора застаецца на сённяшні момант вайной культураў, дзе ўласна беларускі праект не стаўся метанаратывам, але застаўся з часоў свайго стварэння субкультурным рэчышчам сярод іншых. *Такім чынам, тут не здзяйсняецца культура ці мова, тут здзяйсняецца ўлада і вайна нарытываў.* Цэнтр, барацьба за яго застаюцца першаснымі мэтамі, і гэтая барацьба адбываецца збольшага паміж беларускім праектам адраджэння і заходнерускім наратывам. З гэтага, беларуская сучаснасць ёсць тым, што яшчэ толькі фармуецца і афармляецца пад уплывам вайны паміж рознымі наратывамі і культурнымі практыкамі. Тады нашае існаванне зараз, у цяперашні момант, застаецца няпэўным і нявызначаным, бо няма апірышча, няма тае прасторы, якая б была вольная ад супрацьстаяння розных інтэрпрэтацыяў культурнага і палітычнага развіцця нацыі. Гэткае размыванне разумення беларускасці, гэткі транзітыўны стан адсылае нас да разумення сітуацыі Беларусі як арэны, дзе адным з магчымых сцэнароў развіцця застаецца страта ўласна нацыянальнага і паглынанне лакальнага глабальным працэсам сусветнага развіцця.

Такім чынам, гетэрагенны, фрагментаваны свет, якім ён паўстае зараз на нашы вочы, мае ў сабе розныя супярэчлівыя працэсы і рознае разуменне таго, як і якім чынам чалавецтва мусіць існаваць і развівацца. Праекцыі сусветнага развіцця і існавання лакальных культураў, суверэнітэтаў часта разыходзяцца ў сваіх пазіцыях. Да таго ж, сучаснасць, як яна нам бачыцца з нашага ўласнага кантэксту, з нашага пункту гледжання, мусіць быць цалкам адрознай ад таго, што бачыць і разумее іншы, тым болей Іншы, які пагражае паглынаннем дробных часцінаў культурнага і палітычнага сусветаў. Адзінае, што нам застаецца, гэта развіццё мыслення такога кшталту, каб ствараць магчымасці для крытычнага стаўлення да працэсаў, што адбываюцца ў свеце глабалізацыі, якая не ёсць аднародным рухам, і аналіз тэндэнцыяў гэтага руху і магчымых наступстваў.

---

[14] Бабкоў, І. Назв. сач.

# Идеология белорусского государства как образовательный проект

Татьяна Островская

Университет имени Эрнста Морица Арндта, Грайфсвальд, Германия, докторант, культурные исследования.
Сфера интересов: миссия и роль интеллектуалов в Беларуси, интеллектуалы и власть, историческое образование и его влияние на формирование коллективной идентичности, региональные исследования, исследования пограничья

Образование, тесно связанное с практикой институционализации национального государства, являлось важнейшим фактором формирования национальной идентичности начиная с XVIII ст. Б. Ридингс в своей знаменитой книге "Университет в руинах" связывает начало этого процесса с проектом Берлинского университета, предложенным и реализованным В. фон Гумбольдтом. Ридингс пишет, что "план Берлинского университета, намеченный Гумбольдтом, включал в себя фундаментальную реорганизацию дискурса знания, в результате чего университет должен был принять на себя опосредующую, культурную функцию, возложенную на него государством: поиск объективного культурного смысла государства как исторической величины и одновременно субъективное нравственное воспитание граждан-субъектов как потенциальных носителей этой идентичности"[1].

В современности, которая формируется под влиянием глобализационных процессов, данная ситуация претерпевает значительные изменения. Прежде всего, изменяется статус самого национального государства, которое больше не является ключевым экономическим и политическим игроком на мировой арене. Также происходят изменения и в статусе образования как социального института, которое выходит из-под тотального контроля национального государства. Появляются новые возможности и источники образования, и, соответственно, новые основания идентичности.

Тем не менее можно предположить, и это особенно очевидно на примере анализа институциональных практик образования в Республике Беларусь, что важнейшая роль в формировании национального и гражданского самосознания по-прежнему принадлежит государственному, формальному образованию. Хотим мы того или

---

1 Ридингс, Б. Университет в руинах. Главы из книги // Отечественные записки. 2003. № 6 (14).

нет, но государство через образование самым непосредственным образом участвует в формировании представлений белорусов о самих себе. Так, из 9,5 млн населения Республики Беларусь, около 3 млн непосредственно вовлечены в сферу образования. Не говоря уже про то, что образование – это институт, через который проходит каждый. Именно поэтому роль образования как социального института в процессах нациостроительства и формирования национальной идентичности представляется нам определяющей.

Важная роль образования постоянно утверждается и на официальном уровне: образование провозглашается приоритетным направлением социально-экономического развития Беларуси. Инвестиции в сферу образования – не только материальные, но и ресурсные – объявляются наиболее перспективным вложением средств.

Молодежной политике, которая резонно представляется одной из важнейших сфер социальной политики, уделяется большое внимание, в том числе и в сфере образования. Как полагает политолог В. Бобров, акцентирование молодежной политики, как и становление идеологической системы в целом связаны с необходимостью “борьбы за умы”, то есть воспитания индивида, лояльного белорусской политической системе[2].

Нам представляется немаловажным разобраться, как происходит формирование этого образа о самих себе, какие механизмы применяются, а также в том, какой видит нынешняя власть белорусских граждан. В этом отношении нам представляется важным обратить внимание на два взаимосвязанных процесса, которые указывают на намерение власти освоить сферу образования как важный плацдарм для формирования коллективной идентичности.

Во-первых, интенсификация формирования законодательной базы в сфере образования в последнее десятилетие, которая сопровождается как принятием новых законов регламентирующих сферу образования (например, “О высшем образовании”, “О профессионально-техническом образовании”, “О специальном образовании в Республике Беларусь”), так и внесением изменений и дополнений в существующие законы. Кроме того, в ближайшее время ожидается принятие Кодекса об образовании, который призван полностью регламентировать и упорядочить сферу образования.

Во-вторых, это создание и внедрение такого масштабного проекта белорусской власти, как проект белорусской идеологии, который реализуется в основном средствами образования. Анализ данного проекта и его связи с образовательным проектом может способствовать формированию конкретных представлений не

---

2 Бобров, В. Молодежная политика // Наше мнение. Аналитика. – Режим доступа: http://nmnby.eu/news/analytics/2152.html.

только о теории, но и о практике нациостроительства в современной Беларуси.

Точкой отсчета реализации нового подхода к формированию национальной идентичности можно считать выступление президента Беларуси А. Лукашенко на пресс-конференции 17 сентября 2002 г., когда была объявлена необходимость формирования национальной идеи.

И почти одновременно эта установка начинает внедряться в сферу образования.

В 2003 г. был издан приказ "Об идеологическом сопровождении воспитательной работы", который связал воспитание с идеологической работой. А 1 апреля 2004 г. был издан еще один приказ "О неотложных мерах по организации идеологической работы в вузах". Среди основных пунктов плана – пропаганда среди студентов и преподавателей государственной символики, обеспечение наглядной агитации, усиление контроля над дисциплиной, усиление контроля за поступлением средств из зарубежных фондов, контроль над выездом студентов за границу.

Можно выделить три основных направления реализации данного проекта формирования коллективной идентичности в сфере образования.

Первое направление осуществляется непосредственным внедрением курса "Идеология белорусского государства", наряду со спецкурсом "Великая Отечественная война советского народа (в контексте Второй мировой войны)", в учебный план высших учебных заведений с февраля 2004 г. в качестве обязательных предметов.

Второе направление связано с имплицитным присутствием идеологии в образовательном процессе, например, через внесенные изменений в другие преподаваемые курсы, такие как белорусский/русский язык/литература, обществоведение и, прежде всего, история. При этом содержание курсов подвергается постоянным изменениям.

И третье направление, посредством которого реализуется проект белорусской идеологии, – это воспитательная работа, которая провозглашается неотъемлемой частью образовательного процесса. Возрастающую роль воспитательного компонента подтверждает принятие 16 ноября 2006 г. Концепции непрерывного воспитания детей и учащейся молодежи в Республике Беларусь на 2007–2010 гг.

Один из ярких примеров осуществления воспитательной работы – введение института кураторства, который обязывает преподавателя идеологически работать со студентами не только в аудитории, но и за ее пределами.

В этой связи стоит упомянуть работу Макса Вебера "Наука как призвание и профессия", один из центральных вопросов которой: правомерно ли преподавателю выражать свои политические взгляды и пристрастия в аудитории? Вебер приходит к выводу, что это не правомерно, поскольку преподаватель и студент находятся в аудитории не в равной ситуации. Используя свой авторитет как преподавателя в политических целях в аудитории, преподаватель тем самым навязывает свою точку зрения студенту. Таким образом, говорит Вебер, место политической агитации на трибуне, а не на кафедре. Эта установка принята и в белорусской академической среде: вы не вправе выражать свои политические взгляды, кроме, конечно, поддержки курса нынешней власти. В этом случае все переворачивается с ног на голову: преподаватель оказывается активно вовлеченным в политическую агитацию, более того, он обязан ее осуществлять, навязывая студенту позитивный образ нынешней политической власти.

В таком случае оказывается нереализованной важнейшая установка на автономность и совершеннолетие, которая со времен Канта представляется важным условием гармоничного существования индивида в обществе. Скорее, в случае высшего образования в Беларуси наблюдается обратная ситуация: студенту всячески пытаются навязать несовершеннолетие, опекая его как во время, так и за пределами образовательного процесса. Причем это неумение пользоваться собственным умом реализуется и на уровне не-выбора идентичности, и отсутствия рефлексии над собственной идентичностью.

Говоря об идеологии белорусского государства и ее роли в формировании национальной идентичности, хотелось бы обратиться не к теоретическим основаниями, которые привлекают постоянное внимание исследователей, но к практике реализации данного проекта.

В качестве примера внедрения идеологической составляющей в практику белорусского образования был проведен анализ журналов, которые предназначены для современных белорусских педагогов. Можно предположить, что они имеют определенное влияние на формирование мировоззрения и подходов к преподаванию и воспитанию у учителей. Это происходит по двум причинам. С одной стороны, в связи с чрезвычайной нормативностью образовательного процесса, что означает, что белорусский педагог поставлен перед необходимостью строго следовать правилам. А с другой стороны, эти образовательные журналы публикуют не только статьи, рекомендации о том, как надо работать, но и активные отклики учителей о том, как они работают, как выполняют и как справляются с поставленными перед ними задачами.

Французский философ Луи Альтюссер использовал термин "интерпелляция", которым обозначал ответ индивида на неопределенный вызов власти, индивид расценивает такой вызов как обращенный к самому себе и с готовностью на него отвечает, усиливая тем самым эффект оклика (вызова), обретая при этом статус субъекта в заданных условиях. Нам представляется, что публикации в научных и методических журналах для педагогов являются таким ответом на неопределенный призыв к созданию идеологии белорусского государства, причем ответом двухуровневым, поскольку публикации редакторов журнала вызывают в свою очередь реакцию готовности проводить педагогическую работу у педагогов и отчитываться за ее проведение.

В связи с вышесказанным можно предположить, что педагогические журналы задают определенные приоритеты и тенденции в национальном образовании в силу своей перформативности, и, анализируя их, можно увидеть: имеет или не имеет свой эффект идеологическая работа. В частности, на основании анализа подборки журналов "Адукацыя і выхаванне" с 2000 г. 2010 г. оказалось возможным выявить следующие тенденции.

- Тесная взаимосвязь между образованием и воспитанием. Именно школа рассматривается как ведущий институт в деле консолидации нации и формирования национальной идентичности. Эта задача отмечается и министром образования А.М. Радьковым: "Главная миссия школы заключается в воспитании достойных граждан общества"[3].
- Патриотическое воспитание рассматривается как средство и цель для объединения нации. При этом патриотизм понимается как, прежде всего, локальный патриотизм, как любовь к своей малой родине и знание ее истории, что должно способствовать становлению гражданского самосознания в целом. Патриотизм также понимается как совокупность *конкретных* действий и поступков, направленных на благо как малой, так и большой Родины[4].
- Национальное представляется как гражданское или этническое. Нация понимается как этническое, то есть основанное на общности происхождения, либо гражданское, то есть основанное на общности политического участия, образование. Но целостного понимания, что такое национальное, что такое гражданское и этническое не присутствует. Эта разобщенность прослеживается, кстати, не только в практике, но и в теории идеологии; так в учебниках идеологии прила-

---

3 Патракова, Л.И. Итервью с Министром образования А.М. Радьковым "Мы должны воспитывать гражданина Республики Беларусь" // Адукацыя і выхаванне. 2003. № 12. С. 4.

4 Кастэнка, Д.В. "Патрыятызм – гэта найперш любоў да людзей...". Роздум з элементамі інтэрв'ю // Адукацыя і выхаванне. 2004. № 16. С. 3–7.

гательное национальный имеет позитивные коннотации, в то время как в выступлениях Лукашенко – как правило негативные.

• В то же время тематика гражданского воспитания и образования значительно преобладает над этническим и культурным воспитанием, что особенно заметно начиная с публикаций 2004–2005 гг. Можно предположить, что такая тенденция связана с претворением в жизнь упомянутых выше приказов 2003 г. Так, А.М. Радьков заявляет о значении идеологии в процессе воспитания: "Важно, чтобы белорусские дети воспитывались в духе национальной идеологии"[5].

• В то время как культурному фактору идентификации практически не уделяется внимания.

• Национальное воспитание нередко приравнивается к этническому и строится вокруг изучения традиций и обычаев белорусского народа, создания этнических кружков и "белорусских хаток". И в связи с этим белорусская культура воспринимается как инородная, а белорусский язык и культура как иностранные.

• Формирование гражданского самосознания тесно связано с изучением и осмыслением исторического прошлого, ключевым событием рассматривается Вторая мировая война.

Таким образом, обнаруженные тенденции являются свидетельством целенаправленного и достаточно эффективного (судя по активному отклику учителей о проведении идеологической и патриотической работы в публикациях) внедрения проекта белорусской идеологии в образовательный процесс. Что не может иметь результата в отношении субъектов образовательного процесса, а именно студентов и школьников. Этот процесс имеет как позитивные, так и весьма негативные следствия. К первым можно отнести осуществление процесса консолидации белорусской нации и самоидентификации в белорусском обществе. О чем свидетельствуют и результаты социологических исследований[6]. В то же время проект идентичности, который предлагается и навязывается посредством образовательного процесса, является гомогенизирующим и исключающим как неприемлемые другие виды идентичностей, что является недопустимым, но в то же время и невозможным в совре-

---

5 Патракова, Л.И. Итервью с Министром образования А.М. Радьковым "Мы должны воспитывать гражданина Республики Беларусь" // Адукацыя і выхаванне. 2003. № 12. С. 7.

6 См., например, результаты исследования "Национальная идентичность глазами белорусов: кто мы и какими мы будем?", проведенного совместными усилиями проекта "Будзьма разам!", лаборатории аксиометрических исследований NOVAK и Белорусского института стратегических исследований BISS. – Режим доступа: http://www.euramost.org/index.php?artc=12950.

менных условиях, когда сфера государственного образования утрачивает тотальную прерогативу на формирование индивида.

Тем не менее определенные шаги в сторону рефлексии над идентичностью, которая предлагается и которая принимается, должны быть сделаны и учителями, и учениками соответственно.

В этом смысле продуктивным представляется понятие Bildung. Которое, как пишет Билл Ридингс, уже в понимании представителей философии Романтизма означает рефлексивный процесс познания, отличный от простого приобретения позитивных знаний[7]. Который подразумевает собой не простую передачу фактов от преподавателя к студенту, но также обучение принципам приобретения знаний, включая непосредственную демонстрацию данного умения. Таким образом, пишет Б. Ридингс, "преподаются не факты, а критика – формальное искусство использования умственных сил, практика суждения"[8]. Таким образом, в этом процессе важнейшая роль отводится преподавателю.

С другой стороны, лауреат Нобелевской премии по литературе, немецкий писатель Гюнтер Грасс в своем выступлении перед учениками одной из немецких гимназий, подобно И. Канту, говорит о необходимости не только стать, но и быть совершеннолетним. Поскольку совершеннолетие – это сознательный акт. Быть совершеннолетним, говорит Грасс, – это "быть ответственным и, стало быть, не молчать"[9]. Построение демократии, утверждает Грасс, даже если она наличествует на бумаге, процесс постоянный и требует постоянного участия граждан, поскольку демократия нуждается в совершеннолетних гражданах. При этом совет Грасса подрастающему поколению достаточно конкретен: "Не молчать даже при встречном ветре, громко против ветра говорить свои «да» или «нет» и эти «да» или «нет» обосновывать"[10].

Таким образом, идеология белорусского государства представляется нам сложно сконструированным, гомогенизирующим и при этом достаточно эффективным механизмом, который нередко подчиняет своим целям образовательный процесс. В таком случае возрастает роль всех участников образовательного процесса, в первую очередь учителей и учеников, чувство ответственности которых и рефлексивная позиция могут воспрепятствовать замещению образовательных целей идеологическими.

---

7 Ридингс, Б. Университет в руинах / пер. с англ. А.М. Корбута; под общ. ред. М.А. Гусаковского. Минск, 2009. С. 99.

8 Там же.

9 Грасс, Г. Быть совершеннолетним. – Режим доступа: http://scepsis.ru/library/id_2539.html.

10 Там же.

# Сацыяльнае канструяванне рэальнасці ў беларускім афіцыйным дыскурсе

## Юлія Сальнікава

Міжнародная арганізацыя Pact, Inc, кансультант.
Сфера навуковых інтарэсаў: асэнсаванне актуальных беларускіх рэалій праз оптыку сучасных сацыяльных тэорый; грамадзянская супольнасць і яе роля ў сацыяльных трансфармацыях; інстытуцыяналізацыя грамадзянскай супольнасці ў Беларусі

Канструктывізм як напрамак сацыяльнай тэорыі прапануе падыход, пры якім сацыяльная рэальнасць не разглядаецца як дадзенасць і нязменная фактычнасць. Пад канструктывісцкім тэзісам "факты канструююцца" маецца на ўвазе, што факты знаходзяцца ў залежнасці ад пэўных чалавечых дзеянняў і ўзаемадзеянняў. Сацыяльны канструктывізм цікавіцца прыродай, паходжаннем і функцыянаваннем сацыяльных фактаў, то бок інтэрсуб'ектыўным разуменнем. У сэрцы канструктывісцкай тэорыі індывід разглядаецца як сацыяльнае стварэнне, якое збірае веды і развівае ідэнтычнасць праз пастаянныя сацыяльныя інтэракцыі. Адпаведна, калі мы кажам пра сацыяльнае канструяванне рэальнасці, то пад рэальнасцю разумеем сістэму інтэрсуб'ектыўных меркаванняў і дэфініцый, якія былі спрадукаваныя і працягваюць прадукавацца ў сацыяльных інтэракцыях.

Сацыяльная рэальнасць – гэта своеасаблівая "гульня" сацыяльных інтэракцый. У гэтай "гульні", зразумела, не ўсе "гульцы" маюць аднолькавую ролю, пазіцыю і ўладу. Паколькі "рэальнасць" – гэта пераважна веды пра гэтую "рэальнасць", тыя гульцы, якія валодаюць і кантралююць веды, маюць дамінантную ролю ў гульні.

У Беларусі дзяржаўны апарат як сацыяльны агент мае манапольную ўладу ўплываць на партыкулярныя дыскурсы і партыкулярныя бачанні ў грамадстве. У тэксце я спрабую паказаць, што, па-першае, сённяшняя беларуская ўлада здолела за адносна невялікі тэрмін стварыць устойлівы інстытуцыянальны парадак, праз які транслюе сваё бачанне сацыяльнага свету; і, па-другое, дзеля ўласнай легітымацыі афіцыйны дыскурс эфектыўна выкарыстоўвае як экспліцытныя дактрыны, так і датэарэтычныя сродкі, якія ў паўсядзённым жыцці не рэфлексуюцца і адпаведна не ўсведамляюцца як навязаныя звонку.

Калі храналагічна мы вызначаем беларускі афіцыйны дыскурс адрэзкам у 15 год, то можна казаць пра значную аб'ектывацыю дзяржаўных інстытуцый. За 15 год інстытуцыянальны парадак новай улады быў трансляваны не толькі некальким генерацыям беларусаў, але і перададзены як мінімум аднаму пакаленню тых, хто гэты па-

радак падтрымлівае. Бергер і Лукман кажуць пра люстэркавы эфект пры перадачы інстытуцыянальнага парадку новаму пакаленню, дзякуючы чаму аб'ектыўнасць інстытуцыянальнага свету "павялічваецца" і "ўмацоўваецца" не толькі для "дзяцей", але для заснавальнікаў гэтых інстытуцый[1]. То бок можна фіксаваць, што ўжо толькі з улікам працягласці свайго існавання дзяржаўныя інстытуцыі здолелі атрымаць уласную самавідавочную рэальнасць і ў некаторых выпадках нават анталагічны статус. Таму, калі афіцыйны дыскурс артыкулюе формулы кшталту "Так гэта робіцца", можна меркаваць, што нават для носьбітаў гэтага дыскурсу ўласны інстытуцыянальны парадак больш не падаецца празрыстым і зразумелым.

Паколькі сацыяльны канструктывізм сцвярждае важнасць аналізу ролей у сацыяльным канструяванні рэальнасці, падаецца апраўданым факусіраванне дадзенай працы менавіта на ролі дзяржавы як найбольш моцнага і паспяховага гульца ў полі сацыяльных інтэракцый. Забягаючы наперад, ужо цяпер можна адзначыць рэіфікаванасць пэўных ролей, калі частка самасвядомасці, аб'ектываваная ў ролі, успрымаецца ў якасці непазбежнага лёсу. Факт трэцяга (і відаць, не апошняга) тэрміна кіравання дзейнага беларускага прэзідэнта ўпісваецца ў парадыгму такой рэіфікацыі.

Можна канстатаваць, што ўлада ўсялякім чынам імкнецца, каб створаны ёй інстытуцыяналізаваны свет успрымаўся як рэіфікаваны, прыродны. Усе спробы альтэрнатыўных дыскурсаў рэканструяваць афіцыйныя практыкі, паказаць іх сканструяванасць (пры чым не такую ўжо і даўнюю) жорстка караюцца. Пра гэта сведчыць і сітуацыя з маргіналізаваннем альтэрнатыўнага (апазіцыйнага) дыскурса (дыскурсаў), і манапалізацыя ўладай публічнай прасторы, і пераслед незалежных навукоўцаў і інстытуцый. Дзіўным у гэтай сувязі падаецца свабодны дасяг да дакументаў найноўшай эпохі, у прыватнасці, да афіцыйнай газеты "Советская Белоруссия", тэксты якой дазваляюць рэканструяваць дзяржаўны дыскурс, паказаць яго генезіс, чалавечую "прыроду" і адпаведна паставіць пад сумнеў ягоную відавочнасць і нязменнасць.

## Беларускі афіцыйны дыскурс у газеце "Советская Белоруссия"

У якасці эмпірычнага матэрыялу я выкарыстоўваю тэксты газеты "Советская Белоруссия" (далей у тэксце скарочана – СБ), органа Адміністрацыі прэзідэнта, за апошнія 15 год – за перыяд прэзідэнцкага кіравання Аляксандра Лукашэнкі (другая палова 1994–2009 гг.).

[1] Бергер, П., Лукман, Т. Социальное конструирование реальности. Трактат по социологии знания. М., 1995. 323 с.

Афіцыйнае выданне з'яўляецца наўпроставым правадніком уладнага дыскурса і, на маю думку, дастаткова поўна раскрывае яго асноўныя ідэі, веды, практыкі і спосабы іх прадукавання. Фармат газеты прадугледжвае набор тэкстаў, розных па жанрава-стылёвай і тэматычнай накіраванасці, візуальнай прэзентацыі, эмацыйнай выражанасці і рознай ступені эксплііцытнасці, што дазваляе, па-першае, рэканструяваць сам кантэнт, веды, якія транслюе ўлада (кагнітыўны ўзровень), і па-другое – ацаніць ролю афіцыйнага дыскурса ў канструяванні беларускай сацыяльнай рэальнасці (практычны ўзровень).

Газета “СБ” ад пачатку свайго існавання (1927 г.) з'яўлялася выданнем органаў улады (ЦК КПб(Б), Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Кабінета міністараў пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь) і адпаведна ўяўляе сабой унікальную крыніцу матэрыялаў, якія прадукуюць і прэзентуюць беларусам дзяржаўнае бачанне сацыяльнага свету. Ад 1995 г. месца заснавальніка СБ займае Адміністрацыя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, што дазваляе лічыць СБ прыярытэтным медыяканалам прэзентацыі і самапрэзентацыі сённяшняга афіцыйнага дыскурса.

Газета выходзіць 5 разоў на тыдзень; яе наклад, пачынаючы з другой паловы 1994 г., вагаўся ад 200 тыс. да 500 тыс. асобнікаў (самы нізкі наклад – каля 203 тыс. асобнікаў – фіксаваўся ў 1995 г. у сувязі са складаным матэрыяльным становішчам выдання). Падобная працэдура ўлады сістэматычнага і бесперапыннага знаёмства са сваімі інстытуцыянальнымі значэннямі цалкам апраўдана і непасрэдна ўпісваецца ў палажэнне сацыяльнага канструктывізму пра легітымацыю інстытуцыянальнага парадку. Паколькі, як адзначаюць сацыяльныя канструктывісты, чалавечыя істоты лянівыя, няпамятлівыя, а часта яшчэ і глупыя, усялякая інстытуцыя дзеля падтрымання сваёй устойлівасці мусіць перманентна, а часам і навязліва (выпадкі прымусовай падпіскі на “Советскую Белоруссию” неаднаразова фіксаваліся) транслявацъ спрошчаныя інстытуцыянальныя формулы, каб іх было лёгка вывучыць і запомніць наступным пакаленням.

Рэканструкцыя матэрыялаў СБ дае магчымасць адсачыць працэс станаўлення сённяшняга інстытуцыянальнага парадку ад моманту прыходу да ўлады першага прэзідэнта Беларусі.

### Інстытуцыяналізацыя прэзідэнцкай улады ў 1994–1996 гг.

Аналіз першых гадоў прэзідэнцкай сістэмы кіравання на матэрыяле СБ дазваляе вылучыць два ключавыя аспекты ў інстытуцыяналізацыі афіцыйнага дыскурса. Па-першае, пераважная большасць ключавых дзяржаўных інстытуцый паўстала менавіта разам

з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Па-другое, працэсы аб'ектывацыі і інстытуцыяналізацыі дзяржаўных значэнняў адбываліся ў накірунку ўмацавання і легітымацыі прэзідэнцкай улады, у тым ліку за кошт маргіналізацыі альтэрнатыўных палітычных суб'ектаў.

Першыя месяцы кіравання Лукашэнкі адзначыліся выразным трэндам фармавання прэзідэнцкай інстытуцыі. Сваю піянерскую ролю ў перабудове грамадства Лукашэнка адкрыта акрэсліў, выступаючы праз тыдзень пасля сваёй першай перамогі на сесіі Вярхоўнага Савета РБ: "Я как Президент заявляю вам, членам правительства… все, что было до 10 июля, ушло в небытие. Перед нами открывается новая страница в истории белорусского народа" [СБ, 1994, 22 ліпеня][2]. Ужо праз чатыры дні пасля абрання на пост прэзідэнта Лукашэнка дае прэс-канферэнцыю, дзе адкрыта заяўляе пра маючыя адбыцца інстытуцыянальныя змены: "Сейчас идет перетряска былой правительственной структуры. Формируется «президентская вертикаль» – небольшая администрация-аппарат, своего рода «мозговой центр», где будут работать толковые люди" [СБ, 1994, 14 ліпеня]. Праз тыдзень Лукашэнка падпісвае "Указ аб утварэнні адміністрацыі Прэзідэнта" [СБ, 1994, 26 ліпеня].

Своеасаблівае захапленне выклікае энергія і паслядоўнасць Лукашэнкі ў накірунку да манапалізацыі ўлады. Сфармаваўшы за першыя паўтары месяцы кіравання ўласныя працоўныя органы – Адміністрацыю прэзідэнта і Кабінет Міністраў пры прэзідэнце РБ – Лукашэнка звяртаецца да рэфармавання дзяржаўнага кіравання і эканомікі. Выступаючы ў верасні 1994 г. на рэспубліканскай нарадзе кіраўнікоў мясцовага кіравання, Лукашэнка адкрыта дэкларуе сваё жаданне максімальна пашырыць паўнамоцтвы выканаўчай улады і стварыць "принципиально новую – президентскую – вертикаль власти" [СБ, 1994, 20 верасня].

Першы за час прэзідэнцтва Лукашэнкі рэферэндум 14 траўня 1995 г. (як зрэшты і два наступныя плебісцыты) выступае сімптомам інстытуцыянальных захадаў дзяржавы. Рэфэрэндум як беспасярэдні дыялог прэзідэнта з народам становіцца асобнай інстытуцыяй, якая выражае прынцыпы народаўладдзя ў Беларусі і адначасова легітыміруе дзейны інстытуцыянальны парадак. Ад пачатку ў афіцыйным дыскурсе адмаўляецца магчымасць існавання рэальных прадстаўнічых інстытуцый як пасярэднікаў паміж індывідамі і дзяржавай, уласцівых дэмакратычнаму грамадству.

Рэферэндум лістапада 1996 г. канчаткова ўмацаваў прэзідэнцкую інстытуцыю, а менавіта Адміністрацыю прэзідэнта і асабіста

[2] Тут і далей у квадратных дужках праз коску пішацца назва газеты, год і дата публікацыі.

прэзідэнта ў якасці адзінай легітымнай крыніцы ўлады ў краіне. На гэтым рэферэндуме "народ падтрымаў" змены ў Канстытуцыі, якія прадугледжвалі канцэнтрацыю ўсёй улады ў руках прэзідэнта і пераўтварэнне Вярхоўнага Савета, Канстытуцыйнага Суда і мясцовых органаў улады ў выключна фармальныя інстытуцыі.

Па сутнасці, тут быў выкарыстаны механізм негатыўнай легітымацыі, які Бергер і Лукман называюць анігіляцыяй[3]. Незалежныя заканадаўчыя, судовыя і мясцовыя выканаўчыя органы, відавочна, уяўлялі сабой дэвіянтны феномен у прэзідэнцкай сістэме каардынат, прадукуючы і публічна транслюючы самастойныя інтэрпрэтацыі сацыяльнага свету. Прэзідэнцкая інстытуцыя надала сваім апанентам адмоўны анталагічны статус, што ўрэшце рэшт выключыла іх з сацыяльнай гульні. У выніку канкурэнты ўлады апынуліся ў становішчы "хранічных апазіцыянераў" (і гэта азначэнне ўлада дала сваім апанентам ужо на самым пачатку, хаця ў сярэдзіне 1990-х гг. яшчэ толькі адбывалася пераразмеркаванне палітычнай вагі!).

Рэферэндум 1996 г. стаўся ключавой падзеяй, пасля якой інстытуцыя прэзідэнцтва па статусу і паўнамоцтвах была ўжо больш недасягальнай для іншых актараў палітычнага поля. Разумеючы лёсавызначальнасць моманту, атачэнне Лукашэнкі сканструявала такую "форму прамой дэмакратыі", як народны сход. Рэзалюцыя 1-га Усебеларускага народнага схода (19–20 кастрычніка 1996 г.) апынаецца цалкам сканструяванай прэзідэнцкім атачэннем і пазбаўлена мінімальнай калектыўнай агентнасці.

Прыкладна ў гэты ж час пачынае развівацца і іншы механізм легітымацыі ўлады – стварэнне так званых прадзяржаўных арганізацый, якія імітуюць наяўнасць грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, а насамрэч заклікаены забяспечыць падтрымку прэзідэнцкай вертыкалі сярод розных слаёў насельніцтва – моладзі, жанчын, ветэранаў і інш. Да прыкладу, Беларускі патрыятычны саюз моладзі (з 2002 г. – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі), Беларускі саюз жанчын і інш.

Такім чынам, аналіз інстытуцыянальных захадаў улады на матэрыяле СБ дазваляе зрабіць выснову, што прынцыпова сённяшні інстытуцыянальны парадак быў сфармаваны і юрыдычна замацаваны ў першыя два гады кіравання Лукашэнкі – 1994–1996 гг. Ад пачатку афіцыйны дыскурс узяў паслядоўны курс на манапольнае валоданне дэфініцыяй беларускага сацыяльнага свету і стварыў прынцыповую рамку, у межах якой у далейшым развіваліся пераважна толькі адмысловыя механізмы канцэптуальнай машынерыі (легітымацыі).

[3] Бергер, П., Лукман, Т. Указ. соч. С. 187.

## Спосабы легітымацыі афіцыйнага інстытуцыянальнага парадку

Інстытут прэзідэнцтва апынуўся гнуткай і ёмістай структурай, якая магла надалей прадукаваць новы кантэнт і селектыўна ўспрымаць неабходныя для сябе кан'юнктурныя значэнні, не асцерагаючыся пры гэтым за сваю ўстойлівасць. Паспрабуем вылучыць узроўні легітымацыі, на якіх падтрымліваецца інстытуцыянальны парадак, сканструяваны прэзідэнцкай групоўкай.

**Рэінтэрпрэтацыя савецкага мінулага.** Легітымацыя пачынаецца тады, калі пачынае транслявацца сістэма лінгвістычных аб'ектывацый. Для інстытуцыянальнага парадку датэарэтычны ўзровень мае першаступеннае значэнне. Формулы датэарэтычнага ўзроўню ў сацыяльнай імажынерыі беларусаў – "тое, што ведае кожны", "так ужо зроблены рэчы" – афіцыйны дыскурс, на наш погляд, удала задзейнічаў, калі звярнуўся да савецкага мінулага і свядома выкарыстаў працэс, які Чарльз Тэйлар называе *рэтраспектыўная рэінтэрпрэтацыя*[4]. Гэта звязана з сацыяльнай імажынерыяй[5], калі новыя веды/практыкі не проста замяшчаюць папярэднія, а адбываецца пераасэнсаванне ключавых каштоўнасцей старой традыцыі.

Палітычная культура беларускага афіцыйнага дыскурса, відавочна, улічвае сацыяльную імажынерыю "савецкага ўзору" – нядаўняга мінулага беларусаў. На "савецкасць" афіцыйнага дыскурса звяртаюць увагу многія даследчыкі. У прыватнасці, гісторык Імке Гансен заўважае моцнае падабенства мовы беларускіх дзяржаўных інстытуцый з публічнай мовай у СССР[6].

4 Taylor, C. Modern Social Imaginaries. Durham, NC, 2005. 219 p.

5 Плённасць прымянення паняцця сацыяльнай імажынерыі на постсавецкай прасторы дэманструюць, да прыкладу, даследаванні Леанідаса Донскіса і Уладзіміра Фурса. Літоўскі сацыяльны тэарэтык Леанідас Донскіс у сваёй кнізе "Формы нянавісці: заклапочаная імажынерыя ў мадэрнай філасофіі і літаратуры" (2003) аналізуе мадэрныя формы калектыўнай нянавісці і больш агульна – разнастайныя варожыя рэакцыі на мадэрніці, такія як тэорыі змовы, ідэалагічны фанатызм і таталітарызм, сэнс адчужэння і страты культурных каранёў. Уладзімір Фурс спрабуе прымяніць паняцце сацыяльнай імажынерыі для аналізу грамадскага бытавання беларускай публічнасці і заўважае, што такая даследчыцкая задача прадугледжвае ўлік складанага генезісу і іерархічнай арганізацыі сацыяльнай імажынерыі: магчымасці як спантаннага афармлення ў руцінах паўсядзённага жыцця, так і мэтанакіраванага фармавання і наяўнасці як дарэфлексіўнага ўзроўню "само сабой зразумела" ("доксы"), так і ўзроўню эксплıцытна выражаных і крытычна правяраемых прадстаўленняў.

6 Гансен, І. Прастора беларускага палітычнага дыскурсу і яго візуальныя і перфарматыўныя элемэнты // Геапалітычнае месца Беларусі ў Эўропе і сьвеце /

У афіцыйным дыскурсе пераемнасць з ранейшай савецкай сістэмай забяспечылася імітацыяй народаўладдзя – выбарамі ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, рэферэндумамі, усебеларускімі народнымі сходамі. Адметна, што імітацыяй народаўладдзя займаюцца абодва бакі – і дзяржава, і народ. Мэты першай больш-менш празрыстыя: умацаванне ўладных пазіцый ад імя народа, "галоўнай крыніцы ўлады". Насельніцтва таксама ўключана ў гульню, таму што, па-першае, гэта "правільна" ў тэрмінах манапольнага азначэння рэальнасці, а па-другое, спарадычнае выкананне "грамадзянскага абавязку" вызваляе ад далейшай навязлівай увагі з боку ўлады (іншымі словамі – спрацоўвае прагматычны матыў штодзённага жыцця). Менавіта таму Уладзімір Фурс заўважае, што беларусаў нельга назваць "сацыяльнымі ідыётамі", паколькі яны выкарыстоўваюць "сацыяльную двуаблічнасць – не проста карыслівы разлік, а інстынктыўную «падвойную бухгалтэрыю»: публічныя сацыяльныя ролі выконваюцца з эмацыйнымі інвестыцыямі і, адначасова, з цынічнай дыстанцыяй"[7].

Лукашэнка замяніў герб і сцяг квазісавецкімі сімваламі (рэферэндум 1995 г.), зацвердзіў у якасці Дня Незалежнасці дзень вызвалення Мінску ад нямецкай акупацыі (рэферэндум 1996 г.), прапануючы такім чынам "сублімацыю вяртання ў савецкія часы". У сітуацыі "прынцыпова немагчымага звароту да ранейшага сацыялістычнага ладу ён даў электарату сімвалічную замену гэтага вяртання"[8].

Рыторыка прэзідэнцкай вертыкалі абапіраецца на комплекс савецкіх міфалагем, што ўкараняліся савецкай ідэалагічнай машынай і функцыянавалі ў свядомасці электарата не проста як тэарэтычная рэфлексія, а на ўзроўні "здаровага розуму". Такім чынам, сацыяльная імажынерыя, па сутнасці, санкцыянавала створаны Лукашэнкам інстытуцыянальны парадак.

**Наратыўныя сродкі легітымацыі афіцыйнага дыскурса.** Афіцыйны дыскурс апелюе таксама да наратыўных схем вытлумачэння. На гэтым узроўні звяртае на сябе ўвагу наяўнасць культурных герояў. У беларускай сітуацыі такі герой прысутнічае ад пачатку фармавання прэзідэнцкай інстытуцыі.

---

пад рэд. В. Булгакава. Варшава, 2006. С. 121–133.

7 Фурс, В. Введение: Трансформации публичности и постсоветская ситуация // Постсоветская публичность: Беларусь, Украина. Сборник научных трудов / под ред.: М. Соколовой, В. Фурса. Вильнюс, 2008. С. 18.

8 Екадумаў, А. Палітычная сыстэма Беларусі з 1990 па 1996 год // Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 году. Менск – Варшава, 2001. С. 43.

Прэзідэнцкая інстытуцыя не проста ўяўляе сабой манапольную сілу ў сацыяльнай гульні – існуе канкрэтны гулец Аляксандр Лукашэнка, асоба якога канстытуюе і падтрымлівае дзейны інстытуцыянальны парадак. Пазбавіўшыся палітычных апанентаў, Лукашэнка тым самым стаў адзінаасобным прадстаўніком народных інтарэсаў. Рыторыка прэзідэнта тычыцца не проста выканання абавязкаў кіраўніка краіны, а культава-казачнай ролі ўсенароднага самаахвярнага апекуна: "...хочу еще раз сказать, что у Президента нет другой опоры, кроме вас, кроме народа. У меня нет ни партии, ни денег" [СБ, 1996, 23 кастрычніка]. Нездарма сам Лукашэнка любіць ужываць у якасці самадэфініцыі слова "бацька", што легітымуе ягоныя аўтарытарныя дзеянні і адпавядае неразвітаму дамадэрнаму тыпу мыслення шэраговых людзей.

Наратыўная рыторыка ўлады выяўляецца таксама ў пастаяннай прысутнасці "ворагаў" прэзідэнта і беларускага народа. Цягам усяго кіравання Лукашэнкі ў афіцыйным дыскурсе матыў "унутраных і знешніх ворагаў" з'яўляецца надзвычай папулярным, што апраўдвае хібы прэзідэнцкага кіравання і адначасова падтрымлівае вобраз Лукашэнкі як народнага абаронцы.

Выкарыстанне наратыўных сродкаў для легітымацыі інстытуцыянальнага парадку можа выступаць пэўным сімптомам. Прынамсі Тэйлар лічыць, што наратывы з напаўміфічнымі героямі ды выкрыццём ворагаў выкарыстоўваюцца ў да(не)мадэрных грамадствах. Наратывы ж мадэрнага парадку спецыфічныя, паколькі яны прэзентуюць прынцыповыя характарыстыкі мадэрнай сацыяльнай імажынерыі – асновы дэмакратычнага кіравання, павагу да правоў чалавека, прыярытэт эгалітарных і чалавечых каштоўнасцей. Адпаведна ў мадэрных наратывах "гераізм, веліч душы разбураюцца, а першынство выключных людзей паглынаецца любоўю да пасярэдніцтва"[9]. Але адваротны шлях, нагадвае Тэйлар, правакуе таталітарныя выклікі ў выглядзе камунізму і фашызму.

**Тэарэтычны ўзровень легітымацыі ўлады.** Перш чым акрэсліць наступны ўзровень легітымацыі афіцыйнага дыскурса – тэарэтычны, яшчэ раз заўважу, што інстытуцыянальны парадак ствараўся прэзідэнцкай групоўкай з абсалютна празрыстай мэтай – персанальнага ўмацавання прэзідэнта Беларусі і яго бліжэйшага атачэння. Такой транспарэнтнасцю між іншым можна вытлумачыць стабільныя пазіцыі першага і пакуль апошняга прэзідэнта. Лукашэнка паслядоўна "зачысціў" інстытуцыянальнае поле, пры гэтым кантэнт, як правіла, заставаўся на другім плане. У адсутнасць

[9] Taylor, C. Op. cit. P. 180.

іншых моцных партыкулярных азначэнняў сацыяльнага свету афіцыйны дыскурс займеў надзвычайныя паўнамоцтвы эксперыментаваць з ідэямі, дапасоўваючы іх да сваіх бягучых патрэбаў.

Вось таму, верагодна, паняцце “беларускай дзяржаўнай ідэалогіі” як чарговага эксперыменту і тэарэтычнай легітымацыі ўжо дзейнай улады з’явілася ў афіцыйнай мове толькі ў 2003 г., амаль праз 10 год знаходжання Лукашэнкі на прэзідэнцкай пасадзе. Пры наяўнасці жорсткай інстытуцыянальнай асновы нават супярэчлівыя значэнні, якія прадукуе дзяржава, радыкальна не ўплываюць на яе стабільнасць.

Шырокая інстытуцыяналізацыя, дасягнутая за 15 год, на самой справе пакутуе на брак ідэяў. Па сутнасці, да апошняга часу, акрамя спасылкі на міфічны ўнікальны шлях, рэжым так і не здолеў выразна акрэсліць сваю палітычную стратэгію. Дзейны інстытуцыянальны парадак завязаны на адной канкрэтнай асобе і на жаданні гэтай асобы ўтрымацца ля ўлады на максімальны тэрмін. Бадай, гэта і ёсць асноўнай змястоўнай канстантай сённяшняй улады. Увесь астатні кантэнт, які прадукуецца галоўным гульцом на беларускім сацыяльным полі, – барацьба з карупцыяй (сярэдзіна 1990-х гг.), інтэграцыйныя гульні з Расіяй (канец 1990-х гг.), палітычны гандаль з Еўропай (апошнія два гады) і інш. – мае кан’юнктурны характар і накіраваны на замацаванне ўладных інстытуцый.

**Сімвалічны універсум.** Падобна на тое, што інстытуцыянальны парадак дзейнай беларускай улады яшчэ не дасягнуў узроўню сімвалічнага універсуму, калі апошні ўжо ёсць сам сістэмай каардынат і не патрабуе легітымацыі. Насамрэч афіцыйная інстытуцыяналізацыя не мае (прынамсі пакуль) такой ступені рэіфікаванасці, калі ўспрымаецца сваімі стваральнікамі і наступнымі пакаленнямі як фактычнасць. Увядзенне ідэалогіі як тэарэтычнай легітымацыі і сімвалічныя гвалтоўныя акцыі датычна альтэрнатыўных сацыяльных дэфініцый пацвярджаюць факт таго, што уладны дыскурс пакуль і сам адчувае незавершанасць свайго канструявання. Дзяржаўнае бачанне рэальнасці, несумненна, з’яўляецца дамінуючым у беларускай сацыяльнай прасторы, але не адзіным.

Разам з тым імкненне дзяржавы пазіцыянаваць сябе ў якасці сімвалічнага універсуму не выклікае сумнення. Інстытуцыянальны парадак, створаны рэжымам, ахоплівае ўсё грамадства цалкам; межы сімвалічнага універсуму супадаюць з межамі Рэспублікі Беларусь. Да дэвіянтных феноменаў, прыкладам якіх выступае палітычная апазіцыя, улада выкарыстоўвае канцэптуальныя механізмы тэрапіі і анігіляцыі. Парадаксальна, але сама апазіцыя бачыць сябе легітымаванай толькі ў каардынатах сімвалічнага парадку, сканструяванага

дзяржавай, хаця артыкулюе сябе ў якасці носьбіта альтэрнатыўнага азначэння беларускай рэальнасці.

## Высновы

1. Інстытуцыянальны парадак, які ў сваіх прынцыповых характарыстыках аформіўся ў першыя два гады кіравання Лукашэнкі (1994–1996 гг.), быў дасягнуты дзякуючы празрыстай і адназначнай фармулёўцы азначэння беларускай рэальнасці – манапалізаваць усю ўладу ў руках адной персоны і яе бліжэйшага атачэння. Паслядоўная расправа з палітычнымі апанентамі (часам з выкарыстаннем экстрапалітычных метадаў) пацвярджае накіраванасць прэзідэнцкай інстытуцыі на аўтарытарнае валоданне сацыяльнай дэфініцыяй і катэгарычнае нежаданне браць у разлік альтэрнатыўныя бачанні рэальнасці. Пры гэтым захаванне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь з'яўляецца інструментальнай задачай, паколькі служыць у якасці ахоўнай (тэрытарыяльнай) рамкі прэзідэнцкага інстытуцыянальнага парадку.

2. Поспех у фармаванні і забеспячэнні далейшай устойлівасці новага інстытуцыянальнага парадку быў выкліканы апорай прэзідэнцкай групоўкі на сацыяльную імажынерыю. Выкарыстаўшы рэінтэрпрэтацыю савецкага мінулага, улада здзейсніла неканфліктны пераход беларусаў да новых практык і захавала адчуванне пераемнасці на ўзроўні штодзённасці.

У гэтым сэнсе апазіцыйнаму дыскурсу ў ягоным імкненні трансфармаваць грамадства відавочна не хапае, па-першае, сацыяльных практык, якія б мелі несупярэчлівае ўкараненне ў беларускім грамадстве, і па-другое, унутры самой апазіцыі няма згоды, якія гэта павінны быць практыкі. Памятаючы заўвагу канструктывістаў пра ляноту індывідаў, апазіцыі варта прапанаваць насельніцтву адназначную, зразумелую дэфініцыю свету, а не даваць магчымасць абіраць паміж рознымі альтэрнатывамі.

3. Феномен Лукашэнкі можна патлумачыць мэтанакіраваным апеляваннем да штодзённага кантэксту. Лукашэнка не проста размаўляе на мове народа – "трасянцы". Ён выкарыстоўвае стратэгію "рацыянальнага нацыяналізму", якую яшчэ ў 1990 г. прапаноўваў нацыянальна-дэмакратычным сілам Сяргей Дубавец, а менавіта: грунтаваць сваю дзейнасць на штодзённасці чалавечага жыцця, улічваць яе прагматычны матыў у якасці падставовага[10].

4. Поспех Лукашэнкі ў беларускім грамадстве з'яўляецца сімптаматычным. Калі браць да ўвагі развагі Чарльза Тэйлара пра формы

[10] Дубавец, С. Падставы рацыянальнага нацыяналізму // Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня. СПб., 2003. С. 116.

мадэрнай сацыяльнай імажынерыі, то Беларусь да Лукашэнкі і Беларусь сёння не з'яўляецца мадэрнай дзяржавай. З'яўленне Лукашэнкі было запраграмавана сацыяльнай імажынерыяй беларусаў. Насельніцтва дастаткова лёгка адмовілася і ад дэмакратычнага самакіравання, якое з 1991 г. пачало ўкараняцца ў краіне, і ад калектыўнай агентнасці ў публічнай сферы. У Беларусі прыжылася хіба што эканоміка як механізм мадэрнай імажынерыі, але ў спецыфічным увасабленні. Схільнасць да наратывізацыі жыцця і вера ў датэарэтычныя спосабы легітымацыі таксама выкрывае ў беларусах рысы дамадэрнай свядомасці.

Гэтая ж выснова тычыцца і вытлумачэння слабасці апазіцыйнага дыскурса ў Беларусі, які з узроўня рацыянальных практык спрабуе трансляваць каштоўнасці мадэрнага маральнага парадку – эгалітарызм, прыярытэт правоў чалавека, народнае самакіраванне, якія, аднак, пакуль не маюць апірышча ў беларускай сацыяльнай імажынерыі.

5. Інстытуцыянальны парадак сучаснай Беларусі дастаткова ўстойлівы, таму што цвёрда вызначаны ягоныя рамкі. Адпаведна паводзіны ўлады могуць быць, з аднаго боку, вельмі гнуткімі і дыпламатычнымі датычна тых ідэй, якія будуць гарантаваць яе стабільнасць (гульні з Расіяй і Еўропай пра гэта сведчаць), а з другога – жорсткімі і рэпрэсіўнымі ў адносінах да дэвіянтных феноменаў, якія пагражаюць перафармулёўкай створаных сацыяльных канструктаў (факт разгонаў нават малакалькасных апазіцыйных акцый пераконвае ў тым, што ўлада не збіраецца ні з кім канкураваць на палітычным полі).

6. Інстытуцыянальны парадак сучаснай Беларусі вельмі хісткі, таму што пабудаваны вакол канкрэтнай персаналіі. Лукашэнка мае наратыўным чынам сканструяваны імідж адзінага абаронцы народных інтарэсаў і гаранта стабільнасці. Прэзідэнт у Беларусі – гэта не ананімная роля, а персаніфікаваны герой. Тут адбылося тое, што ў сацыяльным канструктывізме фіксуецца, як рэіфікацыя ролі, якая аб'ектыўна – дзякуючы люстэркаваму эфекту з боку падначаленых – бачыцца індывіду як непазбежнае наканаванне. Можна з вялікай ступеняй верагоднасці прагназаваць, што зыход Лукашэнкі можа быць успрыняты ў масавай свядомасці як разбурэнне сацыяльнай стабільнасці ў прынцыпе. Насамрэч, са з'яўленнем новага прэзідэнта хутчэй за ўсё значная частка створаных уладных інстытуцый апынецца ў крызісным стане.

# “Линия Лукашенко” – официальные дискурсивные стратегии Великой Отечественной войны


## Солвита Дениса-Лиепниеце (Solvita Denisa-Liepniece)

PhD Латвийского Университета (Латвия) и Антверпенского университета (Бельгия), главный редактор русской службы новостей Латвийского телевидения, исследователь Антверпенского университета.

Научные интересы: политическая коммуникация и политическая риторика, межкультурная коммуникация


### Введение

В этой работе предлагается анализ конструирования национальной идентичности через дискурс войны (Второй мировой войны, Великой Отечественной войны – рассматривается разная номинативная стратегия), который создает властвующая элита (ruling elite) Беларуси[1]. Для проведения анализа использовались разные источники – преимущественно это выступления президента РБ А. Лукашенко и представителей МИД РБ (выступления в честь Дня Независимости, новогодние обращения, выступления на Генеральной Ассамблее ООН, а также интервью А. Лукашенко иностранной прессе).

К вопросу о значении коллективной, в данном случае национальной, идентичности обращаются многие авторы. Попытку обобщить различные подходы в выборе теорий и методов исследования провела группа исследователей, предложившая своеобразную “сводную” таблицу-методику измерения идентичностей[2]. По итогам конференции “Identity as a variable” группа гарвардских исследова-

---

1 О предложеном Р. Милсом (Mills) понятии и его значении в Беларуси существует относительный консенсус со стороны исследователей. См. подробнее: White, S., Korosteleva, E., Lowhental, J. Postcommunist Belarus. Lanham, 2005; Korosteleva, E., Lawson, C., Marshal, R. Contemporary Belarus: Between Democracy and Dictatorship. London, 2003; Silitski, V. Preempting Democracy: The Case of Belarus // Journal of Democracy. 2005. № 16 (4). P. 83–97; Eke, S.M., Kuzio, T. Sultanism in Eastern Europe: The Socio-Political Roots of Authoritarian Populism in Belarus // Europe-Asia Studies. 2000. № 52 (3). P. 523–547; Usov, P. Неоавторитарный политический режим в Беларуси // Lithuanian Foreign Policy Review. 2008. № 21. P. 92–117; etc.

2 Abdelal, R., Herrera, Y.M., Johnston, A.I., McDermott, R. Identity as a Varaible // Perspectives on Politics. 2006. № 4. P. 695–711.

телей Абделал (Abdelal), Херрера (Herrera) и Джонсон (Johnson) и профессор университета Санта Барбары МакДермот (McDermott) предложили рассматривать идентичность в двух дименсиях – содержание (content) и оспаривание (contestation).

Фактически первая димензия касается значения, которое предлагается группе, вторая – спорам и степени соглашения с этим контентом. Обращаясь к содержанию, авторы выделяют три типа содержания идентичности: нормативное содержание (Constitutive Norms), содержание целей (Social Purposes), сравнение отношений (Relational Comparisons) и когнитивное содержание (Cognitive Models). Сами авторы отмечают, что эти типы могут быть смешанными. Основной методы анализа – критический анализ исторического дискурса[3].

В этой работе в дополнение к димензиям, выделенным исследователями идентичности, также рассматривалась дополнительная ось – вектор официального дискурса. Отдельно рассматривались внутреннее и внешнее направления дискурса. Это разделение условно, оно основывалось на выделении примарной аудитории в процессе дискурсивного события.

Изначально в этой статье будет рассмотрен именно внутренний вектор официального дискурса, далее предложены основные стратегии внешнего вектора.

## Внутренний вектор официального дискурса

Внутренний вектор официального дискурса, то есть сообщения, которые транслируются на внутреннюю аудиторию (в первую очередь, примарная аудитория), является более исследованным, чем выделение и исследование внешнего вектора. Здесь можно выделить многие работы как белорусских, так и западных исследователей, например Д. Марплза и А. Гужон, а также Райдера[4]. Однако

---

3 Titscher, S., Meyer, M., Wodak, R., Vetter, E. Methods of Text and Discourse Analysis. London, 2000. P. 155–159; Wodak, W., Cillia, R., Reisigl, M., Liebhart, K. The Discursive Construction of National Identity. Edinburg, 1999.

4 См. к примеру: Гужон, А. Национализм и идентичность в Беларуси // Almanach de la recherche franco-russe. Le nationalisme russe dans les sciences sociales // Русский национализм в общественных науках. 2007. № 1. – Режим доступа: http://www.centrefr.net/article=127; Марплз, Д., Падгол, В. Сатварэнне новай нацыянальнай гісторыі на базе старой: роля гістарычная памяці і Другой сусветная вайны у сучасная Беларусі // Разрыў пакаленьняў / ред. А. Дынько. Варшава. Oficyna Wydawnicza Wyższej Szkoły Handlu i Prawa im. Ryszarda Łazarskiego. Матэрыялы канфэрэнцыі. Чэревень, 2008. С. 245–261; Радзік, Р. Ад этнічнага згуртавання да нацыянальнай супольнасці // Беларускі гістарычны агляд. 1998. С. 291–326; Радлинг, П. Вялікая Айчынная

анализ в этих работах преимущественно касается исторического соответствия/несоответствия, в меньшей степени внимание уделяется коммуникативным особенностям официального дискурса и конструирования национальной идентичности используя дискурс войны.

В связи с проецированием прошлого на настоящее можно выделить несколько основных коммуникативных стратегий непосредственно в упоминании исторических событий для того, чтобы проследить, как происходит национализации дискурса Великой Отечественной войны во внутреннем официальном дискурсе. Например, их можно было бы объединить в следующие группы уникализации войны для белорусов:

Белорусы – первые давшие *ИСТИННЫЙ* отпор врагу;

Уникальный белорусский *ПАТРИОТИЗМ*;

*ГЕНОЦИД* белорусской нации[5].

Анализ проецирования такого изложения событий на настоящее и будущее проанализирован в этой статье. Следующие дискурсивные стратегии были выделены в ходе исследования: легитимация режима через выделение роли войны в современной государственности, влияние войны на ментальные особенности нации, использование войны для разделения и единения групп. Третья стратегия разделена на описательную часть, где указываются группы, далее рассмотрены способы конструирования врага и секьютеризация повседневности через представление угроз. Также в этой части представлено присутствие «военного дискурса» в когнитивном картировании нации.

Далее каждая стратегия будет рассмотрена подробнее.

### Война и государственность (легитимация режима)

Обращение к войне и военному прошлому (героическому) – одна из устойчивых норм официального дискурса, на которой строится миф независимости. Отношение к войне фиксируется на уровне как законодательном, так и на социальном. Государственность и независимость государства как следствие той войны, представляется в виде зонта над суб-дискурсами.

Законодательные и социальные нормы не просто фиксируются, они проходят стадию интенсификации, слияния через официальный дискурс. Так, к примеру, несмотря на то, перенос даты празд-

---

вайна ў свядомасці беларусаў // Arche. Пачатак. 2008. № 11. С. 43–64.

5 Denis, S., Liepnieks, I. Re-Writing Through Re-Membering The WWII in the Re-Public Of Belarus: Communicative Strategies // Journal of Young Scientists. 2010. № 1 (26). P. 230–235.

нования Дня Независимости на 3 июля был осуществлен в первые годы правления А. Лукашенко, в его речах продолжает присутствовать легитимация переноса праздника[6]. Происходит воззвание к натурализации событий (естественному, аксиомному вектору трактовки значения событий 1944 г.). Попытки поиска других значимых дат Дня Независимости описываются как неправильные, эта неправильность выражается в гиперболических тропах. Сама натурализация может быть проиллюстрирована следующей цитатой:

> *“Не все знают и помнят, что во времена засилья националистов главным державным праздником белорусов был другой день, связанный с развалом Советского Союза. Таким образом, идейные потомки фашистских пособников ставили в один ряд нацистскую Германию и Советский Союз. Союз, в котором белорусский народ сохранился и развился до уровня процветающей нации. Хотели, чтобы белорусы приняли эту ложь, эту величайшую несправедливость. Слава Богу, живы в Беларуси участники боев. Те, кто помнит гитлеровский геноцид. Опираясь на ваш, уважаемые ветераны, авторитет в обществе, мы отстояли справедливость – во все времена главным праздником белорусского народа будет день освобождения от фашистской оккупации”*[7].

Также натурализация осуществляется не только через ветеранов или, к примеру, “мудрый народ”, который мотивировал изменения. Частыми являются ссылки на международное сообщество. В той же речи 2004 г. Лукашенко употребляет оборот “Весь мир знает о героической…”. Такая дискурсивная стратегия активно используется для легитимации официального дискурса – представления этой нормы:

> *“Осмысливая сегодня эту великую историческую дату, которая дала отсчет нашей подлинной независимости, я хотел бы поделиться с вами некоторыми размышлениями”*[8].

---

[6] Выступление Президента Республики Беларусь А.Г. Лукашенко на торжественном собрании, посвященном 60-й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь (Дню Республики). 2 июля 2004 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press18721.html#doc.

[7] Выступление Президента Республики Беларусь А.Г. Лукашенко на торжественном собрании, посвященном 60-й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь (Дню Республики). 2 июля 2004 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press19277.html.

[8] Выступление на торжественном собрании, посвященном 65-й годовщине

При этом следует отметить и сакрализацию победы – через различные метафоры, например «священная дата» или «алтарь Победы». В продолжении рассмотрим, как сакрализация переходит в ментальные установки, содержащиеся в дискурсе.

### Влияние войны на характер нации

В речах Лукашенко консеквентно отображается влияние войны на то, что он называет "национальный характер белорусов". Таким образом создаются те позитивные черты, которые способствую позитивному самоопределению нации и выводят за рамки нации тех, кто не разделяет эти черты, не согласен с событями, повлиявшими на формирование этих черт (по трактовке в официальном дискурсе). Для определения группы "Мы" используются следующие метафоры: дом, государство, народ, нация, семья (сыны – отцы – деды). На примере следующей цитаты можно проследить и сакрализацию в "духовной" плоскости и объяснение влияния войны:

> *"Эта война и победа в ней для нашего народа имеют особое историческое, непреходящее значение, которое не умаляется с годами. Это духовная святыня, которая оказывает огромное влияние на формирование национального характера белорусов, которая помогает нам достойно выдерживать все испытания, не сдаваться в трудные минуты, твердо идти к намеченным целям"*[9].

Следующие черты связываются в дискурсе с войной: трудолюбие (трудовой героизм) и выносливость, миролюбие, патриотизм, самоотверженность, коллективизм, свободолюбие, вера и оптимизм. Также одной из черт-особенностей, продемонстрированных в войне, Лукашенко называет единство нации. Единство нации как то, что помогло пройти войну[10]. Как осознание – признание со

---

освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь. 2 июля 2009 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press86695.html#doc.

9 Выступление Президента на торжественном собрании, посвященном Дню Республики. 1 июля 2006 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press43743.html#doc.

10 Выступление на торжественном собрании, посвященном 65-й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь. 2 июля 2009 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press86695.html#doc.

стороны воображаемого мирового сообщества значится участие в объединении Лиги Наций (ООН):

*"Вклад Беларуси в Победу был реально оценен мировым сообществом – республика стала одним из основателей Организации Объединенных Наций"*[11].

Миролюбивость нации и частое употребление этого конструкта вне тематических выступлений (День Республики, парад в День Победы и т.д.) связывается с виктимизацией и упоминанием метафоры "уроки войны". Причем, тематически, когда в речах говорится о миролюбии, – следует обращение к армии или органам правопорядка, идет статистическое перечисление вооружений, военного сотрудничества с Россией и добровольный отказ от ядерного оружия.

Само же мировое сообщество, его разделение на группы и страны преимущественно фигурирует в той части идентичности, которая касается выстраивания отношений, формирования групп "Мы" и "Они".

## Война как разделяющая на "Мы" и "Они"

Освобождение Беларуси от гитлеровских войск представляется как основа для современной государственности и логичный, наиболее значимый пункт в становлении государственности. Используется "черно-белая" дискурсивная стратегия, которая подразумевает разделение на группы – "Мы" (безаппеляционное согласие с трактовкой событий и присуждением значений) и "Они" – те, кто покушается на значения. При помощи этого происходит конструирование образа врага посредством использования дискурса войны. Причем этот враг проецируется на настоящее, здесь задействуется тип "целей" в идентичности – не дать украсть прошлое, через прошлое сохранить будущее. Война связывается и с главной идеологической целью – "построением Беларуси" – "сохранением Беларуси":

***"Мы ответственны за судьбу нашей Родины. Нас объединяет великая цель: построить сильное и процветающее государство – государство для народа. В этом сложном и ответственном деле нам придает силы наследие поколения победителей. Сегодня государство стремится к тому, чтобы талант и способности каждого человека были востребованы и использованы на благо Отечества"***[12].

---

[11] Стенограмма выступления на торжественном собрании, посвященном Дню Независимости. 2 июля 2007 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press49985.html#doc.

[12] Стенограмма выступления на торжественном собрании, посвященном

Конструирование общей цели и вместе с тем конструирование группы, которая не поддерживает эту цель, имеет две дименсии, внутреннюю и внешнюю. Конструирование врага происходит как в международном масштабе, так и в самой стране. Находятся и подчеркиваются сходства противников режима с гитлеровскими войсками, как теми, кто хотел разрушить Беларусь, разрушить нацию.

На основе анализа выступлений можно представить следующие группы, которые конструируются:

“МЫ”:

Белорусский народ (семья, нация, дом);

Советский народ;

Братские народы (преимущественно здесь выделяются русский и украинский);

Жертвы геноцида (евреи и белорусы в дискурсе геноцида);

Союзники (частично, “Мы” – как боровшиеся против фашизма, однако союзники большее отношение имеют к группе “Они”);

“ОНИ”:

Гитлеровская армия (фашисты, нацисты, поработители и т.д.);

Пособники нацистов (группа, обозначенная через настоящее, тех, кто их защищает, вспоминает. В самом же официальном дискурсе их нет, нация обозначена как единая);

Нацисты-националисты (националисты во многом приравниваются к нацистам, понятия подменяются);

Союзники (это и “Мы” в борьбе с врагом, и “Они” – не давшие истинный отпор врагу и не потерпевшие настолько);

Демократы, оппозиция, псевдоисторики (из прошлого – демократия, приведшая к становлению фашизма. Внутри страны – как те, кто защищает пособников фашистов, внешнее);

Страны с возрождающимся фашизмом.

Далее рассмотрим эти группы как составляющие различных дискурсивных стратегий.

### Похитители победы: внешний и внутренний враг

Похитителями победы, а следовательно, группой, выходящей за рамки «нации» в результате дискурсивного взаимодействия, являются те, кто не согласен с трактовкой истории и противоречит легитимации режима. Происходит унификация образа врага из прошлого и врага из настоящего. Такое единение врагов из прошлого и настоящего возможно через объяснение их единой цели – унич-

Дню Независимости. 2 июля 2007 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press49985.html#doc.

тожение государства, а вместе с ним и нации. Это, в свою очередь, может быть рассмотрено как выдвижение контрцели или выдвижение своей цели (группы "Мы") – сохранение государства и нации, которое *зависит* от интерпретации прошлого:

*"Мы никогда не отречемся от подвига отцов и дедов. И не позволим всякого рода псевдоисторикам очернять наше героическое прошлое. Сегодняшняя независимая Беларусь – достойный преемник Беларуси советской, лучших ее традиций и исторических достижений"*[13].

Преемственность советской власти, война – как основной пункт героического прошлого, в том числе через метафору родственной связи для нации. Героизация (аксиоматическая) как унификация подвига также "черно-белую" стратегию разделения группы приводит к унификации оппозиции (группы "Они"). Не согласные с официальным дискурсом объединяются под разными названиями, например, "демократы", "националисты" и т.д. Фактически вырисовывается схема, при которой демократия (к примеру, с приставками "так называемая", "доморощенная") является продолжателем того врага. Здесь же фигурирует и "Европейский порядок" в целом:

*"И у нас доморощенные демократы, так называемые демократы, восхваляют фашистских захватчиков как освободителей от большевистско-тоталитарного режима. Их приспешников, изменивших своему народу, выставляют деятелями национального возрождения"*[14].

*"К сожалению, сегодня находится немало желающих извратить события Второй мировой войны и тем самым украсть Великую Победу и выбить нравственную основу у нашего народа. Самое отвратительное кощунство – это тезис о том, что на территории Беларуси якобы имела место не всенародная освободительная борьба, а гражданская война между защитниками советской власти и поборниками «нового европейского порядка»"*[15].

---

[13] Выступление Президента на торжественном собрании, посвященном Дню Республики. 1 июля 2006 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press43743.html#doc.

[14] На торжественном собрании, посвященном 60-летию Победы советского народа над немецко-фашистскими захватчиками. 10 мая 2007 г. // Советская Белоруссия. – Режим доступа: http://law.sb.by/128/.

[15] Выступление на торжественном собрании, посвященном 65-й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь. 2 июля 2009 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press86695.html#doc.

В речах Лукашенко содержится призыв к борьбе: “Подобные лживые утверждения никогда не найдут поддержки на многострадальной белорусской земле”[16]. Он многократно призывает защитить память. Примеры такой “незащищенности” – это страны Балтии, которые фигурируют в выступлениях Лукашенко. Такая мобилизация нации связывается с вопросами секьютеризации, вопросами угроз народу и государству.

## Война и секьютеризация

Извлечение уроков из войны и история как учитель – одна из излюбленных метафор главы белорусского государства. Один из выводов, который, по мнению Лукашенко, нация делает на основе этих уроков – это подготовка к войне: “Поэтому не случайно белорусский народ отличает обостренное чувство ответственности за безопасность Отечества”[17]. Мобилизация нации тесно связана с образом врага/врагов, которые были намечены в этой статье выше. В свою очередь отпор врагам надо быть готовым дать не только на моральном уровне:

> *“Укрепление Вооруженных Сил, всей военной организации государства всегда было и будет одним из приоритетов в государственной политике. С этой целью мы будем улучшать организационную структуру и качественные параметры технического оснащения войск. Совершенствовать систему управления с максимальным использованием новых технических решений. Наращивать эффективность системы подготовки военных кадров”[18].*

Подобного рода цитаты встречаются во многих выступлениях Лукашенко, подготовка вооруженных сил до определенного мо-

---

16 Выступление на торжественном собрании, посвященном 65-й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь. 2 июля 2009 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press86695.html#doc.

17 Выступление на военном параде в ознаменование Дня Независимости и 64-й годовщины освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков. 3 июля 2008 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press84294.html#doc.

18 Выступление на военном параде в ознаменование Дня Независимости и 64-й годовщины освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков. 3 июля 2008 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press84294.html#doc.

мента связывалась с Россией. Фоновая информация – о растущих угрозах в мире – в целом подкреплялась обращениями к происходящим на момент речи военным операциям или обострением международных отношений.

Также Лукашенко использует образ сложного миропорядка, своеобразной незащищенности и отсутствия регулирования. Он это делает, предлагая не только активные конфликты, но и примеры осложнения ситуации для Беларуси, например:

> *"Необратимый характер принимает процесс размещения у наших границ элементов американской системы противоракетной обороны. Договор об обычных вооруженных силах в Европе фактически перестал быть одной из основ системы безопасности на континенте. Прецедент с односторонним, в обход ООН, объявлением независимости Косово ярко продемонстрировал существующие двойные стандарты и угрозу пересмотра границ. Передела политической карты Европы. Однако поощрение сепаратизма является неразумной и опасной политикой. В этих новых условиях международной обстановки система национальной и, в первую очередь, военной безопасности Беларуси будет постоянно совершенствоваться, гибко реагируя на меняющуюся ситуацию"*[19].

Угроза истребления, угроза группе – является одной из основополагающих составляющих коллективной и национальной идентичности. Постоянное использование такой стратегии Лукашенко способствует мобилизации нации, в то же время через конструирование врага достигается и то, что дискурсы врага-коммуникатора, направленные на нацию, воспринимаются как заведомо деструктивные, несущие опасность. Таким образом происходит его дискредитация.

## Демократия как угроза

В продолжении присуждение значения понятию "демократия" важно отметить еще одну повторяющуюся стратегию своеобразного напоминания – об опасности демократии. В своих выступлениях Лукашенко говорит о европейском пути демократизации (он часто приводит вместе и демократию и абстрактные европейские

---

[19] Выступление на военном параде в ознаменование Дня Независимости и 64-й годовщины освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков. 3 июля 2008 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press84294.html#doc.

ценности и санкции), рассказывает о демократическом происхождении фашистского режима в Германии, например:

> *"Вспомним, что режим фашизма в Германии устанавливался через демократические процедуры, через свободу слова и митингов. Но если бы у того общества был иммунитет против такого развития событий, то не было бы оккупации Парижа, варварских бомбардировок Лондона. Не было бы Освенцима, Бухенвальда, Тростенца. Значит, есть вещи более важные, чем формальное соблюдение абстрактных демократических принципов. Это – человеческая жизнь"*[20].

Демократизация как угроза через дискурс войны способствует легитимации проводимого режима и обособленности пути развития государства. Это формирует и образ опасной Европы, тех, кто следует принципам такой демократии. Примерами такого опасного поворота являются страны Балтии, где с демократизацией, по мнению Лукашенко, происходит "возрождение фашизма".

Упоминание союзников, в свою очередь, происходит вскользь, вместе с тем отмечается, что союзники не несли таких больших потерь и не оказывали такого сопротивления (на фоне темы союзников происходит уникализация белорусской нации в войне).

Примечательно, что в последние пять лет происходит снижение использования воззваний к советскому строю, Советскому Союзу, советскому народу, которые отмечались ранее. Однако происходит и уменьшение ссылок к российскому народу, меньше в речах появляется ссылок на братство народов, выкристаллизовывается уникальность войны для белорусов и белорусов в этой войне.

## Ветераны войны и труда как опора конструкта нации

Анализ когнитивного картирования нации проводился по новогодним обращениям А. Лукашенко к нации. Рассматривались текстовые версии обращений, опубликованные в прессе с 1994 г. (от 31 декабря) по 2009 г. (31 декабря). Карта тех, кого А. Лукашенко причислял к нации, несмотря на некоторые изменения, имеет стабильные координаты-точки. Так, выделяются крестьяне, военные, медики, учителя. Некоторые "точки" появляются и исчезают, как, к примеру, работники тяжелой промышленности.

---

[20] Выступление на торжественном собрании, посвященном 65-й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко-фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь. 2 июля 2009 г. Официальный интернет-портал Президента Республики Беларусь. – Режим доступа: http://www.president.gov.by/press86695.html#doc.

Наяўнасць палітычнай і культурнай канкурэнцыі (з боку розных палітычных плыняў) паўплывала на тое, што прадстаўнікі "заходнерусізму" пачатку XX ст. ідэалізавалі перыяд 60-х гг. XIX ст. (напрыклад, Аляксандр Мілавідаў называў яго "западно-русским возрождением шестидесятых годов"[44]). "Заходнеруская" інтэрпрэтацыя мінулага беларускіх земляў дамінавала сярод расійскіх інтэлектуальных элітаў (таксама таму, што ў другой палове XIX ст. менавіта "заходнерусы" сталіся галоўнымі экспертамі "па Беларусі") і ў канцы XIX – пачатку XX ст. з'явілася ліберальная плынь гістарыяграфіі, якая таксама абапіралася на сваіх "заходнерускіх" папярэднікаў.

Пачатак XX ст. стаўся часам паступовага распаду "заходнерусізму" як выразнай і адносна цэльнай ідэалогіі, частка яго прадстаўнікоў падтрымала ўжо беларускі нацыянальны праект (найбольш яскравым прыкладам быў Яўхім Карскі). Аднак практычна да распаду дзяржавы і рэвалюцыйных падзей 1917 г. "заходнерусізм" быў моцнай інтэлектуальнай і палітычнай альтэрнатывай для беларускай ідэі. Прыцягальнасць яго вызначалася значнай левай сацыяльнай рыторыкай (якая выкарыстоўвалася падчас паўстання 1863–1864 гг.), а таксама выразным самавызначэннем у канфесійным і нацыянальным аспектах.

Нельга сцвярджаць, што "заходнерускія" рэмінісцэнцыі зніклі пасля 1917 г. разам з распадам імперыі і ліквідацыяй манархіі. Напрыклад, пасля абвяшчэння БССР у 1919 г. большасць прадстаўнікоў партыі бальшавікоў Віцебскай губерні (а таксама IV Віцебскі губернскі з'езд Саветаў) выступілі супраць утварэння БССР, падобныя меркаванні былі таксама ў Магілёўскай губерні[45]. Галоўным аргументам супраць абвяшчэння было тое, што беларусы не з'яўляюцца самастойнай нацыяй, і толькі ў якасці дадатковых аргументаў выступалі эканамічныя ці іншыя меркаванні[46].

Вяртанне "заходнерускіх" элементаў у агульную камуністычную схему гісторыі Беларусі ў 30–50-я гг. XX ст. (пры фармальнай крытыцы царскага перыяду) пацвердзіла значэнне і паспяховасць ідэалогіі, паўсталай у палове XIX ст. Паводле Алега Латышонка, захаванне "заходнерускай" ідэі было магчыма таксама ў сувязі з тым, што пачаткова яна была кланавай ідэяй пэўнай групы ўніяцкіх (а па-

---

44 Vilniaus Universiteto Biblioteka, Rankraščių Skyrius (Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў), sygn. F36-AM65, Миловидов, А.И. Заметки из эпохи западно-русского возрождения шестидесятых годов. Арк. 1.

45 Круталевич, В.А. Рождение Белорусской Советской Республики (Провозглашение республики. Развертывание национально-государственного строительства. Ноябрь 1918 – февраль 1919 г.). Минск, 1979. С. 171–173.

46 Круталевич, В.А. Op. cit. С. 171, 173–175.

зней праваслаўных) святароў Беласточчыны, якая дзякуючы сямейным сувязям захавала сваю пераемнасць[47].

У сучасным беларускім кантэксце пры выразным вяртанні "заходнерускіх" элементаў у публічную прастору (праз частку гістарыяграфіі, "дзяржаўную ідэалогію", палітычную рыторыку) немагчыма прыняць поўнасцю самой ідэалогіі XIX ст. Асабліва гэта тычыцца вобразаў "Іншага". Антыпольскасць і антысемітызм не могуць быць выкарыстаныя ў беларускай "дзяржаўнай ідэалогіі" ў сувязі з выразным шавіністычным і расавым аспектам, а таксама таму, што яны супярэчаць ідэалагеме "дружбы народаў", якая мае ўжо савецкі радавод. Ролю "іншасці" выконваюць перадусім не асобныя нацыянальнасці, але сацыяльныя групы, якія пазіцыянуюць сябе (ці вызначаюцца ўладай) як апазіцыйныя ці альтэрнатыўныя для праекта "дзяржаўнай ідэалогіі".

Выкарыстанне гістарыяграфічнай спадчыны "заходнерусізму" таксама мае свае межы, таму што патэнцыйна поўнае ўключэнне "заходнерускай" нарацыі можа быць небяспечным для існавання ўяўлення пра сучасную Беларусь. Аднак варта памятаць, што пры паступовым адыходзе беларускай улады ад панславісцкай рыторыкі на ўзроўні публічных выступленняў, у адукацыйным працэсе ўзмацняюцца класічныя для "заходнерусізму" і славянафільству элементы. Адначасова пры вызначэнні "іншасці" кірунак можа быць павернуты з выразнай антызаходняй рыторыкі ў бок Расіі, але і гэты напрамак таксама можа мець свае крыніцы ў "заходнерусізме". Вызначэнне Расіі як "Усходняй Расіі" ў працах М. Каяловіча і асцярожнае, але выразнае супрацьпастаўленне паміж ёй і "Заходняй Расіяй"[48] патэнцыйна прыводзіла да вызначэння самастойнасці беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх земляў[49].

Феномен "заходнерусізму" цікавы ў ягоным існаванні адначасова "ўнутры" беларускай ідэі і па-за яе межамі. Элементы "заходнерусізму" ўвайшлі ў беларускую нацыянальную ідэю. Адначасова цэласны "заходнерусізм" знаходзіцца па-за межамі беларускасці і супрацьстаіць ёй. Часткова дамадэрны характар "заходнерусізму" не спрыяў ягонаму захаванню ў "эпоху нацыяналізмаў", аднак патэн-

---

47 Латышонак, А. Унія і беларускі нацыянальны рух зь сярэдзіны XVIII да сярэдзіны XX стагодзьдзя // А. Латышонак. Нацыянальнасьць – Беларус. Вільня, 2009. С. 380–391.

48 Коялович, М.О. Лекции по истории Западной России. М., 1864. С. 12–22.

49 Падрабязней гл. мой артыкул: Тихомиров, А.В. Образ России в публицистике и историографии "западноруссизма" (вторая половина XIX – XX вв.) // Россия и современный мир: проблемы политического развития. Материалы IV Международной межвузовской научной конференции, часть 2 / под ред. Н.В. Кузнецовой. М., 2008. С. 138–149.

цыйна мог прывесці да розных форм культурнага і этнічнага самавызначэння насельніцтва "заходняга краю" Расійскай імперыі.

Можна меркаваць, што ў пэўнай ступені ён мог стаць "наднацыянальным праектам ідэнтычнасці" (які б аб'ядноўваў беларусаў, украінцаў і магчыма літоўцаў), альтэрнатыўным этнанацыяналізму, аднак у якасці галоўнага культурнага коду ў "заходнерусізме" выступала расійская мова і ідэя расійскай дзяржавы, што значна змяншала патэнцыял такога магчымага аб'яднання. Аднак у выпадку беларусаў значэнне "заходнерусізму" як каланіяльнай, гібрыднай формы ідэнтычнасці было значна большым, чым у выпадку суседніх народаў.

Значэнне "заходнерусізму" для беларускага нацыябудавання[50] варта падкрэсліваць, каб зразумець не толькі генезіс і эвалюцыю праблемы беларускай ідэнтычнасці, але таксама ў сувязі з выкарыстаннем "заходнерусізму" ў якасці палітычнай ідэалогіі ў XX і на пачатку XXI ст. Наяўнасць гэтага ідэйнага канструкта ў беларускай гісторыі патрабуе ўважлівага яго вывучэння таксама ў еўрапейскім кантэксце, прынамсі як антытэзіса "Еўропы" ("каталіцка-пратэстанцкай", "заходняй"), а шырэй для вызначэння нашага стаўлення да ідэі Еўропы.

---

50 Пра значэнне розных "данацыянальных" формаў ідэнтычнасці для беларускай ідэі гл.: Смоленчук, А. Литвинство, западноруссизм и белорусская идея. XIX – начало XX в. // Перекрестки. 2007. № 1–2. С. 5–16.

# Выкарыстанне тэрміну "сепаратызм" М. Каяловічам

## Дзмітры Кузьма

Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы, аспірант кафедры гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Сфера навуковых інтарэсаў: нацыятворчыя працэсы, пытанні пашырэння і развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці, палітыка расійскіх уладаў на Беларусі ў XIX ст., станаўленне ідэалогіі заходнерусізму

Міхаіл Восіпавіч Каяловіч у гістарычнай літаратуры вядомы як адзін з найбольш значных прыхільнікаў і ідэолагаў заходнерусізму[1]. Прадстаўнікі гэтага накірунку адыгрывалі сур'ёзную ролю ў грамадска-палітычным жыцці беларускіх тэрыторый у другой палове XIX – пачатку XX ст. Дадзеная плынь узнікла як ідэалагічная альтэрнатыва моцнаму польскаму ўплыву на заходніх тэрыторыях Расійскай імперыі. Прадстаўнікі заходнерусізму імкнуліся з дапамогай гістарычных, рэлігійных, этнічных матэрыялаў даказаць роднасць усходнеславянскага насельніцтва рэгіёну з жыхарамі цэнтральнай часткі Расіі[2].

Выкарыстоўваемыя імі тэарэтычныя канструкцыі, напрыклад тэзіс аб трыадзіным "рускім народзе" (вялікаросы, маларосы, беларусы), павінны былі садзейнічаць паспяховай інтэграцыі ў агульнаімперскую супольнасць насельніцтва заходняй часткі краіны. У такой сітуацыі выглядае поўнасцю лагічнай барацьба прадстаўнікоў заходнерусізма як з мацнейшым польскім уплывам, так і з нараджаючыміся нацыянальнымі сепаратысцкімі памкненнямі, якія маглі звесці на нішто ўсе іх дасягненні.

Асабліва ярка гэта супрацьстаянне было адлюстравана ў гісторыка-публіцыстычных работах М. Каяловіча. Гэты грамадскі і рэлігійны дзеяч агульнаімперскага маштабу нарадзіўся на беларуска-польскім памежжы і быў добра інфармаваны аб культурнай, рэлігійнай, этнічнай сітуацыі ў заходняй частцы Расійскай імперыі. Значны ўплыў на яго пазіцыю ў гэтай барацьбе аказала паходжанне

---

1 Карев, Д. Белорусская и украинская историография конца XVIII – начала 20-х гг. XX века в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев. Вильнюс, 2007. С. 194.

2 Литвинский, А.В. Западноруссизм в российской историографии второй половины XIX – начала XX века. Минск, 2004. С. 4.

з сям'і ўніяцка-праваслаўнага святара[3] і навучанне ў праваслаўных вучэбных установах.

Ужо будучы выкладчыкам Пецярбургскай духоўнай акадэміі, Каяловіч выступаў за мяккае, перш за ўсё культурнае "абрусенне" беларускіх тэрыторый, якія ў сваіх творах часта ўключаў у паняцце "Заходняй Расіі"[4]. У яго публікацыях пастаянна ўдзялялася ўвага барацьбе з цэнтрабежнымі тэндэнцыямі ў заходняй частцы імперыі: з польскім сепаратызмам, з рознымі варыянтамі мясцовага сепаратызму, з выяўленым ім "вялікарускім" сепаратызмам.

Неабходна адзначыць, што да 60-х гг. XIX ст. заходнія губерні працягвалі заставацца слабавывучанымі ў этнічным і гістарычным ракурсах. Вядомы лідэр славянафілаў Іван Аксакаў пісаў у адным са сваіх лістоў, што ў Расіі стала вельмі важным "польскае пытанне" і неабходна было дакладна выявіць польскія межы. Ён заклікаў скарыстаць гістарычныя, статыстычныя і этнаграфічныя матэрыялы, каб канчаткова выявіць, ці з'яўляюцца польскімі тэрыторыямі Літва і Беларусь. Публіцыст наракаў на недахоп ведаў па гэтай праблеме сярод "адукаванай публікі"[5]. Узнікла патрэба ў сур'ёзным спецыялісце, глыбока знаёмым як з мінулым, так і з сучасным гэтых зямель, які меў сваю думку, свабодную ад традыцыйных гістарычных міфаў. Для гэтай задачы ідэальна падыходзіў Міхаіл Восіпавіч Каяловіч, які валодаў грунтоўнай навуковай падрыхтоўкай і меў жаданне ўздзейнічаць на грамадскую думку.

Гісторык паставіў перад сабой мэту даказаць неабгрунтаванасць польскіх прэтэнзій на ўсходнія тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай і, такім чынам, пазбавіць польскі нацыянальна-вызваленчы рух значнай часткі эканамічных і чалавечых рэсурсаў[6]. Паводле І. Пальмава, ён у сваіх працах імкнуўся паказаць *"жывучасць тых асноў жыцця, супраць якіх безупынна змагаліся суседняя і потым пануючая тут некалі Польшча, якая заўсёды імкнулася да ажыццяўлення сваіх прэтэнзій на этнаграфічную частку рускай зямлі"*[7]. З дапамогай манаграфій, шматлікіх газетных і часопісных публікацый, прысвечаных мінуламу і сучаснаму Літвы і Беларусі, вучоны імкнуўся да *"папулярызацыі сваіх навуковых звестак для выпраўлення па-*

[3] Черепица, В.Н. Михаил Осипович Коялович. История жизни и творчества. Гродно, 1998. С. 22.

[4] Коялович, М. Поездка в западную Россию. 1886. С. 1.

[5] Пальмов, И.С. Памяти Михаила Иосифовича Кояловича // История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. Минск, 1997. С. 18.

[6] Трещенок, Я.И. Михаил Осипович Коялович и его время // История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. Минск, 1997. С. 675.

[7] Пальмов. Указ. соч. С. 12.

*нуючых у грамадстве і друку непаразуменняў"*[8]. М. Каяловіч не толькі змог развянчаць частку гістарычных міфаў аб ролі палякаў і этнічнай прыналежнасці мясцовага насельніцтва, але і выхаваў плеяду даследчыкаў гісторыі заходняга рэгіёну Расійскай імперыі[9].

Барацьба з польскім уплывам праходзіла па некалькіх напрамках. Адным з іх была сфера рэлігійнага супрацьстаяння. Каяловіч сцвярджаў, што толькі праваслаўныя людзі маглі быць апорай цэнтральнай улады, а каталіцызм шкодны, бо толькі адлюстроўваў *"заваёўніцкія дамаганні лацінства і германізма (пранікаўшага праз Польшчу)"*[10]. У той жа час прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва, якія прытрымліваліся каталіцтва, ён часта схіляўся разглядаць як палякаў, падмяняючы этнічную ідэнтыфікацыю рэлігійнай[11].

У сваіх працах вучоны часта апісваў з'явы культурнай прапольскай самаідэнтыфікацыі ў беларускіх губернях. Ён пісаў, што ў дадзеным рэгіёне палякі імкнуліся наладзіць добрыя зносіны з мясцовым насельніцтвам, каб аказваць на яго сур'ёзны ўплыў. *"Яны абвяшчаюць, што паважаюць і літоўскую, і беларускую, і маларускую народнасці, што жадаюць нават, каб гэтыя народнасці развіваліся і стваралі сваю пісьменнасць, друкавалі кніжкі на сваіх дыялектах. Але ў той жа час яны гавораць, што польская народнасць гістарычна ствараецца і павінна ствараца, прасоўваючыся на ўсход, гэта значыць, што літвін, беларус, маларос, атрымоўваючы адукацыю павінен рабіцца палякам"*[12]. Гісторык з гэтым не згаджаўся і імкнуўся паказаць карысць культурнага і эканамічнага далучэння не да польскага народа, а да рускага. Ён пісаў, што ў Расійскай імперыі прадстаўнікі розных ускраінных народаў – шведы, немцы і нават самі палякі – актыўна перасяляліся ў цэнтральныя рэгіёны краіны, каб дабіцца кар'ернага росту або займацца гандлем і вытворчасцю. Каяловіч нават указваў, што "ў параўнанні з гэтымі выгодамі для іх зусім мізэрны выгоды іх радзімаў у выпадку іх поўнай асобнасці або нават адарвання ад Расіі"[13].

Згодна ўяўленням Каяловіча, думкі аб аддзяленні ад Расіі маглі дапусціць толькі слабыя, падуладныя чужому ўплыву, далёкія ад рэальнасці людзі. "Яна (Беларусь. – *Д. Кузьма*) такая бедная, што не можа дапускаць безнадзейных тэорый і абстрактных летуценняў.

8 Пальмов. Указ. соч. С. 13.

9 Черепица, В.Н. Послесловие // История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. Минск, 1997. С. 671.

10 Пальмов. Указ. соч. С. 17.

11 Цьвікевіч, А. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. / пасьляслоўе А. Ліса. Мінск, 1993. С. 176.

12 Коялович, М. Чтения по истории западной России. СПб., 1884. С. 10.

13 Коялович, М. Историческая живучесть русского народа и ее культурные особенности. СПб., 1883. С. 26.

Гэтым могуць займацца толькі зусім легкадумныя галовы, не здольныя ні на якую сур'ёзную справу, ці больш нікчэмныя прылады палякаў і габрэяў, якія на самой справе клапаціліся і тут аб развіцці сепаратызму"[14].

Яшчэ адной з важнейшых праяваў імкнення да аддзялення ад Расійскай імперыі Каяловіч павінен быў прызнаць развіццё мясцовых відаў сепаратызму, такіх як "маларасійскі", "заходнерускі", "літоўскі" і інш. Каб "выбіць глебу з-пад ног" іх ідэолагаў, даследчык імкнуўся пераканаць грамадскасць у адсутнасці этнічных і гістарычных падстаў для такіх імкненняў. У сваіх артыкулах сцвярджаў, што ідэі сепаратызму сярод беларускага народу (гісторык часта выкарыстоўваў у дадзеным кантэксце тэрмін "племя") не будуць развівацца з-за этнічнай блізкасці з велікарускім насельніцтвам[15].

Каяловіч часта пісаў пра "польскую інтрыгу", а менавіта дзейнасць палякаў па актывізацыі цэнтрабежных тэндэнцый з мэтай аслабіць Расію і знайсці саюзнікаў у барацьбе супраць яе. Гісторык лічыў, што дзеля гэтага польскія вучоныя пачалі выказваць думку аб існаваўшай раней "самастойнасці Заходняй Расіі". Такія матэрыялы выклікалі ў яго вельмі негатыўную рэакцыю, таму што прызнанне гэтага факта ў мінулым магло прывесці да жадання аднавіць асобную дзяржаўнасць у гэтым рэгіёне. Каяловіч мог фіксаваць некаторыя культурныя, этнічныя, рэлігійныя адрозненні ад цэнтральнай Расіі, але ён быў далёкі ад таго, каб надаваць ім рашаючае значэнне і выкарыстоўваць для поўнага палітычнага размежавання: *"Палітычная самастойнасць заходняй Расіі немагчыма і яшчэ болей немагчыма <...> пры польскай цывілізацыі <...> тэорыя зламысная"*[16].

У іншай публікацыі ён перасцерагаў ад вынікаў "моднага" захаплення ідэямі палітычнай незалежнасці: *"Цяжка вымераць зло, якое адбываецца ўжо зараз ад нашага інтэлігентнага сепаратызму. Ім ужо займаюцца не адны пустыя людзі, шукальнікі асабістых выгадаў, але і добрыя людзі, і вынікі такога падзелу нярэдка балюча адгукаюцца ў тамашнім жыцці. Але яшчэ болей важныя вынікі будуць, калі гэты сепаратызм пачне развівацца лагічна і накіруецца і ў Беларусі ў асяроддзе простага народа, як гэта ўжо робіцца ў Маларосіі. Не трэба забываць, што для такога накірунку зараз ужо знаходзяцца няпрошаныя апекуны"*[17].

---

14 Коялович, М. Историческая живучесть русского народа и ее культурные особенности. СПб., 1883. С. 19.

15 Ibidem.

16 Ibidem. С. 16–17.

17 Коялович, М. Поездка в западную Россию. 1886. С. 29.

Незвычайным было адкрыццё М. Каяловічам "вялікарускага сепаратызму", прадстаўнікі якога лічылі чужым для рускіх усё насельніцтва заходняй часткі імперыі і меркавалі, што канчаткова інтэграваць гэты рэгіён можна толькі праз замену мясцовага насельніцтва выхадцамі з цэнтральных губерняў. Фактычна, яны хацелі адмежавацца ад беларусаў, украінцаў (маларосаў), літоўцаў (жмудзінаў) і прапаноўвалі балючы, жорсткі варыянт канчатковага падпарадкавання гэтых тэрыторый. Такая палітыка выклікала досыць рэзкую рэакцыю з боку Каяловіча. Крытыкуючы адзін з артыкулаў публіцыста Б. Салаўёва, ён пісаў: *"Да чаго яшчэ дойдзе фанатычнае невуцтва ў адносінах да мясцовых заходнерускіх звычаяў… <…> Усё маё мінулае і старыя гады даюць мне дастаткова сталасці, каб ужо ніколі не зрабіцца сепаратыстам; гэта ж, спадзяюся, дае мне права з аднолькавай рэзкасцю нападаць не толькі на заходнерускія сепаратызмы, але і на велікарускі сепаратызм, які, безумоўна, існуе і, безумоўна, развіваецца на вялікую згубу Расіі"*[18].

Крытыкуючы разнапланавыя праявы сепаратызму, сам Каяловіч прапаноўваў думаць не аб развале дзяржавы, а аб захаванні адзінства, апеліруючы да ідэі агульнай культурнай складаючай: *"У шматлікіх месцах мне прыходзілася спрачацца і з тымі, і з другімі сепаратыстамі… <…> Тут не павінна быць падзелу па плямёнах і месцах нараджэння. Усе мы, рускія інтэлігентныя людзі, вучыліся гаварыць і гаворым адной і той жа рускай літаратурнай мовай, усе выхоўваліся на адных і тых жа нашых рускіх пісьменніках… <…> Неразважна было б нам дзяліцца на племянныя групы, як істотна розныя, а тым больш праводзіць гэта адрозненне ў народ. Гэта псавала б агульна-рускае народнае адзінства"*[19].

Калі ж жыхары заходняй часткі імперыі і жадалі далучыцца да адной з дамінуючых этнакультурных традыцый (польскай ці рускай), то ім гісторык раіў у гэтым працэсе кіравацца перш за ўсё доводамі розуму і прагматычнага разліку: *"Калі б палякі пры гэтым нават чыстасардэчна гаварылі, што гэта ператварэнне ліцвіна, беларуса, маларосa ў паляка павінна рабіцца без прымусу, то і тады ўсялякі разумны ліцвін, беларус і маларос павінен задумацца, ці не лепш ў такім выпадку рабіцца велікарусам, а не палякам, і ці не лепш далучыцца да моцнага, чым да слабага, ці не лепш зліцца з магутнай і спакойнай Расіяй, чым са слабаю, заўсёды мітуслівай Польшчай? І такое меркаванне павінна атрымаць тым большую сілу, бо ніхто з маларосаў, беларусаў і ліцвінаў, засвойваючы рускую адукацыю і мову, не робіцца праз гэта ворагам свайго племяні з*

[18] Коялович, М. Поездка в середину Белоруссии. 1887. С. 16–17.
[19] Коялович, М. Поездка в западную Россию. 1886. С. 28–29.

*якога выйшаў, а робячыся палякам ён абавязкова дрэнна адносіцца да свайго племені"*[20].

М. Каяловіч указваў на цяжкасці, звязаныя з дзейнасцю праваслаўнага духавенства. Ён, у прыватнасці, звяртаў увагу на відавочную розніцу, якая існавала паміж мясцовымі заходнерускімі святарамі, і тымі, што прыбылі з цэнтральнай Расіі. Так, вучоны лічыў, што амаль усе "мясцовыя" бацюшкі з'яўляліся "гістарычнымі ворагамі" для мясцовых палякаў. У той жа час прыезджыя былі мала знаёмыя з гісторыяй гэтых тэрыторый, з супрацьстаяннем праваслаўя і каталіцызму, іх мала што звязвала з мясцовым насельніцтвам, а пры ўзнікненні нейкіх складаных сітуацый яны лёгка маглі з'ехаць з гэтых новых і чужых для іх мясцін і пакінуць сваіх прыхаджан "без падтрымкі праваслаўнага святара"[21].

З радасцю прымалі рускае духавенства прадстаўнікі новага рускага дваранства і чыноўніцтва. М. Каяловіч, параўноўваючы апісаныя групы духавенства, пісаў: *"Ніколі мясцовы заходнерускі святар не будзе такім падатлівым, як святар з велікарусаў. Велікарускі святар з дзяцінства прывык бачыць навокал сябе родную ўладу, верыць ёй, і, безумоўна, падпарадкоўвацца; заходнерускі святар ад дзядоў-прадзедаў настроены заўсёды разбіраць, свая ці чужая ўлада дзейнічае вакол яго. Ён прызвычаіўся пры першай небяспецы змагацца за родную справу і ведаць кошт і гэтай справе, і самому сабе"*[22].

Паміж мясцовым заходнерускім і прысланым з цэнтральнай Расіі духавенствам часта ўзнікалі непаразуменні. Для апісання гэтых з'яваў гісторык выкарыстоўваў тэрмін "востры сепаратызм". Відавочна, што раз'яднанасць, рознасць выхавання, менталітэту, якія і прыводзілі да канфліктных сітуацый сярод праваслаўнага духавенства, негатыўна ўспрымаліся вучоным, з-за чаго ён і выкарыстоўваў рэзкі выраз. М. Каяловіч пісаў, што з дапамогай сепаратызму ў "Заходняй Расіі" пазбаўляюцца як ад сапернікаў, так і ад ворагаў. Апрача таго, ён адзначаў, што некаторыя "раздуваюць свой асабісты эгаістычны і нячэсны сепаратызм у тэорыю і ўводзяць у зман многіх наіўных і нявопытных назіральнікаў заходнерускіх справаў"[23].

Даследчыку прыходзілася даказваць правільнасць сваіх навуковых тэорый не толькі насельніцтву заходней часткі імперыі, але і прадстаўнікам пецярбургскай эліты. У адным з выступаў ён ка-

---

[20] Коялович, М. Чтения по истории западной России. СПб., 1884. С. 10.

[21] Коялович, М. Состояние православного духовенства на западной окраине России в связи с некоторыми вопросами, касающимися всего русского духовенства // Литовские епархиальные ведомости. 1882. № 46. С. 378.

[22] Ibidem.

[23] Ibidem.

заў: “Гістарычнае ўзрастанне нашага рускага этнаграфічнага цэлага адбывалася менш усяго ваяўнічым, падаўляючым гвалтам і больш мірным шляхам, шляхам супольнага жыцця, паступовай асіміляцыі іншародцаў. <...> Трэба прызнаць, што Расія моцна трымае свае іншародныя ускраіны, і менавіта паўночна-заходнія і заходнія, і трымае не аднымі матэрыяльнымі сіламі, але і культурнымі...”[24].

Падводзячы вынікі, трэба адзначыць некалькі ключавых момантаў у навуковай дзейнасці М. Каяловіча. Гэты вучоны быў выхаваны ў стараўніяцкім, а пазней – у праваслаўным асяроддзі, прадстаўнікі якога бачылі ў аблічны Расіі адзінага саюзніка ў напружанай барацьбе з каталіцкім уплывам. Гэта аказала ўздзеянне на сістэму іх каштоўнасцей, дзе “заходні мір” у аблічны каталіцкай Польшчы паўставаў у негатыўным свеце, а Расія ідэалізавалася. Будучы прадстаўніком даволі залежнай у фінансавых і іншых адносінах ад дзяржавы ўніверсітэцкай эліты, Каяловіч не мог дазволіць сабе выказваць іншыя, адрозныя ад афіцыйнага курса, погляды. У той жа час мы зможам знайсці ў спадчыне вучонага праявы мясцовага “заходнерускага” патрыятызму, аб чым сведчыць яго захопленасць гісторыяй “Заходняй Расіі”, рэкамендацыі мясцовай уладзе праводзіць “абрусенне” мяккімі, культурна-арыентаванымі метадамі[25]. Найбольшым дасягненнем М. Каяловіча можна прызнаць ягоныя публікацыі з доказам таго, што беларускія тэрыторыі не з’яўляюцца польскім этнічным рэгіёнам. Творчая спадчына М. Каяловіча дапамагае лепш зразумець напружанасць ідэалагічнага, нацыянальнага і палітычнага супрацьстаяння на беларускіх землях у разглядаемы намі перыяд.

24 Коялович, М. Историческая живучесть русского народа и ее культурные особенности. СПб., 1883. С. 20.

25 Коялович, М. Поездка в середину Белоруссии. 1887. С. 17.

# Як можна быць літвінам у Беларусі?

## Аляксей Дзермант

Навуковы супрацоўнік Цэнтра гісторыка-філасофскіх і кампаратыўных даследаванняў Інстытута філасофіі НАН Беларусі.
Сфера навуковых зацікаўленняў: традыцыйная этнічная культура, палітычная і этнічная гісторыя рэгіёна Балтыйскага мора, геапалітыка, палітычная філасофія, філасофія традыцыяналізму, гісторыя ідэй

У "Пярсідскіх лістах" Мантэск'е, дзе аўтар ад імя прыдуманага персідскага вандроўніка рэзка крытыкуе тагачасныя парадкі ў Францыі, адзін з персанажаў са шчырым здзіўленнем пытаецца: "Як можна быць персам?". Французам XVIII ст. было цяжка ўявіць, як чалавек можа быць персам ды яшчэ крытыкаваць самую прагрэсіўную краіну Еўропы. Блізка тая ж занепакоенасць, а часам боязь і нядобразычлівасць адчуваецца ў шэрагу нядаўніх рэфлексій, прысвечаных літоўскай плыні, што пакрысе афармляецца ў асадах беларускай інтэлектуальнай і публічнай сферы.

Збянтэжанасць перад рознымі варыянтамі літоўскіх праектаў выклікае найперш адзін прынцыповы момант: *"для ідэолагаў і носьбітаў гэтых праектаў панятак «ліцьвін» даўно адасобіўся ад «беларускай прапіскі»,ператварыўшыся ў альтэрнатыўны беларускаму нацыянальны (з прэтэнзіямі на этнічны) праект"*[1]. Далейшая засцярога грунтуецца на адчуванні небяспекі гэткай літоўскасці для Беларусі як канстанты, якая мусіла б мець агульнапрынятую нацыянальную метатэорыю, што навучыла б нас *"ня толькі адрозьніваць інтанацыі смаку ў вашай шклянцы вады, але і – прыняць і ўрэшце палюбіць гэты букет, ня прагнучы адмаўляць ці абіраць у ім штосьці"*[2]. Метафара кісла-салёна-салодкага кактэйлю пад рознымі найменнямі досыць папулярная ў сучасных пратаганістаў беларускай ідэі: "метатэорыя" (Аляксей Бацюкоў), "дыскурс Беларусі" (Валянцін Акудовіч). Але мы не будзем дэталёва абмяркоўваць гэтыя ідылічныя варыянты "грамадскай дамовы", а паспрабуем акрэсліць ім альтэрнатыву ў варунках рэальнай "вайны ідэяў" ды засяродзім увагу на тым, каму і чым літоўшчына гэтак муляе вока.

---

[1] Бацюкоў, А. Найноўшае ліцьвінства як праект карэкцыі сучаснасьці // Arche. 2007. № 12. С. 67.

[2] Тамсама. С. 68.

## Славяне versus балты

Змагацца з літоўшчынай у Беларусі звычайна пачынаюць здалёк – ад даўніх этнічных супольнасцяў. У прыватнасці, спрабуюць усяляк зменшыць уплыў балцкага субстрату ў этнагенезе беларусаў, спрасціць этнакультурную генеалогію беларускага народу, звёўшы яго толькі да славянскага чынніку. Пры гэткім падыходзе адно славянскае апазнаецца за тое, што мае дачыненне да паўстання сучасных беларусаў, а балцкі складнік не ўпісваецца ў гэтую схему. Усё балцкае атаясамляецца толькі з літоўцамі, славянскае – толькі з беларусамі.

Акурат такой стратэгіі трымаецца гісторык Ігар Марзалюк, які ў сваёй кніжцы, прысвечанай міфам беларускай адраджэнскай гістарыяграфіі, з выкрывальніцкім імпэтам абрынуўся на даследчыкаў балцкай спадчыны ў Беларусі, у тым ліку і на аўтара гэтых радкоў. І. Марзалюк наўпрост ухіліўся ад разгляду нашай навуковай аргументацыі, і гэта цалкам зразумела, бо аб'ём літаратуры, што прысвечана балцкай тэме ў беларускім кантэксце, якую мы выкарыстоўваем у сваіх працах, перавышае сотні адзінак у разнастайных галінах веды: лінгвістыка, археалогія, антрапалогія, этнаграфія, міфалогія ды інш. – і на яе аспрэчванне магілёўскаму знаўцу яўна не хапіла б адной танюткай брашуры. Таму ён вырашыў абмежавацца выключна ідэалагічнай контраргументацыяй. Нам закідваецца ні больш ні менш як нацыянальная здрада: *"У іх выпадку мы маем справу з даўняй беларускай інтэлігенцкай хваробай – нацыянальнай фрустрацыяй, імкненнем адмовіцца ад рэальна існуючай традыцыі, а значыць, і ад сваёй спадчыннай беларускасці, са спробай атаясаміць сябе з больш паспяховым, атрымаўшым больш высокі ўзровень сацыяльнай сатысфакцыі, суседам. «Заўчора» – ператварэнне ў паляка, «учора» – у велікаруса, «сёння» – у балта. Шыльды розныя, а сутнасць тая ж самая: нацыянальнае рэнегацтва, уцёкі ад саміх сябе..."*[3].

Калі б І. Марзалюк працягваў заставацца на пазіцыях гістарычнай навукі, а не ўласнай ідэалогіі, то заўважыў бы, што гэткае "ператварэнне" спадарожнічала этнакультурным і моўным працэсам у нашым краі, бадай, усё апошняе тысячагоддзе. Славянізацыя і рутэнізацыя балтаў праз хрост паводле ўсходняга абраду, змена даўняй этнічнай тоеснасці: крывічы, літва, ятвягі, радзімічы і г.д. на этнаканфесійную – рускую, змена ідэнтычнасці русінскай арыстакратыі праз канверсію ў каталіцтва на літоўска-польскую, паўстанне "заходнерусізму" ды атаясамленне з неад'емнай часткай "об-

[3] Марзалюк, І. Міфы "адраджэнскай" гістарыяграфіі Беларусі. Магілёў, 2009. С. 47.

щерусской" супольнасці і як вынік – масавая русіфікацыя. З гэтай перспектывы зусім незразумела, чаму за пункт адліку тутэйшай традыцыі бярэцца толькі адна з кропак на лініі "ператварэння" – навяртанне ў рускасць.

Інтэгральная нацыянальная традыцыя павінна ўлучаць і іншыя складнікі, пагатоў, іх роля была далёка не мізэрнай. Нашую традыцыю немагчыма ўявіць без балцка-паганскага і літоўска-каталіцкага складнікаў. Адметна, што І. Марзалюк *"не выключае католікаў з беларускага этнагенезу, ён проста падзяляе агульнапрынятае ў літоўскай, польскай, а таксама беларускай (працы М. Грынблата) этналагічнай літаратуры палажэнне аб тым, што ядро сённяшніх беларусаў-католікаў Заходняй Беларусі мае літоўскае паходжанне"*[4]. Таксама магілёўскі гісторык лічыць мадэрнізацыяй сцверджанне пра тое, што ўжо ў XIV–XVII стст. гэтае насельніцтва было беларускамоўным і працэс моўнай беларусізацыі балтаў (літоўцаў) Заходняй Беларусі скончыўся толькі ў XX ст.[5], хаця папраўдзе не скончыўся ён і дагэтуль. Сёння на захадзе нашай краіны жыве каля мільёну беларусаў-каталікоў (нашчадкаў г.зв. старакаталікоў) і няма нічога дзіўнага ды заганнага, калі ў іх асяроддзі абуджаецца цікавасць да ўласнага літоўскага паходжання, з'яўляецца імкненне да ўсведамлення сябе літвінам. Іх спадчынная літоўскасць мае гэткае ж права на існаванне, як і беларускасць.

Апрача таго, падкрэслім, што наўпростае дачыненне да балцкай, літоўскай спадчыны маюць не толькі беларусы-каталікі ды літоўскія палякі, але і нашчадкі сярэднявечных русінаў – праваслаўныя беларусы. Нядаўна некаторыя аўтарытэтныя даследчыкі выказаліся за перагляд традыцыйнага меркавання пра тое, што хрост у XIV ст. правёў дакладную мяжу паміж літвінамі-каталікамі і русінамі-праваслаўнымі. Акадэмік Зігмас Зінькявічус на падставе аналізу лінгвістычных матэрыялаў (дыялектаў літоўскай і беларускай моваў), тапаніміі, антрапаніміі, царкоўнай тэрміналогіі прыйшоў да высновы, што ўсходнехрысціянская хваля была вельмі інтэнсіўнай і пакінула глыбокія сляды. Адразу пасля яе з'яўлення пачалося шырокае распаўсюджанне элементаў новай культуры сярод балтаў. Тады ж яны пачалі масава пераймаць многія асабістыя імёны, што даваліся падчас хросту, а разам са з'яўленнем славянскага пісьменства пачаўся працяглы і складаны працэс замены спрадвечнай балцкай мовы на ўсходнеславянскую.

З. Зінькявічус мяркуе, што насельнікі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі паводле паходжання таксама *"былі ўласна літоўцамі, толькі гаварылі на іншай мове і перайшлі з паганства ў хрысціян-*

---

4 Марзалюк, І. Назв. сач. С. 95.

5 Тамсама. С. 96.

*ства ўсходняга абраду. Гэтае насельніцтва складала значную частку ўсіх жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. У сувязі з гэтым шпаркае і значнае пашырэнне Літоўскага гаспадарства не было нейкай асаблівай з'явай, «цудам», як гэта можа здацца. Яго рост і ўмацаванне былі справаю, найперш, карэннага літоўскамоўнага насельніцтва, аднак важную ролю ў гэтым адыгралі і тыя былыя этнічныя літоўцы, пра якіх ідзе гаворка вышэй. І яны былі ня меншымі патрыётамі сваёй дзяржавы, чым тыя, якія захоўвалі сваю спрадвечную мову. Асабліва гэта тычыцца тае часткі насельніцтва, з якое пасля ўтварыліся беларусы, бо іх тэрыторыя пражывання ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага раней, чым тэрыторыі іншых усходніх славян (дакладней, славянізаваных балтаў)"*[6].

Між іншым, гэты погляд амаль ідэнтычны тэзісу І. Марзалюка аб тым, што хрост балтаў у "рускую" веру ўрэшце прыводзіў да іх ментальнай і моўнай рутэнізацыі[7], толькі пачатак гэтага працэсу мусіць быць адсунуты раней, а яго арэал, мяркуючы па ўсім, ахопліваў усю будучую этнічную тэрыторыю беларусаў (на перыяд X–XIII стст. мы маем звесткі пра існаванне вялікіх балцкіх анклаваў вакол Пінска, Менска, на паўднёвым захадзе ад Магілёва, вакол Смаленска, на паўднёвым захадзе ад Віцебска, на поўдзень ад Полацка ды інш.[8]). Істотна заўважыць, што панятак "літоўскі", "літва" ў азначаны перыяд, фактычна, ператварыўся ў метаэтнонім, які ў асяроддзі рускіх кніжнікаў стасаваўся да балцкіх этнічных супольнасцяў далёка на ўсход ад "летапіснай" Літвы[9].

Адсюль вынікае, што балцкі (літоўскі) этнічны субстрат можа быць падставай, прынамсі, для зацікаўлення літоўскай традыцыяй і ідэнтычнасцю не толькі сярод беларусаў-каталікоў. І калі літоўшчына раптам зноў абвяшчае пра сваё існаванне вуснамі беларусаў – гэта не ёсць дзіўным, бо і ў еўрапейскіх краінах натуральным чынам адбываюцца аналагічныя працэсы. У прыватнасці, даследчык феномену этнічнасці Аляксандр Мыльнікаў заўважае, што даўнія этнасы не знікаюць зусім і ўваходзяць у склад новых супольнасцяў, як *"кельты ў Вялікабрытаніі ды Францыі, славяне ў Паў-*

6 Zinkevičius, Z. Krikščionybės ištakos Lietuvoje: Rytų krikščionybė vardyno duomenimis. Vilnius, 2005. P. 86.

7 Марзалюк, І. Ад этнасу да нацыі // Гістарычны альманах. 2002. Т. VII. С. 161.

8 Топоров, В. О балтийском слое русской истории // Florilegium: К 60-летию Б.Н. Флори. М., 2000. С. 363.

9 Соболевский, А. Где жила Литва? // Известия Императорской Академии Наук. Серия VI. 1911. № 15. С. 1053; Топоров, В. Образ "соседа" в становлении этнического самосознания (русско-литовская перспектива) // Славяне и их соседи. Этнопсихологический стереотип в средние века (сборник тезисов). М., 1990. С. 9.

*ночнай Нямеччыне, аланы на Каўказе",* і пры гэтым рудыменты іх культурнай традыцыі *"або, прынамсі, гістарычныя ўспаміны пра яе пры ўзнікненні спрыяльных для гэтага абставінаў здатныя ажываць (або ажыўляцца). Адным са сведчанняў гэтага служыць рэзкі рост у Заходняй Еўропе апошніх дзесяцігоддзяў рухаў культурнага рэгіяналізму, названага нямецкім навукоўцам Д. Гердэсам «паўстаннем правінцыі». <...> Гэтыя працэсы Гердэс адсочвае пераважна на прыкладах Брэтані, Корсікі, Эльзаса, Аксітаніі ды іншых рэгіёнаў Францыі, якая дагэтуль здавалася монаэтнічнай. Аднак шмат у чым падобныя з'явы выяўляюцца не толькі ў краінах Заходняй Еўропы, калі новае жыццё набываюць этнонімы народаў, якія, здавалася б, даўно сыйшлі з гістарычнай сцэны"*[10].

Па сутнасці, актуалізацыя балцкай і літоўскай спадчынай у Беларусі – гэта аналагічны зварот да тутэйшай культурнай традыцыі, таму закіды І. Марзалюка пра яе адмаўленне выглядаюць недарэчнымі. Гэта проста вяртанне да яе першапачаткаў. І тут рэнегатам ды ўцекачом ад самога сябе, які адмыслова нівеліруе балцкі/літоўскі складнік радаводу беларусаў і нават (калі меркаваць паводле прозвішча) балцкія карані ўласнага радаводу, выступае хутчэй сам І. Марзалюк[11].

## Русіны versus літвіны

Гісторыя ўзаемадзеяння, а нярэдка канфрантацыі літоўскай ды рускай традыцыі на нашых землях налічвае ўжо больш як тысячагоддзе. Спачатку гэта былі культурныя ды вайскова-палітычныя су-

[10] Мыльников, А. Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы: представления об этнической номинации и этничности XVI–XVIII века. СПб., 1999. С. 327–328.

[11] Прозвішча *Марзалюк* мае хутчэй за ўсё балцкае паходжанне ды звязанае з літ. *murzlas*, 'марашка', *murzius, murza* 'мурза, запэцканы, брудны чалавек', наяўнасць суфіксальнай формы на *-юк* таксама можа сведчыць на карысць менавіта балцкай этымалогіі прозвішча, параўн.: "Сапраўдную самастойнасць у славянскіх мовах набыў балтыйскі (літоўскі) дымінутыўны суфікс -(i)uk-as, з дапамогай якога ў дыялектах беларускай, польскай і ўкраінскай (пераважна на Палессі) моваў утвараюцца назоўнікі ад каранёў, якія ў саміх балтыйскіх мовах не засведчаныя нават у якасці славізмаў" (Лаучюте, Ю.А. Словообразовательный аспект лексических заимствований (на материале славянских балтизмов)). – Рэжым доступу: http://iling.spb.ru/pdf/des/127lau.pdf). Яшчэ больш гратэскава на фоне ўласнай балцкай і "каталіцкай" антрапаніміі выглядаюць постаці ўраджэнацаў Гарадзеншчыны – гэткія як філосаф Чэслаў Кірвель (параўн. літ. *kirvis, kirvelis* 'сякера, сякерка') або старшыня рэгіянальнай філіі грамадскага аб'яднаня "Белая Русь" Вітальд Песціс (імаверна ад літ. *piesta* 'таўкач' або *peštis* 'біцца, ладзіць бойку'), вядомыя сваімі "заходнерускімі" поглядамі.

вязі паміж рускімі княствамі і літвой, затым – адносна мірнае падпарадкаванне гэтых княстваў літоўскай уладзе, пазней – змаганне паміж літоўскім і рускім набілітэтам за дамінаванне ў дзяржаве (грамадзянская вайна Жыгімонта Кейстутавіча і Свідрыгайлы). Пасля чаго пачаўся павольны працэс кансалідацыі прадстаўнікоў абедзвюх партый у адну палітычную нацыю[12].

Варта згадаць і знешнепалітычнае вымярэнне гэтай канфрантацыі – геапалітычнае і вайсковае змаганне Літоўскай і Маскоўскай дзяржавы за дамінацыю ў рэгіёне і права кансалідацыі вакол сябе земляў колішняй Русі. Міждзяржаўная канфрантацыя завяршылася ў канцы XVIII ст. акупацыяй тэрыторыі Рэчы Паспалітай і знікненнем Вялікага Княства Літоўскага з палітычнай мапы. З таго часу літоўская традыцыя на нашых землях пакрысе выціскаецца са свядомасці і гістарычнай памяці тутэйшых людзей, а замест яе рэалізуюцца розныя адмены рускай ідэнтычнасці. На скрыжаванні аднаго з яе варыянтаў – "заходнерусізму" ды краёвага патрыятызму літоўска-польскай арыстакратыі паўстае ўрэшце і беларуская нацыянальная ідэя[13].

Між тым відавочна, што літоўшчына дагэтуль прысутная як складнік гэтай нацыянальнай ідэі, а канкурэнцыя між двума традыцыямі працягваецца па сённяшні ў спрэчках палітычных і культурных дзеячаў, публіцыстыцы і навуковых даследаваннях. Можна згадаць некалькіх даследчыкаў, якія з пэўнай доляй умоўнасці далучаюцца да "літвінскай" (Алесь Смалянчук, Святлана Куль-Сяльвестрава, Алесь Белы) і "русінскай" (Ігар Марзалюк, Алег Латышонак, Георгій Галенчанка) плыняў у гістарычнай навуцы. Да апошніх дадамо яшчэ

[12] Пачатковае ядро палітычнай нацыі ВКЛ складала арыстакратыя з атачэння дынастыі Гедымінавічаў, што паходзіла з *Lithuania Proporia*, якая ў сваю чаргу ўзыходзіла да балцкага пляменнага набілітэту. Пад паняткам *палітычная нацыя* разумеецца своеасаблівая сацыяльна-палітычная супольнасць, чальцы якой бралі актыўны ўдзел у дзейнасці адміністрацыйнага, выканаўчага апарату, дзяржаўных органаў і грамадскім кіраванні, былі на дыпламатычнай службе, удзельнічалі ў грамадска-палітычным працэсе на мясцовым узроўні і ажыццяўлялі разнастайную творчую дзейнасць, скіраваную на фармаванне каштоўнаснай арыентацыі палітычнай супольнасці і дзяржаўна-грамадзянскай свядомасці. Літоўская палітычная нацыя паступова эвалюцыянавала ў поліэтнічную, шматканфесійную палітычную нацыю ўсяго ВКЛ, чаму спадарожнічалі павольнае сціранне адрозненняў паміж шляхтай літоўскага і русінскага паходжання і пашырэнне палітычных прывілеяў магнатаў на сярэднюю шляхту (Кяўпене, Ю. Палітычная нацыя Вялікага Княства Літоўскага. Літоўская перспектыва // Arche. 2009. № 9. С. 75–83; Белы, А. Эвалюцыя палітычнага народу ВКЛ у Сярэднявечча і Новы час // Arche. 2008. № 7–8. С. 117–119).

[13] Смалянчук, А. Ліцвінства, заходнерусізм і беларуская ідэя. XIX – пачатак XX ст. – Рэжым доступу: http://kamunikat.org/7983.html.

і досыць шматлікіх прыхільнікаў “заходнерусізму”, якія вылучыліся рэзкай крытыкай і непрыманнем літоўшчыны[14].

У апошніх публікацыях навукоўцаў таксама адбываецца рэвізія папулярнай, але спрошчанай і гістарычна некарэктнай візіі мінуўшчыны, калі пад Жамойцю у складзе ВКЛ разумеецца ўся тэрыторыя сучаснай Літвы, пад Літвой – толькі Беларусь, а пад Руссю – Украіна. На падставе такіх даўніх інтэрпрэтацый тэрмінаў узводзіцца “нацыяналістычная” канцэпцыя пра тое, што паўстанне і развіццё ВКЛ – з’явы амаль выключна “беларускай” гісторыі, роля ж сучасных літоўцаў (“жамойтаў, летувісаў”) была мінімальнай. Аднак аналіз гістарычных крыніцаў, старых картаграфічных матэрыялаў паказвае, што Літва ў XVI–XVII стст. – гэта ўсходняя палова сучаснай Літвы і амаль уся заходняя Беларусь. Русь у рэгіянальным сэнсе – гэта ўсходняя частка Беларусі, а Жамойць размяшчаецца на захадзе Літоўскай Рэспублікі[15]. Пры гэтым рэгіянальны харонім Літва пазначаў тэрытарыяльнае ядро ВКЛ і, відаць, асацыяваўся з абшарам дысперснага рассялення балтаў[16], ва ўсходняй частцы якога адбывалася паступовая асіміляцыя балцкамоўнага насельніцтва.

З іншага боку, з’явілася тэндэнцыя гіпербалізацыі рускага чынніку ў беларускай этнічнай гісторыі коштам літоўскага. І. Марзалюк следам за Г. Галенчанкам[17] уважае толькі праваслаўных русінаў за продкаў беларусаў і пры гэтым цвердзіць, што тэрмін “Літва” ў XIV–XVI стст. ужываўся ў некалькіх асноўных сэнсавых значэннях: 1) палітонім або азначэнне ўсёй дзяржавы – ВКЛ; 2) харонім або “Літва” ў вузкім сэнсе – гістарычны цэнтр дзяржавы, які складаўся з заходнебеларускіх і ўсходнелітоўскіх земляў; 3) Літва ў сэнсе этнічна балцкім[18].

[14] Гигин, В. Почему Беларусь не Литва // 7 дней. 23. 07. 2009. – Рэжым доступу: http://7days.belta.by/7days_plus.nsf/; Таляронок, И. Черная кошка “литвинизма”. – Рэжым доступу: http://exclav.ru/stati/temyi/chernaya-koshka-litvinizma-13.html; Евтушенко, М. “Литвинизм” в Беларуси как политический проект. Его особенности и перспективы. – Рэжым доступу: http://www.imperiya.by/authorsanalytics19-2428.html.

[15] Насевіч, В. Літва // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мінск, 2006. Т. II. С. 205–206; Насевіч, В. Русь // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Мінск, 2006. Т. II. С. 522; Латышонак, А. Нацыянальнасць – Беларус. Вільня, 2009. С. 180.

[16] Насевіч, В. Літва... С. 205.

[17] Галенчанка, Г. Да пытання аб этнічных і этнаканфесійных катэгорыях Вялікага Княства Літоўскага XIV–XVI ст.: “беларусцы”, “ліцвіны” і “русіны” ў дыскурсах сучасных даследчыкаў і пісьмовых крыніцах // Studia Historica Europae Orientalis. Исследования по истории Восточной Европы. Вып. 1. Мінск, 2008. С. 9–19.

[18] Марзалюк, І. Міфы “адраджэнскай” гістарыяграфіі Беларусі. Магілёў, 2009. С. 48.

Але ўсе гэтыя сэнсы маюць непасрэднае дачыненне да прашчураў сучасных беларусаў (як і літоўцаў) або значнай іх часткі, таму нельга пагадзіцца з тым, што толькі тэрмін "Русь", "русін", "рускі" быў іх адзіным ды агульным эндаэтнонімамі і толькі праваслаўе было традыцыйнай рэлігіяй[19]. Гэтае спрэчнае сцверджанне лёгка абвергнуць, згадаўшы, што сам І. Марзалюк не выключае з беларускага этнагенезу хрышчаных у каталіцтва балтаў (літоўцаў). А. Латышонак, здаецца, таксама заўважыў гэтую яўную супярэчнасць, калі пісаў, што *"тыя даследчыкі, якія – як Галенчанка і Марзалюк – лічылі продкамі беларусаў і ўкраінцаў толькі русінаў, таксама дапускаюць кардынальную памылку. Гістарычныя крыніцы, якія датычаць усёй тэрыторыі, дзе пазней сфармаваліся беларусы, поруч з русінамі згадваюць таксама літоўцаў у этнічным значэнні"*[20].

Даследчыца Любоў Ляўшун, аналізуючы канцэпт "літоўскасці" ў кніжнай культуры ВКЛ XIV–XVII стст., канстатуе яго шматзначнасць і досыць складаны культуралагічны кантэкст. Яна вылучае паняткі "літвіны"/"літва" ў якасці палітонімаў, этнонімаў і ідэалагемаў ды звязвае з імі паўстанне беларускай нацыі як кангламерату трох этнакультурных супольнасцяў, што складаюцца: 1) з нашчадкаў літвінаў праваслаўнага веравызнання, якія атаясамляюць сябе з усходнеславянскай супольнасцю і *Slavia Orthodoxa* у цэлымі, 2) нашчадкаў літвінаў, якія прынцыпова не звязваюць сябе ані са *Slavia Orthodoxa,* ані са *Slavia Latina*, то бок аднолькава адмаўляюць і заходнюю, і ўсходнюю арыентацыю ды 3) нашчадкаў літвінаў, што адчуваюць сваю належнасць да *Slavia Latina* і заходнееўрапейскай цывілізацыі[21].

Схема, прапанаваная Л. Ляўшун, выклікае шэраг пярэчанняў, асабліва ў той частцы, дзе яна гаворыць пра маргінальнасць і "адсталасць" прадстаўнікоў другой і трэцяй супольнасці на агульным усходнеславянскім і заходнееўрапейскім фоне. Не ангажаваная ацэнка палітычных і культурных дасягненняў гэтых катэгорый літвінаў пэўна засведчыць іх развітасць ды досыць высокі ўзровень у параўнанні з Заходняй Еўропай, не кажучы ўжо пра Расію. Думка, пра "прамежкавасць", "сектанцтва" і "закамплексаванасць" постлітвінаў-"недалучэнцаў" і "заходнікаў", падтрыманыя цытатай з тэксту Якава Трашчанка, выдае яшчэ і выразны ідэалагічны пасыл супраць беларускага нацыянальнага руху, які мае мала супольнага з навукаю. Няпэўнасць уласнай культурнай пазіцыі і моцную залеж-

[19] Марзалюк, І. Назв. сач. С. 116.

[20] Латышонак, А. Нацыянальнасць – Беларус. Вільня, 2009. С. 182.

[21] Левшун, Л. Концепт "литвины" в этнокультурном сознании белорусов. Свидетельства письменных источников XIV–XVII веков // Беларуская думка. 2009. № 11. С. 102–109.

насць ад знешніх фактараў (ажно да антыдзяржаўнага сепаратызму і калабарацыі) праз канфесійную прыналежнасць можна заўважыць менавіта ў першай катэгорыі – праваслаўных літвінаў, або, кажучы дакладна, тых русінаў, якія ў ВКЛ не стварылі ўласную паўнавартую ідэалагему, а ў Расійскай імперыі трапілі пад праваслаўна-славянафільскі ўплыў ды былі змушаныя будаваць новую – перыферыйную беларускую ідэнтычнасць толькі з этнаграфічных "рэліктаў".

Калі вярнуцца да прычыны супярэчнасці, адзначанай у поглядах І. Марзалюка ды іншых аўтараў, то яна палягае ў падыходзе да разумення этнічнасці. Беларуская этнічнасць у духу вульгарнага прымардыялізму ўважаецца за спрадвечна існую, "жорстка" дэтэрмінаваную з'яву, калі веданне беларускай мовы або праваслаўнае веравызнанне сведчыць пра наяўнасць непразрыстай мяжы паміж беларускім і літоўскім. Адназначнае разуменне "русінскасці" як этнічнасці, а не канфесійнай прыналежнасці таксама здаецца не вельмі карэктным у святле апошніх тэндэнцый у навуцы[22]. Падобны падыход скажае рэальную лінгвістычную і этнакультурную сітуацыю ў рэгіёне паміж Вільняй і Менскам ды Браславам і Берасцем, а мо нават і шырэй, дзе працяглы час існавала балцка-славянскае дзвюхмоўе. Ёсць і канкрэтныя яго прыклады – дакументальныя сведчанні таго, як простыя сяляне і ўрадоўцы добра валодалі як старабеларускай, гэтак і літоўскай мовай[23].

Моўнай церазпалосіцы хутчэй за ўсё адпавядала і рэальнае становішча з этнічнай самаідэнтыфікацыяй, якая магла залежыць ад розных сітуацый і кантэкстаў, у звязку з чым слушным здаецца меркаванне Генадзя Сагановіча: *"У ВКЛ, думаю, можна было адначасова быць і «літвінам», і «русінам» – гэта не выклікала канфлікту ў свядомасці таго часу, і толькі ў індустрыяльным грамадстве адначасовая прыналежнасць да некалькіх нацый стала немагчымай"*[24]. У падобным рэчышчы разважаў і выбітны знаўца балцка-славянскіх дачыненняў Уладзімер Тапароў: *"Мяжа паміж балцкім і славянскім праходзіла не толькі ў прасторы і часе, але і праз а д з і н народ, адну культуру і нават праз аднаго чалавека, які р о ў н а быў і*

[22] Дмитриев, М. Киево-Могилянская академия и этницизация исторической памяти восточных славян (Иннокентий Гизель и Феодосий Софонович) // Київська Академія. Вып. 2–3. Киев, 2006. С. 26.

[23] Дзярнович, О.И. О факторе литовского языка в многокультурном обществе Великого Княжества Литовского XV–XVIII ст. // Исторический путь литовской письменности: Тезисы Международной научной конференции, посвященной 100-летию отмены запрета литовской печати, 4–6 ноября 2004 г. М., 2004. С. 20; Катлярчук, А. Паганства ў Вялікім Княстве Літоўскім вачыма шведскіх і ангельскіх гісторыкаў XVI–XVII стст. // Druvis. 2008. № 2. С. 81.

[24] Сагановіч, Г. Прывід нацыі ў імгле стэрэатыпаў // Беларускі Гістарычны Агляд. Снежань, 2003. Т. 10, сш. 1–2. С. 297–298.

*балтам і славянінам і ў розных абставінах мог па-рознаму актуалізаваць сваю этнічную, культурную, моўную іпастась, падобна таму, як у пазнейшы час адныя і тыя ж людзі, гарады, вёскі маглі выступаць і як «літоўскія» і як «рускія»"*[25]. Нагадаем, што яшчэ ў XIX ст. беларускамоўныя вернікі як каталіцкага, гэтак і праваслаўнага веравызнання на Віленшчыне ды Гарадзеншчыне нярэдка апазнаваліся як літвіны/літоўцы[26]. У XX ст. этнонім "літвіны" фіксуецца этнографамі ў памежных зонах кантакту этнічных групаў на Заходнім Палессі, а геаграфічны рэгіён Літва ва ўсходнеславянскім арэале атаясамляецца з сучаснай паўночна-заходняй Беларуссю[27].

Больш адэкватным для апісання этнакультурных працэсаў нам здаецца спалучэнне канструктывісцкага і сімвалічнага падыходаў, паводле якога праява этнічнай ідэнтычнасці заўсёды залежала ад канкрэтнай сітуацыі, і таму яна можа быць дакладна акрэслена як "сітуацыйны канструкт". Гэта азначае, што ў розных абставінах адзін і той жа чалавек мог атаясамляць сябе з рознымі групамі і выступаць іх чальцом. Асновай для самаідэнтыфікацыі была асаблівая карціна свету, уласцівая кожнаму чалавеку, выяўленая ў міфах ды вераваннях, якія ён падзяляе, у розных сэнсах, якія надаваліся людзям, элементам матэрыяльнай культуры і інстытутам, што падзяляліся на "сваіх" і "чужых". Канструяванне этнічных адрозненняў адбывалася ў шчыльнай сувязі з узнікненнем сацыяльных групаў, інстытутаў, палітычных структураў, якія прэтэндавалі на асаблівае становішча, ды іх ідэалагічным афармленнем, то бок абгрунтаваннем свайго існавання і дзеянняў. Але ў збіранні групаў адыгрывала важную ролю не толькі гэтая "палітыка", але "традыцыя", эсэнцыяй якой быў міф пра супольнае паходжанне, здатны аб'яднаць і паставіць пад адзін штандар людзей рознага паходжання. Носьбітам традыцыі, як правіла, быў адносна невялікі калектыў, звычайна – вайсковая эліта, які захоўваў яе і перадаваў другім групам, уцягнутым у працэс збірання[28].

---

25 Топоров, В. Функция границы и образ "соседа" в становлении этнического самосознания (русско-балтийская перспектива) // Славяноведение. 1991. № 1. С. 31–32.

26 Гл. шэраг такіх сведчанняў у: Токць, С. Беларуская вёска на мяжы эпох. Змены этнічнай самасвядомасці сялянства ва ўмовах распаду традыцыйнага аграрнага грамадства (па матэрыялах Гарадзеншчыны XIX – першай трэці XX ст.). – Рэжым доступу: http://autary.iig.pl/tokc/knihi_vioska_02.htm.

27 Чаквін, І. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весткі Акадэміі навук Беларускай ССР. 1985. № 4. Серыя грамадскіх навук. С. 79–80; Климчук, Ф. Восточнославянский этноним "литвины" // Tarptautinė baltistų konferencija. Международная конференция балтистов. Vilnius, 1985. С. 168–169.

28 Кибинь, А. Верхнее Понеманье в политической, социо-культурной и этнической истории славян и балтов VIII–XIII вв.: автореф. дис. на соискание

Прыкладам дзеяння падобнага механізму этнічнай ідэнтыфікацыі можа быць міф пра рымскае паходжанне літоўскай арыстакратыі, які мусіў быў падкрэсліваць яе апрычонасць ад польскай і русінскай. Шляхта русінскага паходжання паступова ўцягвалася ў працэс "збірання" агульнай палітычнай нацыі пад літоўскай эгідай ды ўрэшце пачала ўсведамляць сябе літвінамі. Адначасна з гэтым у Рэчы Паспалітай фармуецца агульная польская палітычная нацыя, у межах якой літоўская шляхта захоўвала ўласную этнічную адметнасць і гістарычную свядомасць. Літоўска-русінска-польскі арыстакратычны сінтэз абумовіў з'яўленне таго, што атрымала назоў "літвінскай культурнай традыцыяй" у беларускім кантэксце. У ёй вылучаецца шэраг характэрных рысаў: літоўскі патрыятызм, ідэалізацыя гісторыі ВКЛ; каталіцкая (уніяцкае) веравызнанне бальшыні носьбітаў гэтай традыцыі; талерантнасць у дачыненні да прадстаўнікоў іншых станаў, этнасаў, канфесій; польскамоўнасць (пры гэтым утварыўся адмысловы варыянт польскай мовы – "пальшчызна крэсовая")[29].

Сучасныя спрэчкі даследчыкаў і публіцыстаў тычацца менавіта разумення сутнасці традыцыі, яе рэальных і міфалагічных складнікаў, іх іерархіі. Яны вядуць навуковае ды ідэалагічнае змаганне за права вызначаць яе змест і адпаведна фарміраваць нацыянальную ідэнтычнасць беларусаў. Літоўскі міф у сваім часе перамог, бо русіны, не здолеўшы стварыць прывабную, моцную версію свайго, пачалі пераймаць міф літоўскі. Таму можна згадзіцца з Валерам Булгакавым, што*"прысваеньне польскай ці літоўскай традыцыі як уласнай лішні раз сьведчыць пра слабасьць ці хімэрычнасьць аўтэнтычнай рускай"*[30]. Але гэтая трапная выснова вымагае змены акцэнтаў. У дачыненні да літоўскай і літоўскай-польскай традыцыі казаць пра "прысваенне" – некарэктна, бо для значнай часткі беларусаў яна не менш аўтэнтычная за рускую. Свой пройгрыш у ідэалагічнай канкурэнцыі асобныя прадстаўнікі былой русінскай эліты ВКЛ змаглі кампенсаваць ужо толькі пасля знікнення гэтай дзяржавы праз рознабаковую дзейнасць у рэчышчы паноўнай ідэалогіі Расійскай імперыі – *"хуткасць асіміляцыйных працэсаў у Беларусі*

уч. степ. канд. истор. наук. СПб., 2009. С. 10; Кибинь, А. Ятвяги в X–XI вв.: "балтское племя" или "береговое братство"? // Studia Slavica et Balcanica Petropolitana. 2008. № 2. С. 121.

29 Куль-Сяльвестрава, С. Літвінская культурная традыцыя ў кантэксце беларускай культуры // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя: Матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін", Мінск, 6–9 чэрвеня 2005 г. Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 28. Мінск, 2006. С. 140.

30 Булгакаў, В. Злыя дэманы беларускай гісторыі // Arche. 2007. № 9. – Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2007-09/bulhakau709.htm.

*не растлумачыць адно агрэсіўнасцю каланіяльных наратываў – у вялікай ступені яны былі вынікам абумоўленай культурнымі і гістарычным чыннікамі гатовасцю рускай эліты ВКЛ да калабарацыі з расейскім імперскім урадам”*[31]. Менавіта ў гэтым можна заўважыць асноўныя прычыны ды перадумовы з’яўлення “заходнерусізму”.

**Беларусы versus літвіны**

Яшчэ адна заўважная тэндэнцыя – спроба адчужэння, проціпастаўлення беларускага і літоўскага пад выглядам патрыятычнай аддансці беларушчыне. Вельмі празрыста пра гэта прамаўляе А. Латышонак: *“Беларуская нацыянальная ідэя развівалася ў ідэалагічным змаганні з літоўскай нацыянальнай ідэяй. Безумоўна, не абышлося пры гэтым без узаемных уплываў. Тым не менш, беларуская нацыянальная ідэя ў сваёй «чыстай форме» наагул несумяшчальная з літоўскаю, паколькі гэтыя ідэі адносяцца да розных сістэмаў духоўных, культурных і гістарычных каштоўнасцяў”*[32]. Чым тады ёсць чыстая беларуская ідэя? Пералічым асноўныя яе складнікі, якія вынікаюць з аналізу працаў ідэалагічных пурыстаў беларускасці: славянства, руская генеалогія, праваслаўе, мова. Відавочна, што гэтыя складнікі былі б вельмі блізкія любому прарасійскаму нацыяналісту, хіба што трэба яшчэ прызнаць беларускую мову самастойнай, а не дыялектам расійскай. Але гэта насамрэч не прынцыпова, усе астатнія каштоўнасці супадаюць.

Прынцыповым ёсць адрынанне літоўскасці, як робіць гэта А. Латышонак, характаразуючы “літоўскі міф”:*“Ён вельмі распаўсюджаны, і ягоныя прыхільнікі зацята адмаўляюць любую іншую традыцыю. Сапраўдныя міфы адпавядаюць вельмі глыбіннай праўдзе, але ў гэтым выпадку літвінскі міф – фальшывы і шкодны для беларускасці”*[33].

Мяркуючы, паводле тэкстаў прыхільнікаў выключна рускай генеалогіі беларускай нацыянальнай ідэі, менавіта яны зацята адмаўляюць любую іншую традыцыю, а канкрэтна, традыцыю літоўскую, хаця больш справядлівым было б прызнаць, што беларускасць у яе незалежніцкім вымярэнні сфарміравалася як літоўска-рускі сімвалічны сімбіёз. І ўжо кожны тутэйшы чалавек праз уласнае рэгіянальнае паходжанне, веравызнанне, культурныя, эстэтычныя і ідэалагічныя прыхільнасці знаходзіць у ім найбольш

31 Булгакаў, В. Назв. сач.

32 Латышонак, А. Нацыянальнасць – Беларус. Вільня, 2009. С. 404.

33 Гісторык Алег Латышонак: Лёс нацыі не можа залежаць ад аднаго чалавека. – Рэжым доступу: http://news.tut.by/society/149094.html.

адпаведнае для сябе. Спробы змусіць палюбіць усё агулам, у тым ліку нешта далёкае, у свойскасці якога ёсць сур'ёзныя падставы сумнявацца, мы б назвалі не лаяльнасцю да пэўнай версіі нацыянальнай генеалогіі дзеля ўяўнага адзінства, а інтэлектуальным бальшавізмам. Адасабленне ад літоўскай традыцыі і навязванне рускай у якасці адзінай легітымнай асновы для беларускай нацыянальнай ідэі выдае памкненне на "зачыстку" культурнай памяці ад "іншародных" элементаў. Рэальныя гістарычныя асновы і працяглае існаванне сярод беларусаў "літоўскага міфа", рост цікавасці да яго, як і колькасці прыхільнікаў – найлепшае сведчанне яго адпаведнасці "глыбіннай праўдзе". А вось што сапраўды шкодзіць нацыянальнай ідэі, дык гэта недальнабачнае змаганне з ім.

На жаль, гэта разумеюць далёка не ўсе. З'яўляюцца нават адмысловыя "антылітвінскія трактаты"[34], дзе прыхільнікам літоўскай традыцыі прыпісваюцца ўсе магчымыя заганы – ад постмадэрнізму да карыстання беларускай мовай. Абвінавачанне ў постмадэрнізме грунтуецца на закідах у адмаўленні беларускага нацыяналістычнага метанаратыву, шызафрэнічнасці і нават наўмысным "забойстве" асобы.

Тут варта зрабіць патрэбныя ўдакладненні. Паслядоўныя "літвіны", якія апелююць да ўласнай традыцыі і кажуць пра яе актуальнасць для Беларусі, крытыкуюць нацыяналістычны метанаратыў не з пазіцый адмаўлення метанаратыву як такога, а з пазіцый іерархічнасці і легітымнасці. Канстатуецца відавочны крызіс сканструяванага нацыяналістамі класічнага канцэпту беларускай ідэі і ідэнтычнасці, ставіцца пад сумнеў яго выключнасць і спробы "ўзурпацыі" грамадскага меркавання пад яго эгідай з гледзішча агульнай гісторыі Краю. Як сродак супраць негатыўных наступстваў яго нетрываласці і магчымага распаду разглядаецца з'яўленне паралельнай "сістэмы каардынатаў" у выглядзе элементаў літоўскай традыцыі, паўстанне новай культурнай іерархіі. Тактыка іерархізацыі культурнай прасторы можа служыць лекам ад сапраўднай шызафрэнічнасці – расколу беларускага соцыюму на "свядомых" і "несвядомых" адносна нацыяналістычнага наратыву.

З гэтага гледзішча, літвінізм – з'ява, якая не адпавядае сутнасным катэгорыям постмадэрну, але найбольш адэкватная азначэнню "кансерватыўнай рэвалюцыі" як антыэгалітарнай, фундаменталісцкай альтэрнатыве мадэрнісцкім і постмадэрнісцкім устаноўкам[35],

[34] Віцько, З. Трактат супраць "літвінаў". – Рэжым доступу: http://arche.by/by/12/20/491.

[35] Падрабязней пра характэрныя рысы "кансерватыўнай рэвалюцыі" гл.: Михайловский, А. Консервативная революция: апология господства. Статья первая. – Рэжым доступу: http://www.apn.ru/publications/article17389.htm.

што апелюе да аўтарытэту Традыцыі ў шырокім разуменні. У прызнанні аўтарытэту і іерархіі палягае выйсце і для асобы, але не дзеля "смерці", а дзеля ператварэння ў іншы кшталт, пазбаўлены комплексу паражэння і нямогласці, якія праследуюць беларускі рух усё апошняе стагоддзе.

Супраць літвінаў высоўваюцца і фармальныя закіды, гэткія як змешванне катэгорый свядомасці і ідэнтычнасці: *"«Літвіны» блытаюць ці наўмысна падмяняюць свядомасць на ідэнтычнасць [троху раней тлумачыцца адрозненне паміж імі: «самасвядомасць – у значэнні "здавацца сабе", ідэнтычнасць – у значэнні "быць"». –* ***А.Дз.****]. Самасвядомасць шляхецкай палітычнай нацыі або заходнебеларускага насельніцтва (або і тое, і другое) выдаецца за «сапраўдную» беларускую ідэнтычнасць... Гэтую ідэнтычнасць выявілі этнографы і філолагі ў 19 ст., а існавала яна, як, было ўжо сказана, дзесьці з 12–13 ст. Аказалася, што панямонскія славянамоўныя літвіны ідэнтычныя па мове і культуры не літоўцам, а падняпроўскім і падзвінскім беларусам, гэтаксама як і ўсходнія палешукі. І ўжо на базе гэтага адкрыцця пачаў фармавацца беларускі нацыянальны рух"*[36]. Ідэнтычнасць у такім разе гэта не проста нейкая замкнёная ў сабе самасць (самасвядомасць), але тое, што можа найперш быць засведчана вонкавым назіральнікам, нездарма "антылітвін" апелюе менавіта да гэткіх фіксацый моўных або этнаграфічных рэалій.

Але любая фіксацыя – гэта найчасцей і пэўная інтэрпрэтацыя, а, фактычна, канструяванне таго ці іншага кантэксту, дзеянне якога добра праілюстраваў І. Марзалюк: *"Менавіта «злыя», «змаскалізаваныя» мясцовыя беларускія інтэлектуалы «заходнярускай» (і ці не першым – Міхайла Бяброўскі) традыцыі першымі пачалі скарыстоўваць «лінгвістычны» аргумент – родную мову насельніцтва – дзеля акрэслення яго нацыянальнай прыналежнасці. Менавіта яны, а не высакародныя краёўцы, залічылі ў шэрагі беларускага народа старакаталіцкае, у асноўнай сваёй масе балцкага паходжання, насельніцтва Заходняй Беларусі"*[37]. Магілёўскі гісторык неаднойчы прызнае, што насельніцтва Заходняй Беларусі (гістарычнай Літвы) мае збольшага балцкае (літоўскае) паходжанне, але створаны "заходнерусамі" кантэкст, дзе мова выступае вызначальным і, бадай, адзіным крытэрыям этнічнасці цалкам выключыў для яго перспектыву тамтэйшай літоўшчыны (славянскамоўнай Літвы), хаця іншыя інтэрпрэтацыі на падставе веравызнання, свядомасці або традыцыйнай культуры і тапаніміі маглі б там зас-

---

36 Віцько, З. Трактат супраць "літвінаў". – Рэжым доступу: http://arche.by/by/12/20/491.

37 Марзалюк, І. Сімптомы пажаданай гісторыі // Arche. 2008. № 3. С. 50–51.

ведчыць прыкметную прысутнасць літоўскага і таксама польскага кантэксту[38].

Калі ўжыць тую ж самую метадалогію да сучасных беларусаў, то выявіцца, што іх ідэнтычнасць ужо варта вызначаць не паводле рэальнай моўнай сітуацыі, бо пераважаная бальшыня насельніцтва Беларусі сёння размаўляе па-руску і тады яна мусіла б прызнавацца часткай расійскага народу (як гэта часта і робіцца, асабліва нашымі ўсходнімі суседзямі), а паводле самасвядомасці. Такім чынам атрымліваецца, што рускамоўны беларус – сапраўдная ідэнтычнасць, а вось беларускамоўны літвін – гэта ўжо постмадэрнісцкая самасвядомасць. Але падаецца, што гэта і ёсць блытаніна паняццяў ды маніпуляванне імі дзеля патрэбаў уласнай інтэрпрэтацыі, то бок тое, у чым вінаваціць аўтар "антылітвінскага трактату" сваіх апанентаў.

Дарэчы, некаторыя беларускія інтэлектуалы, здаецца, свядома ўжываюць падобныя падыходы, параўн. заяву Сяргея Дубаўца: *"Беларус – гэта назва, за якой стаіць подзьвіг, і легенда, за якой – культура. За літвіном сёньня нічога такога няма, яшчэ толькі трэба зьдзейсьніць подзьвіг, стварыць легенду й культуру"*[39]. Цікава, а які канкрэтна подзвіг за гэтай назвай маецца тут на ўвазе? Калі звярнуцца да яе гістарычных пачаткаў, то высвятляецца, што *"з'яўленне беларускай дзяржаўніцкай ідэі звязана з асобай беларускага палкоўніка Канстанціна Паклонскага, якога даводзіцца ўвогуле senso scricto прызнаць першым беларускім палітыкам... Канстанцін Паклонскі быў шматразовым здраднікам. Ён здрадзіў польскаму каралю і вялікаму князю літоўскаму Яну Казімеру на карысць*

[38] Параўн. вельмі трапныя заўвагі Сяргея Шупы наконт этнічнай ідэнтыфікацыі беларуска-літоўска-польскага памежжа: "Літоўская мяжа на ўсходзе – мяжа пашырэньня першапачатковых каталіцкіх парафіяў, якая пазначае абсяг расьсяленьня жыхароў, якія на момант хросту Літвы захоўвалі паганства ў адрозьненьне ад хрысьціянізаваных некалькі стагодзьдзяў раней усходніх славянаў. Беларуская мяжа на захадзе – мяжа пашырэньня беларускай моўнай асыміляцыі на пачатак XX ст., г.зн. на той момант, калі вясковае насельніцтва яшчэ не было ахопленае масіўнай палянізацыяй і/або русыфікацыяй. Пры гэтым, прымаючы да ўвагі значны ўдзел балцкага субстрату ў этнагенэзе беларусаў, этнічнымі беларусамі лічацца любыя беларусізаваныя балты, незалежна ад часу іх моўнай асыміляцыі – у X або XX ст. З аб'ектыўнага гледзішча праблема дакладнага вызначэньня мяжы практычна невырашальная дзеля дзьвюх прычынаў: 1) няўстойлівай этнічнай сьвядамасьці жыхароў «спрэчнай зоны» (сёньня, як ведама, яны без паважных этнагенэтычных падставаў называюць сябе палякамі) і 2) адсутнасьці рэальнага разьмежаваньня ў традыцыйнай матэрыяльнай культуры жыхароў памежжа" (Шупа, С. Беларуска-літоўскія маніі і фобіі // Наша Ніва. 28 ліпеня 1997 г.).

[39] Дубавец, С. Як называцца? – Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/transcript/1614000.html.

*гетмана Запарожскага войска Багдана Хмяльніцкага, таму – на карысць цара Вялікай і Малай Расеі Аляксея Міхайлавіча. У сваю чаргу, цару ён зарадзіў, вярнуўшыся на польска-літоўскі бок…”*[40]. Як бачым, “подзвіг” першага беларускага палітыка заключаўся ў шматразовай здрадзе. Ці не таму П. Васючэнка і В. Акудовіч звяртаюць увагу на тое, што “комплекс здрады” нібы арганічна знітаваны з беларускасцю, і нават бачаць у гэтым адну з падставаў яе выжывання[41]?

Якая ж легенда ды пачатковы змест стаяць за ёй? Даследнік беларускага нацыяналізму Валер Булгакаў досыць шчыра адказвае на гэтае пытанне:*“Белая Русь, больш вядомая як Беларусь, – гэта літаратурны твор, які ўпершыню фіксуецца ў летапісах XIII ст. («Incipiunt descriptiones terrarum»), верагодна, адносна цяперашняга расійска-карэльскага памежжа. Пазней гэты паразітычны блукаючы назоў ужываўся ў дачыненні розных украінскіх рэгіёнаў, усёй Маскоўскай дзяржавы, Паўночнага Прычарнамор'я і Прыазоўя, Пскоўскай вобласці ды іншых усходнееўрапейскіх тэрыторый. У часы Вялікага княства Літоўскага яго рускія землі ніколі ў дзяржаўных дакументах не называліся «беларускімі». Толькі ў 1555 г. тэрмін «Белая Русь» быў ужыты «з вонкавай пазіцыі» для апісання часткі Вялікага княства Літоўскага. У канцы 1570-ых ён пашыраецца на акупаваную з 1563 г. Іванам Жахлівым частку ВКЛ”*, а пазней, у перыяд пасля акупацыі Расійскай імперыяй *“пашырэнне тэрмінаў «Беларусь» і «беларусы» доўгі час было справай каланіяльнай адміністрацыі, а не нацыянальных агітатараў – і кансерватыўная сялянская маса сустрэла іх з засцярогай, і ў шэрагу беларускіх рэгіёнаў са спецыфічнай канфесійнай сітуацыяй ён не прыжыўся дагэтуль”*[42].

Блізу да падобных высноваў прыйшоў і этнолаг Павал Церашковіч: *“Палітыка веды, што праводзілася расійскай адміністрацыяй у другой палове XIX ст. у мэтах змагання з паланізмам, прыводзіла да канструявання «уяўнай Беларусі» – гісторыка-фальклорна-этнаграфічнай цэльнасці, якай раней ніколі не існавала... Я цалкам і напоўніцу аддаю сабе справаздачу ў тым, што «беларускасць» разглядалася ўладай як праява «спрадвечна рускага» характару краю. Аднак без урадавых высілкаў у гэтым накірунку стварэнне ўласна нацыянальнага беларускага праекту было б*

40 Латышонак, А. Нацыянальнасць – Беларус. Вільна, 2009. С. 321.

41 Васючэнка, П. Беларус вачыма беларуса. Беларус міфалагізаваны, гістарычны, рэальны // Arche. 2004. № 4. – Рэжым доступу: http://arche.bymedia.net/2004-4/vasiucenka404.htm; Акудовіч, В. Код адсутнасці. Мінск, 2007. С. 143–153.

42 Булгаков, В. История белорусского национализма. Вильнюс, 2006. С. 110, 188.

*наўрад ці магчымым. Больш таго, каланіяльная палітыка веды не пакінула нацыянальнаму руху магчымасці выбару этноніма. Яго актывістам прыйшлося змірыцца са слабай, але ўжо звыклай формай «Беларусь» пры патэнцыйнай магчымасці іншых варыянтаў, што больш дыстанцуюць ад Расіі, гэткіх як «літвіны» і «крывічы»"*[43].

Такім чынам, мы можам абгрунтавана сцвердзіць, што беларускасць як прадукт каланіяльнай палітыкі веды стала ў пэўны час найбольш пашыранай формай тутэйшай ідэнтычнасці. Аднак асаблівых прычынаў для таго, каб пыхліва выхваляцца гэтым у духу С. Дубаўца мы не бачым, бо, як не намагаліся нацыянальныя ідэолагі і актывісты напоўніць беларускасць не каланіяльным зместам, асноўным паказчыкам паспяховасці іх варыянту нацыянальнай ідэі мелася быць здабыццё ды працяглае трыманне рэальнай палітычнай ды культурнай улады. Зважаючы на гэта, паспрабуем выказацца гранічна: "заходнерускі" варыянт беларускасці аказаўся больш жыццяздольным ды запатрабаваным не толькі праз перманентную адміністрацыйную і ідэалагічную падтрымку звонку, але і праз большую адпаведнасць пачатковым мэтам ды перспектывам "чыстага" беларускага праекту як такога.

Абвінавачваюцца літвіны таксама ў "паразітаванні" на беларускіх дасягненнях, нават мове, за чым бачыцца ці не адмаўленне ў праве карыстацца яе літаратурным варыянтам. Аргумент пра мову папраўдзе бязглузды, бо як вядома, кадыфікацыя літаратурнай беларускай мовы была супольнай справай прадстаўнікоў розных культурных традыцый: літоўска-польскай, заходнерускай, уласна беларускай. Навязванне камусьці з сучасных іх прыхільнікаў ярлыка "паразіта" за факт карыстання беларускай мовай нагадвае хутчэй паранаідальнае трызненне. І забывацца пра тое, што шмат дзеля кадыфікацыі гэтай мовы зрабілі тыя, хто вельмі крытычна ставіўся да самога канцэпту беларускасці, прыкладам, Вацлаў Ластоўскі або Ян Станкевіч – прыкрая непавага да іх руплівай працы.

Пагатоў, яшчэ невядома, хто насамрэч на чым паразітуе, згадайма хаця б тую аграмадную ролю, якую выконвае вобраз літоўскай дзяржаўнасці ў фарміраванні гістарычнай памяці беларусаў або спекуляцыі адносна статусу старабеларускай мовы ў канцыляры вялікага князя ды нават герб "Пагоня", які беларусы спадкавалі ў якасці нацыянальнага сімвала менавіта з ВКЛ. Больш таго, заўважым, што беларускасць хаця б без каліва літоўскасці зноў ператвараецца ў

43 Терешкович, П. Пограничье как судьба: метаморфозы идентичности в восточноевропейском пограничье // Ab Imperio. 2009. № 1. – Рэжым доступу: http://abimperio.net/cgi-bin/aishow.pl?state=showa&idart=2379&page=2&idlang=2&Code=LpboH68iANExqnJHD5v2jnlkf.

хімеру або правінцыйную адмену "общерусскости". Апошнія 15 гадоў існавання "дэлітуанізаванай" Рэспублікі Беларусь – добры гэтаму прыклад.

### Усведамленне Літвы

Літва – гэта пачаткова балцкая этнакультурная ды палітычная супольнасць, метраполія, што лакалізавалася паміж Менскам і Коўняй, якая ў Сярэднявеччы здолела пашырыць сваю ўладу на вялізарныя абшары, стварыўшы адно з наймагутнейшых гаспадарстваў свайго часу – Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае ды інш.

Змяняючы цягам стагоддзяў свае межы, культурны ды моўны ландшафт, Літва не толькі захавала сваё этнічнае ядро, але і пакінула багатую спадчыну, спадкаемцамі якой могуць сябе лічыць прадстаўнікі некалькіх сучасных народаў: перадусім літоўцы, беларусы і літоўскія палякі.

*Літвіны, літоўцы, lietuviai* – этнонім і палітонім, які іх усіх аб'ядноўвае на розных узроўнях. Так, у розныя часы сэнс і змест гэтых найменняў не быў аднолькавы, але тут ёсць дзве стратэгіі: усяляк спрабаваць іх адасобіць адзін ад аднаго, нават проціставіць альбо, наадварот, знайсці агульную аснову, супольны грунт, з якога выраслі ўсе адмены літоўшчыны. Менавіта другую, інтэгральную візію, прыкладам, дэманстраваў адзін з прадстаўнікоў "краёвага" руху, што аб'ядноўваў нашчадкаў шляхецкай палітычнай нацыі ВКЛ, – Баляслаў Ялавецкі, які пісаў: *"Жыхар Паланґі, Коўні, Вількаміра, Свянцян альбо Вільні, Горадні, Наваградка і нават Менску ёсць літоўцам, незалежна ад таго, ці ён гутарыць па-літоўску, па-польску або па-беларуску. Увесь уклад ягонага жыцця, звычаяў, сам сэнс ягонага існавання нагэтулькі паўсюдна аднолькавы, што апрача мовы цяжка заўважыць якую-кольвек іншую розніцу. А гэта пацвярджае, што на ўсім абшары Літвы жыве адзін народ, спаяны цягам стагоддзяў супольнай крывёй літоўцаў, палякаў і беларусаў"*[44]. Блізкія погляды выказваў і Мячыслаў Давойна-Сыльвэстровіч: *"...Літоўскі народ складаецца пераважна з насельніцтва... якое гаворыць трыма мовамі... Тых, што гавораць па-літоўску і прапагандуюць гэтую сваю мову ў справе нацыянальнага адраджэння назавём літвінамі-народнікамі. Тых, што гавораць па-польску або па-беларуску, але ня ўмеюць па-літоўску, уважаючы сябе за літвінаў і спрыяючы справе адраджэння літоўскага народу назавём літвінамі-патрыётамі. Тых, што ўважаюць сябе за палякаў і беларусаў, але прагнуць згоды з літоўскімі народнікамі і*

[44] Sargas [Jałowiecki, B.]. Litwo, Ojczyzno nasza... Petersburg, 1906. S. 5–6.

*патрыётамі, працуючы над культурным, эканамічным развіццём Літвы, у якой нарадзіліся і якую палюбілі, назавём літвінамі-грамадзянамі"*[45].

Нягледзячы на тое, што ў працэсе паўстання сучасных нацый гэтая повязь была шмат у чым перарваная, а тэрыторыю былога ВКЛ шматкроць па-жывому раздзіралі дзяржаўныя межы, якіх ніколі не было раней, гэтая лучнасць працягвае існаваць ды аднаўляцца ў розных формах, у тым ліку і як тутэйшае літвінства. Таму найбольш прадуктыўным шляхам здаецца разуменне спадчыны ВКЛ не як фактару падзелу і ўзаемных прэтэнзій, што часта сустракаецца ў сённяшніх нацыянальных гістарыяграфіях і папулярных дыскусіях, але як агульнай непадзельнай скарбонкі нашай мінуўшчыны і асновы ідэнтычнасці народаў-спадкаемцаў гэтай дзяржавы.

Вялікае Княства Літоўскае дае ўнікальны прыклад рэальнай калектыўнай ідэнтычнасці з гарманічным стаўленнем да кожнай этнічнай і рэлігійнай групы. Беручы пад увагу гэтую ментальную і соцыякультурную спецыфіку тутэйшай прасторы эпох Сярэднявечча і Рэнесансу, цалкам правамерна высунуць тэзіс пра тое, што рэгіён ВКЛ з'яўляўся арганічным утварэннем, якое мае рэальную, а не сканструяваную гісторыю. "Рэгіён ВКЛ", такім чынам, варта разглядаць як нашую супольную Айчыну.

Гэта тое, да чаго апелявалі згаданыя вышэй "краёўцы", адна з ідэолагаў руху – Канстанцыя Скірмунт гэтак тлумачыла сутнасць "краёвасці": *"Краёвая ідэя ёсць гармоніяй трох адвечных народных стыхій нашага краю: літоўскага (разам з латышскім), польскага і русінскага ў іх спрадвечнай бацькаўшчыне Літве і Беларусі; яна ёсць згодай тых стыхій у супольнай грамадскай працы для агульнага дабра пры вольным і самастойным культурным развіцці кожнага з іх"*[46]. Гэта, бадай, і ёсць найбольш адэкватная формула для беларускай агульнанацыянальнай "метатэорыі". Краёвы патрыятызм, зварот да супольных традыцый, прызнанне беларускай мовы як агульнай каштоўнасці поруч з прызнаннем важнасці польскай і літоўскай моваў для Краю – гэта можа стаць падмуркам для паразумення прадстаўнікоў розных плыняў і партый.

Між іншым, у цяперашніх культурных, геапалітычных, эканамічных варунках кансерватыўны варыянт "краёвай" ідэі можа стаць сапраўдным выратаваннем для еўрапейскай, рэгіянальнай і этнічнай ідэнтычнасці. На яе грунце можна пазбыцца і недарэчных міжна-

45 M[ieczysław] D[owojna-] S[ylwestrowicz]. Litwini // Litwa. 1908. № 4. S. 49.

46 Futurus [Skirmuntt, K.]. Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wileńskiej 1905–1907 r. // Przedruki z "Kurjera Litewskiego" i "Vilniaus Žinios". Warszawa, 1907. S. 81.

цыянальных супярэчнасцяў, якія сёння на тле глабальных тэндэнцый выдаюць на самазабойчую глупоту.

Фактычна, нягледзячы на знікненне ВКЛ з палітычнай мапы, да пачатку XX ст. сённяшнія Літва і Беларусь былі часткамі аднаго этнакультурнага і геапалітычнага абшару, а нашыя народы ўтваралі адну соцыякультурную прастору, належалі да адной духоўнай, метафізічнай Айчыны. Узгадаем словы Францішка Багушэвіча, які апазнаваў беларушчыну ў межах даўняй Літвы: *"А ў сярэдзіне Літвы як тое зярно ў гарэху была наша зямліца"*[47]. Спробы знайсці ў гісторыі рэгіёну штосьці выключна беларускае або літоўскае здаюцца праявамі непавагі як да шматграннай культуры ВКЛ, гэтак і да цяперашніх народаў-суседзяў, бо соцыякультурныя структуры Вялікага Княства ёсць першаснымі і самадастатковымі ў дачыненні да цяперашніх нацыянальных дзяржаваў. Адсюль вынікае патрэба пошуку, даследавання і культывавання таго, што лучыць беларусаў, літоўцаў і літоўскіх палякаў, а менавіта, агульных этнічных вытокаў, традыцыйнай культуры, гістарычнай мінуўшчыны. Акурат тут і цяпер карыснае існаванне літвінаў з гэткім жа пакліканнем, пра якое калісь казала пані Скірмунт у дачыненні да нашай арыстакратыі: *"Мы ёсць перадусім жывою часткаю гістарычнага грамадства Літвы і Беларусі з адзінымі нацыянальнымі каштоўнасцямі ды маем абавязкі адносна яго як такога... мы ёсць вартаўнікі культуры і гістарычнай праўды, захавальнікі супольных традыцый"*[48].

Як можна заўважыць, зацятыя спрэчкі наконт ролі кожнага з нашых народаў у супольнай гісторыі насамрэч не высвятляюць ісціну, а распальваюць варажнечу, выгодную толькі знешнім сілам[49]. Менавіта таму варта адмовіцца ад нікчэмных закідаў у літоўскі бок ды пачаць замест гэтага прыязны дыялог, пры гэтым адначасна спрабуючы па-іншаму ўсвядоміць сябе, сваю краіну і народ. Беларусы, якім папраўдзе рупіць спадчына ВКЛ, не мусяць марна патрабаваць тое, чаго нібыта нехта несправядліва "пазбавіў", але павінны найперш адкрыць сапраўднага літвіна ў сабе – у сэнсе этнічным, рэгіянальным, грамадзянскім. Сцвярджаць, што літвіны ў Беларусі – гэта асобная нацыя, "мікраэтнас" і намагацца любымі метадамі адасобіцца ад беларусаў з нашага гледзішча недарэчна і контр-

47 Buraczok, M [Bahuševič, F.]. Dudka biełaruskaja. Kraków, 1891. S. V.

48 Futurus [Skirmuntt, K.]. Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wileńskiej 1905–1907 r. Przedruki z "Kurjera Litewskiego" i "Vilniaus Žinios". Warszawa, 1907. S. 52–53.

49 Пра ролю Масквы ў фарміраванні адмоўнага стаўлення да Літвы сярод беларускіх дзеячоў у 1920–1925 гг. і выкарыстанне "беларускай карты" ў эскалацыі канфлікту паміж Літвой і Польшчай гл.: Каспаравічус, А. Палітычная роля беларусаў у дыпламатычнай гульні Коўна і Масквы ў 1920–1925 гг. // Arche. 2009. № 9. С. 221–253.

прадуктыўна. Больш перспектыўнай здаецца пазіцыя паводле якой літвін – гэта найперш тутэйшы прыхільнік літоўскай традыцыі, той, хто свядома яе культывуе і працягвае. Пры гэтым рэальная ідэнтычнасць літвінаў можа грунтавацца на некалькіх падставах:

– усведамленне ўласнага балцкага (літоўскага) паходджання, незалежна ад ведання балцкай (літоўскай) мовы (як прыкладам было з польскамоўнымі літвінамі-"краёўцамі") – *gente Lithuani natione Albarutheni*;

– тэрытарыяльнае паходжанне з гістарычнага рэгіёну Літва, лакалізаванага паміж Менскам і Коўняй;

– "гістарычны" патрыятызм да Вялікага Княства Літоўскага або "рэгіёну ВКЛ", сантымент да яго традыцыі і культуры (параўн. словы князя Мацея Радзівіла, прамоўленыя ў часе нядаўняга візіту ў Беларусь: *"Зусім не важна, хто я па пашпарце – паляк, літовец ці беларус. Галоўнае, што ў сэрцы я адчуваю сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага"*[50]).

Гэтыя асновы ідэнтычнасці можна таксама дапоўніць візіяй "літоўскага свету" – *Pax Lithuanica*, які аб'яднаў бы шырэйшы абшар. У адрозненні ад Брытанскай садружнасці або франкафоннага свету тут асноўным крытэрам належнасці замест колішняй палітычнай залежнасці і панавання адзінай мовы, была б супольная гістарычная памяць, дзяржаўная ды культурная традыцыя. Да гэткага "літоўскага свету", апрача сучасных Літвы і Беларусі, што складалі ядро ВКЛ, можна было б далучыць яшчэ і Польшчу, Украіну, заходнюю частку Расіі, Латвію, Малдову.

### Літоўская традыцыя

Паспрабуем у агульных рысах акрэсліць, у чым жа караніцца літоўская традыцыя? Найперш гэта вялізарны пласт паганскай культуры ў беларуска-літоўскім краі, і хоць вынікам хросту ўрэшце стаў яго падзел на дзве часткі – праваслаўную і каталіцкую – менавіта ў дахрысціянскія часы мы можам знайсці шмат агульнага. Агульнае таксама і тое, што нягледзячы на фармальную хрысціянізацыю, наш край і дагэтуль застаецца запаведнікам спрадвечных вераванняў і ўяўленняў. З гэтага, бадай, вынікае адметнасць і унікальнасць Літвы, што дасягнула найвышэйшай магутнасці менавіта як паганская дзяржава, імперыя…

[50] Гарбузаў, В. Нашчадкі Радзівілаў дагэтуль лічаць сябе грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага. – Рэжым доступу: http://www.nv-online.info/index.php?c=ar&i=14577.

Як мяркуюць некаторыя аўтары, Літва нават мае пэўныя рысы асобнай цывілізацыі, якая паўставала яшчэ ў язычніцкія часы[51]. Гінтарас Бераснявічус вызначае у якасці яе прыкметаў гарманічную ўпісанасць у мясцовы прыродны ландшафт, спалучэнне натуральнага і культурнага: *"У цывілізацыі, да якой мы належым, не было гарадоў, метраполій, характэрных для цывілізацыі «каменю». Тым не менш, яна мае ўсе прыметы цывілізацыі. І змяшчае ў сабе іншыя прынцыпы. Яе сутнасць – беспасрэднае кіраванне стыхіямі і першаснымі элементамі. Выкарыстанне прыродных рэчаў і натуральных элементаў у будаўніцтве цывілізацыі. Гэта цывілізацыя стыхій. Не прыродны стан, у якім стыхіі ды рэчы, звяры і ворагі нападаюць як непазбежная даніна, а племя выжывае, рэагуючы, змагаючыся ў пошуках месца, сховішча і палявання ў лесе, або вандруючы ў стэпах і займаючыся жывёлагадоўляй. І не земляробства – там, дзе арашаецца ўрадлівы пласт, утвораны штогадовымі паводкамі. Мы дзейнічаем інакш. Цэглу цывілізацыі мы ствараем з прыродных элементаў. Гэта экалагічная цывілізацыя. Яе цаглінкамі было дрэва, яе цэментам – мох, зямля і пясок. <...> Мы мелі сваю цывілізацыю, таму што мелі тыя ж самыя «полісы» – нашыя гарадзішчы. Над антычнымі гарадамі, «полісамі», выраслі акропалі, над нашымі селішчамі – гарадзішчы і святыя курганы. Тры тысячы курганоў у этнічнай Літве – пірамідаў у Егіпце нашмат менш. Нас лучылі гарадзішчы, капцы, святыя месцы..."*[52].

Гэткі вобраз Літвы, які праз стагоддзі транслюецца яе традыцыяй і безадносна часу ўзнаўляецца ў самых розных формах, можна заўважыць амаль ва ўсіх мысляроў, мастакоў, літаратараў, нават палітыкаў, якія вылучаліся асаблівай чуйнасцю да духу сваёй Радзімы. Прыкладам, паводле Томаса Венцлавы, гэта выразна выяўляецца ў паэзіі Адама Міцкевіча, дзе *"землі колішняга Вялікага Княства Літоўскага служылі своеасаблівым хранатопам, сімвалічнай прасторай лясоў і азёраў, прасякнутымі духоўнымі плынямі і якія беспасярэдне межавалі з іншым светам. Гэта быў свет самоты і чароўнасці, таямнічасці і жуды, меланхоліі і трывогі..."*[53]. Падобнае пра "літоўскага песняра" мяркуе І. Марзалюк: *"Для Адама Міцкевіча вобраз старасвецкай Літвы – адназначна вобраз балцкай дзяржавы. <...> «Свае» багі – багі балцкія, літоўская мова – мова*

---

[51] Лаўрынавічус, Ё. "Даўняя" Літва як чыннік цывілізацыйнай ідэнтычнасці сучасных беларусаў і літоўцаў // Druvis. 2008. № 2. С. 127–135.

[52] Бераснявічус, Г. Чароўнасць літоўскай імперыі // Druvis. 2008. № 2. С. 219.

[53] Венцлова, Т. Еще раз о родном отечестве: Литва Мицкевича и Мицкевич в Литве. – Рэжым доступу: http://www.intelros.ru/readroom/nz/nz_56/1924-tomas-venclova.-eshhe-raz-o-rodnom.html.

*балцкая, свае спевы – то спевы вайдэлотаў"*[54]. Сапраўды, з гэтым можна згадзіцца. Але нельга згаджацца з тым, што балцкая спадчына Літвы не мае да беларусаў ніякага дачынення. Як бачым, польскасць Адама Міцкевіча не замінала яму лічыць сваёй літоўскую традыцыю, таму тут не павінна быць перашкодаў і для беларусаў.

Даследчыкі пытання хрысціянізацыі Усходняй Еўропы таксама звярнулі ўвагу на феномен рэлігійнай сітуацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, якое да Крэўскай уніі заставалася фармальна паганскім гаспадарствам. Але гэта не пярэчыла яго адэкватнаму функцыянаванню – міжнароднаму (не вяло да выключэння мірнага, у тым ліку саюзніцкага, узаемадзеяння з суседнімі хрысціянскімі краінамі і не спараджала толькі перманентную варажнечу) ды ўнутранаму (не замінала ўзаемакарыснай палітычнай і вайсковай супрацы язычніцкай Літвы ды яе эліты і хрысціянскага насельніцтва дзяржавы)[55]. Гэтая акалічнасць у купе з наяўнасцю шматлікіх элементаў паганскага паходжання ў беларускай культуры дазваляе адрынуць як няпраўдзівыя словы І. Марзалюка пра тое, што *"па-за межамі хрысціянства няма беларускага народа, няма яго высокай культуры, няма гісторыі, пісьменнасці, мастацтва, літаратуры, усяго таго, што робіць нас рэальна далучанымі да свету еўрапейскай цывілізаванасці ў трох вялікіх еўрапейскіх хрысціянскіх традыцыях – праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкай"*[56]. Без вялізарнай антычнай паганскай спадчыны ў выглядзе старагрэцкай філасофіі і мастацтва, рымскага права і палітычнай формы не было б ніякага сучаснага канону еўрапейскай цывілізаванасці, а хрысціянства засталося б адной са шматлікіх юдэйскіх сектаў.

Вядома, лацінская культура зрабіла вызначальны для далейшага цывілізацыйнага развіцця ўплыў на Літву, які абумовіў з'яўленне мясцовых кшталтаў архітэктуры, музыкі, пісьменства, адукацыі. Але зважаючы на рэлігійнае вымярэнне гэтага ўплыву (пашырэнне каталіцызму), мы не павінны абсалютызаваць яго і забывацца на адметнасць тутэйшай рэлігійнасці, якая таксама стала сінтэзам этнічнай традыцыі ды хрысціянскіх элементаў, што надзвычай яскрава бачна і сёння ў г.зв. "народным хрысціянстве" вяскоўцаў. Пры чым гэтым духоўным сінтэзам былі прасякнутыя і прадстаўнікі вышэйшых станаў грамадства, скажам, як адзін з апошніх "грама-

---

[54] Марзалюк, І. Міфы "адраджэнскай" гістарыяграфіі Беларусі. Магілёў, 2009. С. 66–67.

[55] Васильев, М. Русь в 980-е годы: выбор религиозных альтернатив. – Рэжым доступу: http://archipelag.ru/ru_mir/religio/novie-identichnosti/heathenism/choice.

[56] Марзалюк, І. Міфы "адраджэнскай" гістарыяграфіі Беларусі. Магілёў, 2009. С. 47.

дзянаў ВКЛ" Чэслаў Мілаш: *"Я быў ахрышчаны ў адной маленькай драўлянай бажнічцы, адной з тых, што будавалі здаўна ў сэрцы Літвы. Бажнічка гэтая стаяла ў атачэнні старых дубоў. Гэтыя дубы маглі яшчэ несці ў сабе той старавечны язычніцкі дух, бо Літва была апошняй хрысціянізаванай краінай Еўропы. У любым разе, я дагэтуль захаваў глыбокую веру ў міфалогію дрэваў"*[57].

Кажучы пра каталіцызм як элемент гэтага сінтэзу, мы перадусім маем на ўвазе яго рымскую сутнасць, якая не заўжды супадае з сутнасцю чыста хрысціянскай[58]. Рымская форма як адно з найвышэйшых дасягненняў індаеўрапейскай культуры заключае ў сябе ідэал дзяржавы і іерархіі, аўтарытэту і парадку, класічны стыль панавання і падпарадкавання, космасу супраць хаосу, гэта святарна-гераічны свет з пашанай да дысцыпліны, адвагі і гонару, пачуццём меры, стылістычнай і псіхалагічнай стрыманасцю[59]. Мабыць, нездарма літоўская арыстакратыя апелявала да "рымскага міфу" ўласнага паходжання, бо і яе этас шмат у чым супадаў з этасам даўніх рымлянаў. Зрэшты, як мяркуюць даследчыкі, многія элементы сярэднявечнага інстытута рыцарства (рэлігійны сэнс вайны, пасвячэнне ў рыцары, этыка вернасці, нават геральдыка) паходзяць з дахрысціянскіх часоў[60]. Літва ў гістарыясофскім сэнсе – гэта спалучэнне балта-славянскага і рымскага, матэрыі і формы, прыроды і культуры, "лесу" і "бажніцы": лесу як божага гаю і лесу барочных бажніцаў у гарадах.

Другім падставовым складнікам літоўскай традыцыі безумоўна варта назваць арыстакратызм. Уласцівы яму этас і воля сталі важнымі чыннікамі дзяржаватварэння. Менавіта гэта меў на ўвазе і адзін са слынных нашчадкаў літоўскіх ваяроў – Юзэф Пілсудскі, кажучы пра нашую супольную сталіцу Вільню: *"Незвычайная воля героеў паганскай Літвы, якія стварылі вялікую краіну ад мора да мора, ад муроў Масквы да берагоў Віслы, воля вялікіх рыцараў, вялікіх у дзівоснай згодзе Кейстута і Альгерда, вялікіх у сваіх*

---

57 Чеслав Милош: Мир после изгнания... – Рэжым доступу: http://magazines.russ.ru/vestnik/2005/16/mi21.html.

58 Параўн.: "Мы сцвярджаем, што трэба адрозніваць хрысціянства ад каталіцызму. Хрысціянства як такое, то бок у сваім пачатковым семіцкім аспекце, знаходзіцца ў містычнай адпаведнасці з учорашняй французскай рэвалюцыяй і сённяшнім станам сацыялізму і камунізму. Хрысціянства як каталіцкая царква, наадварот, часткова пераняла формы паганска-рымскага парадку..." (Эвола, Ю. Языческий империализм. М., 1992. С. 15).

59 Падрабязней пра рымскую форму гл.: Эвола, Ю. Лук и булава. СПб., 2009. С. 233–256; Эвола, Ю. Традиция и Европа. Тамбов, 2009. С. 207–211.

60 Кардини, Ф. Истоки средневекового рыцарства. М., 1987; Элиаде, М. История веры и религиозных идей, т. III. От Магомета до Реформации. М., 2002. С. 88–89; Пенник, Н., Джонс, П. История языческой Европы. СПб., 2000. С. 276.

*спрэчках Вітаўта і Ягайлы – воля збудавала гэтыя сцены, узвяла падмуркі нашага гораду, зрабіла яго сталіцай...”*[61].

Літва ў сваім дзяржаўным увасабленні паўставала як працяг даўняй індаеўрапейскай ваярскай традыцыі. Літоўская эліта не толькі паспяхова аб’яднала пад сваёй уладай асноўную частку земляў колішняга балцкага арэалу, яна ўдала скарысталася ўжо гатовымі формамі дзяржаўнай арганізацыі, а таксама культурнымі дасягненнямі суседніх рускіх княстваў. Арыстакратычны стан даўняй Літвы гартаваўся ў шматлікіх войнах, яго высокі культурны ўзровень фарміраваўся на грунце найлепшых дасягненняў еўрапейскай адукацыі, навукі, мастацтва. Сучаснаму беларускаму грамадству гэтага вельмі бракуе, бо месца годнай ваяўнічасці, адвагі занялі прафанічная рахманасць і прыстасавальніцтва. У звязку з гэтым тутэйшы літвінізм можна разглядаць не толькі як з’яву, што беспасярэдне вырастае з дзяржаўнага самавызначэння шляхты Вялікага Княства Літоўскага[62], але і як ідэю, што мае сярод сваіх найважнейшых асноваў арыстакратычныя каштоўнасці.

Такім чынам, формула літоўшчыны павінна ўлучаць названыя вышэй элементы: *“Літва мае два бакі – гэта і вясковая культура, якая захоўвае дахрысціянскія звычаі, але ж гэта і рыцарская дзяржава, заснаваная на прынцыпах шляхецкай высакароднасці і арыстакратычнай мужнасці. Два твары Януса злучаюцца ў адзінае цэлае”*[63]. Але якім ёсць стасунак гэтай традыцыі з іншымі, чаму мы кажам пра прыярытэт літоўшчыны і вяртанне ёй належнага становішча ў беларускім грамадстве?

Як слушна заўважаў італьянскі традыцыяналіст Юліус Эвола: *“У кожнай гістарычнай нацыі не заўсёды можна казаць пра «традыцыю» ў адзінкавым ліку. <...> Амаль заўжды працэсы, што разгортваюцца ўнутры нацыі цягам стагоддзяў, маюць комплексны характар і адзначаныя разнастайнасцю фактараў ды ўплываў, якія могуць як дапаўняць, гэтак і, наадварот, узаемна пярэчыць і нейтралізаваць адзін аднаго. Фактары, што пераважаюць у гэты момант, могуць праз пэўны час перайсці ў латэнтны стан, ды наадварот, і толькі састарэлы «гістарызм» па-ранейшаму намагаецца звесці ўсю складанасць гэтага працэсу да просталінейнага развіцця <...> больш вольны погляд можа выявіць у гісторыі*

---

[61] Pilsudski, J. Przemówienie z okazji przekazania władzy nad Wileńszczyzną Rzeczypospolitej Polskiej i Trzeciej Rocznicy zdobycia Wilna (20 kwietnia 1922) // J. Pilsudski. Wybór pism. Wrocław, 2003. S. 187.

[62] Янковіч, А. Анталогія літвінізму: крыніцы, ідэя, рэалізацыя // Палітычная сфера. 2006. № 6. С. 11.

[63] Ластоўскі, А. Міф пра вечнае вяртанне Літоўскай імперыі. – Рэжым доступу: http://arche.by/by/9/20/331.

*канкрэтнай нацыі розныя, часам супярэчлівыя магчымасці, якія пэўным чынам адлюстроўваюць гэткія ж адрозныя «традыцыі» <...> менавіта ў пераломныя, крызісныя часы, якія патрабуюць рэакцыі, здольнасці валадарыць, арганізацыі на аснове цэнтральнай ідэі адасобленых і няўстойлівых народных сілаў, паўстае пытанне пра выбар традыцыі. Ва ўласнай мінуўшчыне патрэбна адшукаць ідэі, найбольш сугучныя тым людзям, якія ў падобныя моманты павінны стаць пачынальнікамі новага цыклу"*[64].

Дакладна ў пераломныя, крызісныя часы літоўская традыцыя ў нас становіцца найбольш актуальнай, патрэбнай. Між іншым, гэта надзвычай трапна адчуў і выявіў у паэтычнай форме Максім Багдановіч у вершы "Пагоня", што з'яўляецца ў момант трывогі ды прадчування небяспекі: *"Толькі ў сэрцы трывожным пачую / За краіну радзімую жах, – / Ўспомню Вострую Браму святую / І ваякаў на грозных канях. / Ў белай пене праносяцца коні, – / Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць... / Старадаўняй Літоўскай Пагоні / Не разбіць, не спыніць, не стрымаць"*.

Здаецца, што падобныя адчуванні зусім невыпадковыя і адсылаюць нас да архетыпавага узроўню свядомасці. Герб "Пагоня" – выява белага вершніка з узнятым мячом на чырвоным фоне як сімвал літоўскай традыцыі і дзяржаўнасці караніцца ў індаеўрапейскай/балта-славянскай міфа-паэтычнай мадэлі свету. Ён сімвалізуе, з аднаго боку, пэўны ўнутраны стан чалавека, які можна апісаць як рыцарскі дух высакароднага ваяра, а з іншага – звязаны з гэтым станам нейкі звышчалавечы, звышнатуральны чыннік, у крытычны, пераломны, вырашальны момант (у "агоніі") пэўнага працэсу – звычайнай прыроднай навальніцы, хваробы, змагання, вайны, усяго чалавечага жыцця, складанага гістарычнага перыяду, цэлага касмічнага цыклу і выступае ў якасці "памагатага з неба", азначае канец "агоніі" ды наканаванне яе станоўчага зыходу[65].

Трансляцыю гэтага сімвала і той традыцыі, з якой ён атаясамляецца, можна прасачыць і ў грамадска-палітычным вымярэнні. Эпахальныя моманты беларускага нацыянальнага станаўлення заканамерна звязаныя як з вонкавымі іх праявамі (дзяржаўная сімволіка, агульны гістарычны і культурны наратыў), гэтак і з унутранымі (свядомая і падсвядомая маніфестацыя літоўшчыны сярод беларусаў). Акурат тут і палягае водападзел, які дазваляе нам казаць пра аўтэнтычнасць літоўскай традыцыі і хімерычнасць заходнерускай. Першая паўставала як сінтэз, кампраміс спачатку з русінскай, затым з польскай дзеля ўмацавання дзяржаўнасці і палітыч-

[64] Эвола, Ю. Люди и руины. Критика фашизма: взгляд справа. М., 2007. С. 101.

[65] Разаўскас, Д. Белы вершнік з узнятым мячом на чырвоным фоне. Сімволіка герба Вялікага Княства Літоўскага // Druvis. 2008. № 2. С. 137–155.

най стабільнасці, пры гэтым дазваляла існаванне розных канфесій, этнасаў, ідэнтычнасцяў у адрозненні, скажам, ад палітычных і культурных рэаліяў Масковіі. Нягледзячы на эпізоды канфрантацыі, рушчына ў даўняй Літве папраўдзе квітнела і яе заняпад збольшага звязаны з праблемамі ўнутры самой русінскай эліты ВКЛ.

Іншая сілкавалася рэлігійным сепаратызмам і лаяльнасцю да Расіі, якая наўпрост прычынілася да канчатковага знікнення ВКЛ праз акупацыю Рэчы Паспалітай, непрыязным стаўленнем да "нярускіх" элементаў, шавінізмам, які падрываў этнічны і сацыяльны баланс у краі. Паказальная таксама сітуацыя, што склалася ў першай чвэрці XX ст.: "заходнерусы" за рэдкім выняткам не бачылі ніякай магчымасці для незалежнага ад Расіі існавання беларускага народу, "літвіны" актыўна супрацоўнічалі з беларускім нацыянальным рухам і дзейнічалі разам з ім дзеля дасягнення палітычнай незалежнасці. Зрэшты, і сёння рэха літоўшчыны найбольш чутнае ў асяроддзі беларусаў-"незалежнікаў", а "заходнерускія" погляды вельмі пашыраныя сярод прарасійскай часткі грамадства.

Літоўская традыцыя як складнік беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці – гэта наймацнейшы сродак супраць найбольш небяспечнай з'явы – татальнай русіфікацыі, а вось "русіны" і "заходнерусы", як паказвае гісторыя, на жаль, не маюць моцнага імунітэту ад калабарацыі з усходнім суседам.

### Метафара імперыі

Развaжанні пра харызматычны "дыскурс Беларусі" або "кісла-салодкі кактэйль", якія згадваліся намі ў пачатку гэтага артыкулу, выдаюць на праявы паразніцкай эгалітарысцкай філасофіі. Нацыянальная, дзяржаўніцкая ідэя заўсёды мела і павінна мець уласны стрыжань, ідэйны, культурны і палітычны асяродак, які арганізуе вакол сябе ўсе астатнія абсягі. Беларускасць нараджалася на скрыжанні культурных, рэлігійных, геапалітычных уплываў, што, як нам здаецца, і абумовіла яе супярэчлівасць, нявызначанасць, фрагментарнасць.

Ёсць некалькі выйсцяў з гэтай сітуацыі. Адно з іх – спрабаваць палюбіць нясмачны кактэйль і следам за В. Акудовічам абвясціць, што *"Беларусь ніколі не будзе толькі беларускай!"*, ды гэтак далікатна прызнаць сваю нягегласць або, наадварот, удзельнічаць у жорсткім змаганні за права вызначаць змест ды акцэнты беларушчыны ажно да прэтэнзій на выключнасць і гегемонію ў яе асадах. Апошні варыянт мы можам назіраць зараз, бо ў нашай дзяржаве пануе памяркоўная версія "заходнерусізму", з іншага флангу да яе далучаюцца свядомыя "русінскія" гісторыкі і публіцысты,

прасавецкімі студэнтамі быў адчынены Клуб-чытальня, дзе можна было знайсці беларускую прэсу. У большасці сваёй змест мерапрыемстваў, арганізаваных прасавецкімі таварыствамі, сапраўды спрыяў развіццю беларускай самасвядомасці. Беларускія студэнты прыхільна ставіліся да культурна-асветніцкіх пачыннанняў “Маладняка” і “Грамады”.

Актыўная дзейнасць прасавецкіх арганізацый выклікала занепакоенасць іншых груп беларускай дыяспары (Беларускага сялянскага саюза ў Празе, прыхільнікаў эсэраўскага накірунку, якія раней уваходзілі ў АБПС, Беларускай Рады ў Празе). Колішнія ворагі, у першую чаргу Т. Грыб і Я. Станкевіч, знайшлі паразуменне і прышлі да высновы аб неабходнасці стварэння апалітычнай культурна-асветніцкай арганізацыі, якая б магла канкураваць с прасавецкімі арганізацыямі. Вынікам стала заснаванне ў маі 1925 г. Беларускага (Крывіцкага) культурнага таварыства імя Францыска Скарыны, якое ўзначаліў малады таленавіты гісторык М. Ільяшэвіч. На паседжаннях таварыства чыталіся даклады і рэфераты, адбываліся дыскусіі. У 1926 г. Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Францыска Скарыны было зарэгістравана пры АБСА як культурная ўстанова, якая аб’ядноўвае беларускую моладзь з рознымі палітычнымі поглядамі. Найбольш прадуктыўны перыяд дзейнасці дадзенай арганізацыі прыйшоўся на першую палову 1930-х гг.

Палітычная неаднароднасць у асяроддзі беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі паўплывала на характар выдавецкай дзейнасці. Амаль што кожная арганізацыя мела свой друкаваны орган. Але з-за пастаянных праблем з фінансаваннем многія часопісы выходзілі нерэгулярна.

Я. Станкевіч быў ініцыятарам выдання часопіса “Беларускі студэнт”, сем нумароў якога выйшла ў 1923 г. Часопіс меў кансерватыўна-каталіцкі, антыпольскі і антысавецкі характар. На старонках “Беларускага студэнта” былі прадстаўлены навукова-папулярныя артыкулы па беларусістыцы, празаічныя творы маладых аўтараў, змешчана хроніка беларускага жыцця ў Чэхаславакіі, а таксама інфармацыя пра становішча ў Заходняй Беларусі і БССР.

Студэнты, якія ўваходзілі ў АБПС, выдавалі “Перавясла”. Усяго свет пабачыла 2 нумары часопіса (у канцы 1923 г. і ў пачатку 1924 г.). Часопіс быў створаны па ініцыятыве У. Жылкі, І. Дварчаніна і Т. Грыба, якія і прынялі самы актыўны ўдзел у яго выданні. “Перавясла” стаў пляцоўкай для выказвання інтарэсаў левасацыялістычнай моладзі. Выдаўцы “Перавясла” стаялі на пазіцыі, што “беларускі нацыянальны рух ёсць разам з тым і класавы рух, рух беларускіх сялян і работнікаў”[20].

[20] Ад рэдакцыі // Перавясла. 1924. № 2. С. 2.

Па ініцыятыве Т. Грыба ў 1920-я гг. у Празе выдаваўся “Бюлетэнь Заграні́чнай групы беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў”. Гэты часопіс рэпрэзентаваў пазіцыю Замежнага бюро БПС-Р.

Намаганнямі П. Крэчэўскага ў студзені 1926 г. быў надрукаваны “Бюлетэнь Рады Беларускай Народнай Рэспублікі”, у якім даказвалася нелегітымнасць Берлінскай канферэнцыі 1925 г. і дэкларавалася права Рады БНР на чале з П. Крэчэўскім прадстаўляць “цэлую этнаграфічную Беларусь”[21]. Пад яго ж рэдакцыяй у 1926 г. у свет выйшаў зборнік беларускай гісторыі, культуры і эканомікі “Замежная Беларусь”.

У 1926–1927 гг. былі выдадзены тры нумары часопіса “Прамень”. Гэтае выданне выходзіла па ініцыятыве прасавецкі настроеных беларускіх студэнтаў. Рэдактарам “Праменя” з’яўляўся У. Жылка. Першы нумар часопіса быў прысвечаны беларускай палітычнай эміграцыі, другі – праблемам сучаснай чэшскай культуры, трэці – палітыка-эканамічным праблемам.

Сябры Беларускага (Крывіцкага) культурнага таварыства імя Францыска Скарыны выдавалі часопіс “Іскры Скарыны”, які ў адпаведнасці з планамі рэдакцыі павінен быў стаць часопісам “беларускага маладога думаючага жыцця”[22]. Выйшла пяць нумароў (тры – у 1931 г., два – у 1933 г.). Часопіс крытычна аналізаваў палітычную сістэму СССР і нацыянальную палітыку бальшавікоў. Акрамя гэтага, у “Іскрах Скарыны” асвятлялася жыццё беларускай дыяспары ў ЧСР. Падрыхтоўкай і выданнем часопіса займаліся Ф. Грышкевіч, Т. Грыб, В. Русак.

Апошнім беларускім перыядычным органам, які выходзіў у Чэхаславакіі быў “Бюлетэнь Аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый”. На працягу 1931–1933 гг. было выдадзена пяць нумароў часопіса. У “Бюлетэні” друкаваліся матэрыялы з жыцця АБСА, а таксама крытычныя артыкулы адносна сталінскай палітыкі ў СССР.

У Чэхаславакіі канцэнтравалася не толькі палітычнае жыццё дыяспары. Тут праводзілася агромністая навукова-даследчыцкая праца, прычым у адмыслова створаных інстытуцыях.

У лістападзе 1927 г. пры Украінскім сацыялагічным інстытуце ў Празе быў створаны Беларускі навуковы кабінет (БНК), які ўзначаліў Т. Грыб. БНК займаўся збіраннем і сістэматызацыяй матэрыялаў па гісторыі, літаратуры, мастацтву, геаграфіі, эканоміцы Беларусі, а таксама вяліся навуковыя даследаванні. Супрацоўнікамі БНК быў падрыхтаваны да выдання зборнік “Запіскі Беларускага навуковага кабінета”, у які ўвайшлі артыкулы Т. Грыба, М. Чарнецкага, І. Сла-

[21] Дакумэнт // Бюлетэнь Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. 1926. № 1. С. 3.

[22] Ад рэдакцыі // Іскры Скарыны. 1931. № 1. С. 1.

неўскага, М. Ільяшэвіча, С. Бусла, прысвечаныя пытанням гісторыі, сацыялогіі, антрапалогіі і эканомікі Беларусі[23]. З-за адсутнасці грошай гэты зборнік не быў надрукаваны. Па той самай прычыне БНК у 1930 г. спыніў сваю дзейнасць, а яго навуковыя і архіўныя матэрыялы былі перададзены ў фонды Славянскай бібліятэкі і Беларускага загранічнага архіва (БЗА) ў Празе.

БЗА працягнуў рабіць працу, якую распачаў БНК. Архіў быў створаны па ініцыятыве М. Вяршыніна ў 1928 г. і афіцыйна падпарадкоўваўся МЗС Чэхаславакіі, з фондаў якога і фінансаваўся. Галоўнай мэтай БЗА з'яўлялася збіранне і захаванне матэрыялаў па гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Архіў меў чатыры аддзелы: дакументаў, перыядычных выданняў, беларускай бібліяграфіі і бібліятэку беларусазнаўства. Пасля смерці М. Вяршыніна ў 1934 г. пасаду дырэктара БЗА заняў Т. Грыб, які значна актывізаваў яго дзейнасць. У БЗА захоўваліся матэрыялы Рады БНР, дыпламатычных місій БНР, архівы беларускіх замежных арганізацый, партый, успаміны, біяграфіі, перапіска беларускіх дзеячаў, беларускія часопісы і газеты 1920–1930-х гг., гістарычная бібліяграфія і картатэка па ўсіх пытаннях беларусазнаўства, беларускія выданні пра Беларусь на іншых мовах.

Беларусы ў Чэхаславакіі вызначыліся таксама на акадэмічнай глебе. Нягледзячы на тое, што большасць беларускіх студэнтаў асвойвала тэхнічныя і медыцынскія спецыяльнасці, найбольшыя поспехі былі дасягнуты прадстаўнікамі гуманітарных спецыяльнасцяў. Доктарскія і магістэрскія працы беларускіх студэнтаў, напісаныя і абароненыя падчас навучання ў Карлавым універсітэце, можна лічыць сапраўдным унёскам у развіццё беларусістыкі. Гэта тычыцца навуковых даследаванняў Я. Станкевіча "Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом" (1926), Т. Грыба "Праблемы фармавання народа і нацыі" (1928), І. Дварчаніна "Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст" (1925), М. Ільяшэвіча "Культурна-геаграфічны характар Беларусі" (1928), І. Сланеўскага пра дачыненні Вялікага Княства Літоўскага з Чэхіяй у XV–XVI стст., М. Чарнецкага "Польска-маскоўская вайна ў 1632–1634 гг.". Я. Станкевіч і М. Ільяшэвіч актыўна супрацоўнічалі з чэшскімі навуковымі і энцыклапедычнымі выданнямі, змяшчалі там артыкулы па беларускай праблематыцы. У 1930 г. на чэшскай мове выйшла кніга М. Ільяшэвіча "Беларусь і беларусы"[24]. Т. Грыб пэўны час узнача-

---

23 Ляхоўскі, У. Чэхія і беларускі вызвольны рух у першай трэці XX ст. // Białoruś w XX stoleciu. W kręgu kultury i polityki / pod red. D. Michaluk. Toruń, 2007. S. 516–517.

24 Там жа. S. 516.

льваў кафедру беларусазнаўства, якая дзейнічала пры Украінскім вышэйшым педагагічным інтстытуце імя М. Драгаманава.

У заключэнне трэба адзначыць, што ў адрозненні, напрыклад, ад Францыі ці Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе была сканцэнтравана беларуская працоўная эміграцыя, Чэхаславакія з'яўлялася інтэлектуальным асяродкам дыяспары, дзе віравала палітычнае жыццё, сутыкаліся розныя палітычныя ідэалогіі, ствараліся значныя культурныя каштоўнасці.

Імклівыя нацыястваральныя працэсы пачатку 1920-х гг. выявілі праблему недахопу кадраў беларускай інтэлігенцыі, неабходнасць у якіх была бясспрэчнай як у Заходняй, так і ў Савецкай Беларусі. Канструяванне нацыянальнай эліты было вельмі актуальным, патрабавала неадкладнага вырашэння. Практычная немагчымасць паступлення ў універсітэты Польшчы, а таксама пэўныя абмежаванні ў доступу да вышэйшай асветы ў БССР, значна запавольвалі працэс стварэння ўласнай эліты. Чэхаславакія з яе магчымасцямі атрымаць вышэйшую адукацыю спрыяла вырашэнню гэтай праблемы.

Лідэры розных плыняў беларускага нацыянальнага руху былі зацікаўлены ў пашырэнні ўплываў на беларускую студэнцкую моладзь Чэхаславакіі, бачылі іх спадкаемцамі і прадаўжальнікамі распачатай справы, разумелі патэнцыял еўрапейскай адукацыі і карысць прымянення яе на Бацькаўшчыне.

Неабходна ўлічваць, што беларускі нацыянальны рух таго часу не быў аднародны, існавалі розныя групы, кожная з якіх змагалася за ўплывы на беларускую грамаду ў Чэхаславакіі. Апроч таго "буржуазна-нацыяналістычныя" арыентацыі беларускай дыяспары выклікалі вялікую перасцярогу і заклапочанасць у кіраўніцтва БССР, вынікам чаго стала правядзенне палітыкі па "драбленню" дыяспары і "вярбоўка беларускай студэнцкай масы ў сваю арбіту ўплыву". Сутыкненне "БНР versus БССР" мела вызначальны ўплыў на грамадска-палітычнае жыццё і ідэалагічную арыентацыю беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі ў 1920-х гг.

Ва ўяўленнях беларусаў Чэхаславакія з'яўлялася толькі часовым месцам знаходжання. Абсалютная большасць пасля атрымання вышэйшай адукацыі вярталася на Радзіму. Тыя ж, хто заставаўся, сачылі за падзеямі на Бацькаўшчыне і не гублялі надзеі на вяртанне (праўда, звязвалі сваё вяртанне са зменай улады).

Беларуская калонія ЧСР была хутчэй заангажаваная ў беларускую рэчаіснасць, чым у чэшскую. Дзякуючы ліберальным умовам, якія стварылі чэхаславацкія ўлады, беларусы, так бы мовіць, штучна стварылі сваю ўласную рэальнасць з наяўнасцю розных суполак і арганізацый, якія адпавядалі тым, што існавалі на Бацькаўшчыне. Асабліва гэта датычыцца перыяду 1920-х гг. У 1930-я гг. вектар

трохі змяніўся. Беларуская калонія ўжо хутчэй канструявала сабе ідэальна-ўяўны вобраз Радзімы. І гэта дапамагала супрацьстаяць працэсу натуралізацыі і спрыяла захаванню ўласнай нацыянальнай ідэнтычнасці.

Калі перыяд 1921–1927 гг. у жыцці беларускай дыяспары ў Чэхаславакіі можна ахарактарызаваць як “час супрацьстаяння і барацьбы”, то для 1927–1938 гг. больш падыходзіць азначэнне – “перыяд прымірэння і засяроджвання на стваральнай працы”. Менавіта ў канцы 1920-х гг. былі створаныя навукова-даследчыя інстытуцыі (Беларускі навуковы кабінет і Беларускі загранічны архіў у Празе) па ўсебаковым даследаванні Беларусі.

Беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі ў пэўным сэнсе прэзентавала беларускія інтарэсы за мяжой. Адназначна пазітыўным нам бачыцца ўдзел Аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (цэнтральны орган беларускага студэнцтва Заходняй Беларусі і эміграцыі) у міжнародным студэнцкім руху, што спрыяла падняццю прэстыжу беларускага студэнцтва ў свеце.

Важную справу рабіла Беларуская Рада ў Празе, інфармуючы міжнародныя арганізацыі (Ліга Нацый і інш.) і еўрапейскія краіны аб становішчы беларускай меншасці ў Польшчы, а таксама аб сітуацыі ў БССР (знішчэнне беларускай інтэлігенцыі ў 1930-я гг., гвалтоўная калектывізацыя і інш.). Беларусы прадуктыўна супрацоўнічалі (напрыклад, дзейнасць Сацыялістычнай лігі Новага Усходу) з прадстаўнікамі ўкраінскай, расійскай, армянскай і інш. дыяспар у Чэхаславакіі. Да таго ж беларуская дыяспара мела сталыя кантакты з чэхаславацкімі ўладамі, а таксама праводзіла вялікую працу па азнаямленню чэшскага грамадства з гісторыяй і традыцыямі беларускага народу.

Чэхаславацкія беларусы зрабілі вялікі ўнёсак у развіццё нацыянальнай культуры. У гэтай краіне навучаліся, рабілі першыя крокі, прафесійна загартоўваліся і самааддана працавалі вядомыя палітычныя, культурныя і грамадскія дзеячы Беларусі: М. Абрамчык, Я. Бабровіч, Т. Грыб, І. Дварчанін, В. Жук-Грышкевіч, У. Жылка, М. Ільяшэвіч, А. Клімовіч, Л. Краскоўская, Л. Рыдлеўскі, І. Сланеўскі, Я. Станкевіч, М. Чарнецкі ды інш.

# Лёс ізаляваных меншасьцяў: Лужыца – Падляшша

Кірыл Касьцян

Часопіс Belarusian Review, вэб-рэдактар.

Сфера навуковых зацікаўленняў: араўнаўчае і канстытуцыйнае права краінаў ЦУЕ, істытуты ЕС, пашырэнне і замежная палітыка ЕС, трансфармацыі і дэмакратызацыя ў ЦУЕ з асаблівай увагай на міжнародныя арганізацыі, міжэтнічныя дачыненні і прававыя аспекты рэгіянальнага развіцця

### Rjana Łužica

Лужыца месьціцца ў паўдзённа-ўсходнім куце Нямеччыны і ёсьць месцам, дзе зыходзяцца дзьве вялікія плыні эўрапейскай цывілізацыі – германская і славянская. Жыцьцё на памежжы – на ростанях – вельмі моцна адбілася на гістарычным лёсе тамтэйшага аўтахтоннага народу – лужыцкіх сэрбаў (таксама вядомых пад назвамі сорбы ці лужычане). Апынуўшыся на заходнім ускрайку славянства, яны так і не змаглі дамагчыся незалежнасьці ці якой-кольвек палітычнай аўтаноміі. Сёньня лужыцкіх сэрбаў, народу з амаль 500-гадовай літаратурнай традыцыяй, засталося толькі каля 50 тыс. І гэты малы аскепак калісьці вялікага народу можа цалкам анямечыцца на працягу колькіх наступных пакаленьняў. Што праўда, такія трывогі небеспадстаўна выказваліся ўжо некалькі стагодзьдзяў – на працягу ўсяе “нямецкае” гісторыі лужычанаў аж да нашых дзён. Але, на жаль, гэтыя трывогі не знаходзілі паразумення з боку ўладаў, і лічба лужыцкіх сэрбаў на працягу ўсіх гэтых часоў няўхільна меншала, а тэрыторыя іх кампактнага расьсяленьня за гэты час скурчылася да адносна невялікіх славянскіх выспачак у нямецкім культурным моры. Бачачы гэта, міжволі пранікаешся думкай, што такі самы лёс мог бы напаткаць і беларусаў. Тут сапраўды пачынаеш разумець, наколькі важная дзеля захаваньня народу ня толькі нацыянальная ідэнтычнасьць улучна з мовай, але магчымасьць разьвівацца ў межах нацыянальнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі.

### Лужыцка-падляскія паралелі

Разважаючы пра лёс лужыцкіх сэрбаў ад другое паловы XX ст. узьнікае шмат паралеляў зь беларусамі Беласточчыны. І першыя, і другія воляй лёсу і “Вялікіх дзяржаваў” апынуліся ў фактычнай іза-

ляцыі, калі разьлічваць можна было толькі на самых сябе. Лужыца засталася ў складзе Савецкага акупацыйнага сэктару ў Нямеччыне. Спробы прыяднацца да культурна блізкай Чэхаславаччыны або атрымаць незалежнасьць ці хоць бы аўтаномію так і засталіся марамі. У выпадку беларусаў перадача Беласточчыны Польшчы азначала скасаваньне ўсялякіх кантактаў паміж БССР і беларусамі Падляшша, што пакідала апошніх сам на сам з польскай большасьцю ў ПНР.

Абедзьве групы налічвалі паводле розных падлікаў аж да паўмільёны асобаў кожная і былі падзеленыя канфэсійна, прычым у кожным выпадку канфэсійны падзел меў рэгіянальныя асаблівасьці. Гэтыя канфэсійныя падзелы мелі істотнае значэньне ў захаваньні нацыянальнай тоеснасьці абедзьвюх групаў.

Сёньня лужыцкія сэрбы ёсьць пераважна каталікамі ў Горнай Лужыцы з цэнтрам у Будзішыне, а таксама й эвангелікамі на іншых сорбскіх тэрыторыях, у тым ліку ў Дольнай Лужыцы з цэнтрам у Хошэбузе. Тыя апошнія яшчэ сто гадоў таму складалі чыстую бальшыню сярод лужычанаў, але пры гэтым даволі лёгка і хутка германізаваліся. Сярод каталікоў такой асыміляцыі не назіралася, і таму можна цалкам справядліва казаць, што каталіцызм стаў адным з стрыжняў ідэнтычнасьці лужычанаў.

У беларусаў Беласточчыны назіралася падобная сытуацыя. Пераважна каталіцкія рэгіёны Сакольшчыны і Аўгустоўшчыны даволі хутка палянізаваліся, а вось праваслаўнае насельніцтва вакол Гайнаўкі і Бельску здолела захаваць сваю беларускасьць. Нездарма, дзеля шмат каго ў кантэксьце Падляшша словы “беларускі” і “праваслаўны” мелі сынанімічнае значэньне.

### “Ад родных ніў, ад роднай хаты...”

Паваеннае разьвіцьцё гэтых абедзьвюх этнічных групаў ва ўмовах усталяваньня сацыялізму мае шмат агульнага. У міжваеннай Польшчы і нацыстоўскай Нямеччыне з розных прычынаў беларусы і лужычане былі грамадзянамі другога гатунку. За камуністамі, аднак, і беларусы, і лужыцкія сэрбы атрымалі роўныя магчымасьці з прадстаўнікамі этнічнай большасьці адпаведна Польскай Народнай Рэспублікі (ПНР) і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі (ГДР).

Тут, аднак, варта адзначыць розную сытуацыю ў падыходзе да нацыянальнай палітыкі ў ПНР і ГДР. Лужычане змаглі аднавіць дзейнасьць “Дамавіны” – арганізацыі, якая задзіночвае ўсе сорбскія аб’яднаньні, і гэта ўжо праз два дні пасьля заканчэньня Другой усясьветнай вайны. Фактычна, можна прызнаць, што сорбскі рух ішоў здолу. Гэткі расклад вымагаў ад усходненямецкіх камуністаў пры-

няцця існай сытуацыі і працы з тым, што ёсьць. У выпадку зь беларусамі сытуацыя была зусім іншая. Ад пачатку польскія камуністы ня надта розьніліся ў сваёй палітыцы ад уладаў II Рэчы Паспалітай, праводзячы палітыку жорсткай асыміляцыі датычна нацыянальных меншасьцяў і забараняючы якія-кольвек спробы беларусаў наладзіць сваё нацыянальнае жыцьцё. Пэўныя крокі да лібэралізацыі адбыліся адно ў 1950-х. Менавіта тады ў Польшчы на падставе формулы "адна меншасьць – адна арганізацыя" былі створаныя арганізацыі нацыянальных меншасьцяў. Сярод якіх было і Беларускае грамадзка-культурнае таварыства (БГКТ), якое аб'ядноўвала ўсе арганізацыі польскіх беларусаў. Як бачым, адрозьненьне беларусаў Падляшша ў тым, што іх арганізацыя была дазволеная "споверх", а таму ад пачатку дзейнічала на ўмовах, пастаўленых польскімі ўладамі.

Але найістотнейшым фактам, які лучыць лужычанаў і польскіх беларусаў, ёсьць тое, што і "Дамавіна", і БГКТ былі падкантрольныя міністэрствам унутраных справаў адпаведна ГДР і ПНР. Гэткая інстытуцыяналізацыя разам з поўнай фінансавай залежнасьцю арганізацыяў меншасьцяў ад уладаў ня толькі ператварала і "Дамавіну", і БГКТ у выканаўцаў "лініі партыі" сярод акрэсьленай групы насельніцтва, але і стварала дадатковыя магчымасьці дзеля кантролю за меншасьцямі. У такой сытуацыі дарма казаць пра якія-кольвек роўныя магчымасьці дзеля супрацы паміж кіроўнымі элітамі і прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў.

Апісаныя вышэй палітычныя чыньнікі, аднак, мусяць разглядацца поруч з эканамічнымі. Сацыяльная эмансіпацыя лужыцкіх сэрбаў і польскіх беларусаў за камуністычных рэжымаў адкрыла для іх роўныя магчымасьці з прадстаўнікамі тытульных нацыяў адпаведна ГДР і ПНР. Гэтыя магчымасьці, аднак, былі прадстаўлены не адпаведным групам, але індывідам, што дзеялі як частка тагачаснай палітычнай сыстэмы, а не этнічнай групы. Іншым істотным чыньнікам было паваеннае разбурэньне традыцыйнага ладу жыцьця як беларусаў Падляшша, так і лужыцкіх сэрбаў праз індустрыялізацыю, "рацыяналізацыю" сельскай гаспадаркі, сэкулярызацыю і урбанізацыю. Пераезд у польскамоўны ці нямецкамоўны горад дзеля кар'еры азначаў для беларуса ў ПНР ці лужыцкага сэрба ў ГДР паскораную асыміляцыю часта коштам адмовы ад уласнай этнічнай ідэнтычнасьці, а найперш ад роднай мовы, калі не асабіста, то ўжо ў наступным пакаленьні.

У выпадку з лужычанамі сытуацыя пагаршалася наяўнасьцю радовішчаў бурага вуглю, які здабываўся і дагэтуль здабываецца адкрытым спосабам. Гэта прывяло да частковага зьнішчэньня традыцыйнай структуры паселішчаў, асабліва ў ваколіцах Хошэбузу і

Воерацаў, што разам з наплывам нямецкамоўных перасяленцаў толькі паскорыла працэсы германізацыі.

Такім чынам, і ў Лужыцы, і на Падляшшы камуністычнае кіраваньне спрычынілася да дэградацыі традыцыйных сацыяльных структураў. Замест гэтага адбылася інстытуалізацыя і цэнтралізацыя нацыянальнага жыцьця як лужыцкіх сэрбаў, так і польскіх беларусаў. Розьніца была толькі ў тым, што спачатна незалежная лужыцкая “Дамавіна” была падпарадкавана дзяржаўнымі структурамі, а БГКТ – наўпрост створана зьверху. Такім чынам, гэтыя “нацыяльныя паводле формы і сацыялістычныя паводле зьместу” арганізацыі каардынавалі культурныя патрэбы адпаведных меншасьцяў і дзеялі цалкам залежна ад дзяржавы. У сваю чаргу, стварэньне роўных магчымасьцяў з прадстаўнікамі тытульных нацыянальнасьцяў у сацыялістычных грамадзтвах ГДР і ПНР, што, безумоўна, можна трактаваць як станоўчы крок, спрычынілася да далейшай індывідуалізацыі прадстаўнікоў лужыцкай і беларускай меншасьцяў.

Аднак ва ўмовах разбурэньня традыцыйных сацыяльных структураў і паскораных урбанізацыі і індустрыялізацыі гэткая індывідуалізацыя зазвычай дапамагала хутчэйшай асыміляцыі лужычанаў у ГДР і беларусаў у ПНР. Пры гэтым і беларуская, і лужыцкая культуры былі зьведзеныя да нейкага рэгіянальнага калярыту, што выяўляўся найперш праз вясковы фальклёр. Таму, пэўна, найтрапнейшым азначэньнем вынікаў сацыялістычнай палітыкі датычна лужыцкіх сэрбаў і польскіх беларусаў будзе купалаўскі вобраз “раскіданага гнязда”.

### “Раскіданыя гнёзды”

Сёньня і аб’яднаная Нямеччына, і Польшча ёсьць чальцамі Эўразьвязу, а таксама Рады Эўропы. Таму стандарты аховы правоў нацыянальных меншасьцяў у гэтых дзьвюх краінах прынамсі фармальна адпавядаюць “агульнаэўрапейскім”. Пытаньне, аднак, у эфэктыўнасьці гэтых самых нормаў датычна Лужыцы і Падляшша. Насамрэч, заканадаўства ў сфэры правоў нацыянальных меншасьцяў тычыцца найперш ня толькі і ня столькі індывідаў, колькі групаў асобаў, што вылучаюцца на падставе іх меншай колькасьці ў параўнаньні зь іншымі групамі, ад якіх яны розьняцца мовай, культурай і традыцыямі. Адным з найістотнейшых пунктаў дзеля аховы правоў нацыянальных меншасьцяў ёсьць запабяганьне іх асыміляцыі і якіх-кольвек захадаў у зьменах этнічных прапорцыяў у месцах кампактнага пражываньня нацыянальных меншасьцяў.

Аднак наўрад ці гэтыя законы ў стане прадугледзіць дыспрапорцыі ў эканамічным разьвіцьці рэгіёнаў. Пры гэтым раёны кампакт-

нага расьсяленьня як беларусаў у Польшчы, так і лужыцкіх сэрбаў у Нямеччыне даволі доўгі час належаць да найбольш праблемных. Адсутнасьць пэрспэктываў на “малой радзіме” выклікае адток насельніцтва, асабліва моладзі, у пошуках лепшага жыцьця. У выніку перад беларусамі Падляшшы і лужыцкімі сэрбамі лунае несуцяшальная пэрспэктыва канчатковай асыміляцыі на працягу некалькіх наступных пакаленьняў.

Такім чынам, сёньняшняя сытуацыя беларусаў Падляшша і лужычанаў мусіць разглядацца ў пэрспэктыве небясьпекі канчатковай асыміляцыі, а таму ўсе канцэпцыі эканамічнага і культурнага разьвіцьця рэгіёнаў, дзе кампактна пражываюць лужыцкія сэрбы і польскія беларусы, мусяць улічваць гэтую небясьпеку. Як падкрэсьлівалася вышэй, напрыканцы эпохі камунізму ў ПНР і ГДР стан абедзьвюх грамадаў можна было акрэсьліць як “раскіданыя гнёзды”. Людзей меншала з прычыны асыміляцыі і міграцыі ў іншыя рэгіёны ў пошуках лепшай будучыні, але існыя тады інструментальныя асновы нацыянальнага жыцьця беларусаў Падляшша і лужычанаў дазвалялі казаць пра даволі высокі ўзровень сацыяльнай мабілізацыі абедзьвюх групаў.

### **“My črjódka smy...”**

У выпадку з лужычанамі аб’яднаньне Нямеччыны прынесла больш магчымасьцяў дзеля іх удзелу ў палітычным жыцьці. Даволі адметным зьяўляецца той факт, што задзіночаная нямецкая дзяржава фактычна пераняла найлепшы даробак заканадаўства ГДР датычна аховы лужычанаў, што было адлюстравана яшчэ ў Дамове аб аб’яднаньні Нямеччыны. Здавалася б, што стандарт праўнай аховы лужычанаў і іх культуры падвышаны, аднак шэраг чыньнікаў даволі моцна падважвае гэтыя добрыя запачаткаваньні.

Першым чыньнікам ёсьць агульнае ўспрыняцьце сорбскасьці (т.б. лужыцкай мовы) ў рэгіёне Лужыцы. З аднаго боку, можна казаць пра высокі ўзровень прыняцьця дзьвюхмоўнасьці сярод нямецкага насельніцтва рэгіёну. Зь іншага боку, суіснаваньне лужыцкай і нямецкай моваў у рэгіёне адбываецца ў такі спосаб, што чыстая большасьць тутэйшых немцаў толькі зрэдку маюць дачыненьне з лужыцкай мовай, а выкарыстаньне лужыцкай у іх прысутнасьці стварае ў мясцовых немцаў уражаньне таго, што іх наўмысна спрабуюць выключыць з размовы. Такім чынам, прымаючы сам факт існаваньня лужыцкай мовы ў гэтым рэгіёне і яе візуальнай прысутнасьці на шыльдах і ў інфармацыйных паведамленьнях, тутэйшыя немцы не разглядаюць яе ў кантэксьце міжэтнічных кантактаў. Гэтае месца належыць выключна нямецкай мове, што сьведчыць пра існаваньне

ў Лужыцы двух паралельных нацыянальных жыцьцяў – лужыцкага й нямецкага. Аднак, калі сярод лужыцкіх сэрбаў ступень прыняцьця нямецкай мовы ў сацыяльных кантактах даволі высокая, то сярод немцаў ступень прыняцьця сорбскай мовы вельмі нізкая.

Другім чыньнікам ёсьць разьвіцьцё лужыцкай культуры. Так, лужычане маюць сваё школьніцтва і культурныя інстытуцыі – тэатры, ансамблі. З аднаго боку, гэта кажа пра паўнавартаснае культурнае жыцьцё маленькага народу, але зь іншага – паўстае "фальклярызаванае" ўяўленьне пра лужычанаў з-за іхных даволі адметных народных строяў і традыцыі размалёўваць велікодныя яйкі-пісанкі. У зьвязку з гэтым вельмі трапнай падаецца фраза, сказаная кіраўніком "Дамавіны" Янам Нукам у 2008 г. пра тое, што лужычане "ня ёсьць фальклёрнай групай, што размалёўвае велікодныя яйкі, але народам, культура якога зьнікне без дапамогі"[1].

Насамрэч, лужыцкая культура цалкам залежная ад фінансавай дапамогі дзяржавы і фэдэральных земляў. Нягледзячы на тое, што аніхто не адмаўляе яе ўнікальнасьці, у рэальнасьці сытуацыя выглядае вельмі супярэчліва. Спробы пашырыць выкарыстаньне лужыцкай мовы ў нямецкамоўным школьніцтве праз праграму "Witaj"[2] прынамсі блякнуць на тле закрыцьця некалькіх базавых сорбскіх школаў. Улады тлумачаць такія свае дзеяньні малой колькасьцю вучняў і адпаведнай немэтазгоднасьцю ўтрыманьня школы. Аднак выкарыстаньне палажэньня аб мінімальнай колькасьці вучняў датычна сорбскіх школаў падаецца цалкам няслушным.

Гэтаксама такая сытуацыя выклікае сумневы ў поўным разуменьні з боку нямецкіх уладаў розных узроўняў усіх праблемаў, якія паўсталі перад лужыцкай культурай. Яскравым прыкладам такога "неразуменьня" ёсьць недафінасаваньне сорбскіх культурных інстытуцыяў, што сталася вынікам спрэчак паміж фэдэральным цэнтрам і дзьвюма землямі, дзе жывуць лужычане. Няздольнасьць уладаў хутка разьвязаць фінансавыя праблемы выклікала ў 2008 г. пратэсты лужычанаў, што ўвасобіліся ў адпаведны мэмарандум, зьвернуты да кіраўнікоў усіх краінаў-чальцоў ЭЗ, які заклікаў да перагляду падзелу кампэтэнцыяў на карысьць фэдэральнага ўраду і да падвышэньня праўнага статусу "Дамавіны". Такім чынам, ужо сама наяўнасьць такога канфлікту выклікае пытаньне аб агульнай эфэктыўнасьці адміністрацыйнага падзелу Нямеччыны ў кантэксьце праблематыкі лужыцкіх сэрбаў.

---

[1] Арыгінальны нямецкі тэкст: "Wir sind keine eiermalende Folkloregruppe, sondern ein Volk, dessen Kultur ohne Hilfe untergeht".

[2] Праект, накіраваны на пашырэньне дзьвюхмоўнай адукацыі на лужыцкай і нямецкай мовах у дзіцячых садках і школах у Лужыцы.

Менавіта таму з другога чыньніку вынікае трэці і апошні, але, бадай, найістотнейшы – палітыка. У задзіночанай Нямеччыне лужычане апынуліся падзеленымі паміж дзьвюма фэдэральнымі землямі – Брандэнбургіяй і Саксоніяй. Нягледзячы на шырокія паўнамоцтвы земляў у сфэры культуры і заканадаўчае замацаваньне правоў лужычанаў у абедзьвюх зь іх, справы, што тычацца лужыцкіх сэрбаў, зазвычай вымагаюць каардынацыі паміж дзьвюма землямі, а адсутнасьць кансэнсусу можа спрычыніцца да праблемаў з фінансаваньнем, акрэсьленых вышэй.

Больш эфэктыўным падаецца адміністрацыйны падзел Нямеччыны, дзе б тэрыторыі кампактнага пражываньня лужычанаў апынуліся ў межах аднае фэдэральнай зямлі. Ідэальным выйсьцем магло б стаць стварэньне афіцыйна дзьвюхмоўнай фэдэральнай зямлі Лужыца/Лаўзіц, аднак такі варыянт падаецца абсалютна нерэалістычным. Па-першае, працэс зьменаў існых межаў ці стварэньня новых земляў Нямеччыны – вельмі складаны і вымагае палітычнае волі і жаданьня насельніцтва. Аднак як адсотак лужычанаў сярод жыхарства гэтых дзьвюх земляў, так і тэрыторыя іх кампактнага пражываньня – адносна невялікія. Па-другое, у такім выпадку паўстане пытаньне эканамічнай мэтазгоднасьці стварэньня новай фэдэральнай зямлі, хоць бы з тае прычыны, што Лужыца належыць да праблемных рэгіёнаў. Па-трэцяе, на дадзены момант самі лужычане не высоўваюць такіх патрабаваньняў. Тым ня менш падаецца мэтазгодным перагледзець існы статус Лужыцы ў межах дзейнага адміністрацыйнага падзелу ў такі спосаб, каб тэрыторыі кампактнага пражываньня лужычанаў атрымалі пэўную юрыдычна замацаваную ступень палітычнай аўтаноміі, а ня толькі вылучаліся сваёй дзьвюхмоўнасьцю.

Гэткае, магчыма непапулярнае і эканамічна немэтазгоднае, рашэньне мусіць быць палітычным, а ягоная аргумэнтацыя мае цалкам базавацца на неабходнасьці захаваньня лужычанаў і іх мовы ад канчатковай германізацыі, а таксама наданьня дадатковага моцнага імпульсу дзеля разьвіцьця гэтага славянскага народу як неад'емнага складніку этнічнай мазаікі шматкультурнай і шматмоўнай Эўропы.

### "Найбольш талерантная нацыя"

Калі ў выпадку з лужычанамі сытуацыя даволі акрэсьленая, то з беларусамі Падляшша ня ўсё так ясна. Адразу варта адцеміць, што калі колькасьцю насельніцтва і эканамічным патэнцыялам Беласток выклікае пэўныя асацыяцыі з Хошэбузам, то Гайнаўку можна параўнаць з Будзішынам. Сапраўды, амаль цалкам спалянізаваны Беласток з афіцыйнымі 2,5% беларусаў нагадвае амаль цалкам аня-

мечаны дольналужыцкі Хошэбуз, дзе лужычанаў налічваецца каля 1% прыкладна на 100 тыс. жыхароў. Тым ня менш Беласток быў і застаецца адным з найважнейшых беларускіх культурных і выдавецкіх цэнтраў па-за межамі беларускай дзяржавы.

Гледзячы на адсотак беларусаў у Гайнаўцы і прылеглых гмінах, падаецца, што ў бліжэйшай пэрспэктыве менавіта гэты горад мог бы стаць падляскім Будзішынам. Імаверна, што менавіта праз падвышэньне ролі Гайнаўкі будзе магчыма вярнуць прынамсі штосьці з амаль страчанай беларускай часткі аблічча Беластока. Таму спачатку зробім невялічкі экскурс у 1990-я і сфакусуемся на Беластоку, які ў самой Беларусі зазвычай атаясамляецца зь "беларускай сталіцай" Польшчы.

Важна адзначыць, што стартавыя ўмовы беларусаў былі нашмат горшыя за лужычанаў. Пытаньне тут ня толькі ў ніжэйшых стандартах нацыянальнай палітыкі ПНР у параўнаньні з ГДР, але ва ўспрыняцьці беларусаў. Саркастычны пасаж аўтарства Яўгена Мірановіча, вынесены ў загаловак гэтай часткі, зьявіўся ў 2004 г. у беластоцкай "Ніве". Паводле Мірановіча, у Беластоку карыстаньне беларускай мовай у грамадзкіх месцах у Беластоку з-за адпаведнай рэакцыі крэсавых патрыётаў "некаторымі лічыцца праявай адвагі, іншымі – шаленства, а яшчэ іншымі – правакацыі".

Сугучнымі такому стаўленьню грамадзтва былі і захады беластоцкіх каталіцкіх уладаў. Сярод іншага варта прыгадаць ўрачыстасьці, што адбыліся ў 1997 г. з нагоды 250-годзьдзя наданьня Беластоку гарадзкіх правоў, калі аніяк не было згадана пра ролю беларусаў і праваслаўных у гісторыі места. Нездарма антыбеларускія захады рэгіянальных уладаў у Беластоку выклікалі шмат крытыкі, у тым ліку з боку такіх інтэлектуалаў, як Ежы Гедройць, які ў сваім апошнім прыжыцьцёвым інтэрвію падкрэсьліў: "Лічу, што мы ажыцьцяўем найгоршую палітыку адносна беларускай меншасьці. Гэта прыносіць нам шкоды"[3]. У гэты шэраг варта ўпісаць розныя ацэнкі, якія палякі і беларусы даюць дзейнасьці былога польскага "антыкамуністычнага падпольля" (прыкладам чаго ёсьць справа Рамуальда Райса[4]).

---

3 Арыгінальны польскі тэкст: "Uważam, że prowadzimy jak najgorszą politykę w stosunku do mniejszości białoruskiej. To przynosi nam szkody".

4 Былы жаўнер Арміі Краёвай, вядомы пад мянушкай "Буры", адказны за спаленьне больш за дзесятка вёсак на Беласточчыне і за забойства іх жыхарства на падставе іх беларускай нацыянальнасьці і праваслаўнага веравызнаньня. Сярод злачынстваў Райса найбольшы розгалас атрымаў растрэл 30 беларускіх фурманаў у лесе каля вёскі Старыя Пухалы Бельскага павету 30 студзеня 1946 г.

Такім чынам, нягледзячы на наяўнасьць беларускага школьніцтва, культурных акцыяў, мэдыяў і выдавецкай дзейнасьці, на момант далучэньня Польшчы да Эўразьвязу даволі цяжка было казаць пра нейкія якасныя зрухі ў стаўленьні да беларускай меншасьці як на побытавым узроўні, так і сярод значнай часткі мясцовых уладаў.

Ад 1 траўня 2004 г. Польшча стала часткай ЭЗ. Аднак і тут ня надта выпадае казаць пра якаснае зьмяненьне стаўленьня да беларускасьці на Падляшшы. Нягледзячы на тое, што ў Польшчы быў нарэшце прыняты Закон "Аб нацыянальных і этнічных меншасьцях і рэгіянальнай мове", які дазваляе выкарыстаньне беларускіх назваў для паселішчаў, вуліцаў ці аб'ектаў, а таксама дае магчымасьць для замацаваньня за беларускай мовай статусу дапаможнай у гмінах, дзе беларусы складаюць прынамсі 20% насельніцтва, гэта не азначае рэальнае выкарстаньне беларускай мовы. Хоць згодна з законам і вынікамі перапісу 2002 г. такія правы маюць 12 гмінаў Падляскага ваяводзтва, на сёньня толькі ў 4 зь іх беларуская мова была ўведзеная ў якасьці дапаможнай, і анідзе не выкарыстоўваюцца беларускамоўныя назвы населеных пунктаў і вуліцаў.

Такая сытуацыя вынікае з фармулёўкі закону, дзе напісана, што мова меншасьці ня мусіць, але толькі "можа выкарыстоўвацца". Гэткі падыход сьведчыць, што польскія ўлады не разглядаюць у якасьці імпэратыву ўвядзеньне мовы меншасьцяў на тэрыторыі іх кампактнага пражываньня. Беручы пад увагу вынікі перапісу 2002 г. (згодна зь якім беларусаў у Польшчы налічваецца трошкі менш за 50 тыс.), вынікі якога былі моцна скрытыкаваныя прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў, можна ставіць пад пытаньне саму эфэктыўнасьць згаданага закону, асабліва тых ягоных палажэньняў, што накіраваныя на запабяганьне "асіміляцыі асобаў, прыналежных да меншасьці" і "зьмены нацыянальных ці этнічных прапорцыяў на тэрыторыі пражывання меншасьці".

Іншым чыньнікам ёсьць агульнае стаўленьне да беларускай мовы ў Польшчы. Нягледзячы на наяўнасьць уласнай беларускай меншасьці, у беларуска-польскіх дачыненьнях як на ўзроўні дзяржавы, так і на ўзроўні грамадзянскай супольнасьці дамінуюць расейская і польская мовы. Такім чынам, роля беларускай мовы ў гэтым працэсе зазвычай звужаецца да правінцыйнасьці, фальклёрнасьці ці апазыцыйнасьці, што аніяк не спрыяе падвышэньню яе статусу. З іншага боку, паўстае пытаньне, ці гатовае польскае грамадзтва, асабліва на рэгіянальным узроўні, спакойна ўспрыняць кірылічныя надпісы на беларускай мове ў месцах кампактнага пражываньне беларускай меншасьці? У сьвятле апісаных праблемаў вакол беларускасьці ў Беластоку ня надта верыцца ў тое, што польскае грамадзтва сасьпела для гэтага.

Апошні, але найважнейшы чыньнік ёсьць чыньнік палітычны, які мае два бакі – унутраны і вонкавы. Улічваючы сучасны напружаны стан беларуска-польскіх дачыненьняў на міждзяржаўным узроўні, пра беларускую меншасьць у Польшчы можна казаць як пра закладнікаў гэтай сытуацыі. У іншых палітычных умовах можна было б чакаць іншай ступені супрацоўніцтва паміж беларусамі Падляшша і беларускай дзяржавай, але ані гісторыя, ані палітыка ня церпяць умоўнага ладу. Фармальна галоўным двухбаковым дакумэнтам, які спрыяе ахове правоў польскіх беларусаў, ёсьць беларуска-польская Дамова "Аб добрасуседзтве й супрацоўніцтве" ад 1992 г. Але гэтая дамова прадугледжвае хутчэй маральную падтрымку з боку беларускай дзяржавы, бо Падляшша зьяўляецца часткай Польшчы, а тамтэйшыя беларусы – яе грамадзянамі, з чаго вынікае вяршэнства польскага права на гэтай тэрыторыі.

Аднак, у цяперашняй сытуацыі, калі даволі шмат гаворыцца пра хуткую асыміляцыю беларусаў на Падляшшы, вельмі важнае значэньне мае ўнутраны палітычны чыньнік. Апошні польскі перапіс паказаў, што менавіта беларусы маюць найбольшы тэрытарыяльны патэнцыял у Польшчы, канцэнтруючыся пераважна ў Гайнаўскім і ўсходняй частцы Бельскага паветаў. Таму ва ўмовах дзейнага польскага права аб нацыянальных меншасьцях і адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле можна было б ініцыяваць экспэрымэнт у выглядзе стварэньня беларускага нацыянальнага павету з цэнтрам у Гайнаўцы з шырокай ступеньню самакіраваньня, дзе білінгвізм быў бы рэальным і візуальна бачным.

Такое, магчыма непапулярнае і эканамічна нерэнтабельнае, разьвязаньне праблемы мусіць грунтавацца найперш на разуменьні неабходнасьці эфэктыўнага захаваньня беларускай меншасьці і іх мовы на Падляшшы. Менавіта такі сцэнар у пэўнай ступені пераклікаецца з думкамі Ёжы Гедройця пра ролю Падляшша як своеасаблівага Пьемонту для адбудовы нацыянальнай і дэмакратычнай Беларусі.

### "Haj, stój w žołmach časow, ludo mały!.."

Разьвіцьцё Падляшша і Лужыцы ў паваенны час мае шмат падабенстваў. Аднак сучасны стан лужыцкіх сэрбаў і падляскіх беларусаў, нягледзячы на даволі высокую ступень сацыяльнай мабілізацыі кожнай з групаў, мусіць разглядацца праз пэрспэктыву канчатковай асыміляцыі, а таму ўсе канцэпцыі эканамічнага і культурнага разьвіцьця абодвух рэгіёнаў мусяць улічваць гэтую небясьпеку.

Абедзьве групы ёсьць унікальнымі складовымі ня толькі нямецкай і польскай, але і эўрапейскай культурнай прасторы. Аднак

цяперашні стан абедзьвюх грамадаў вымагае большай ступені падтрымкі. Падаецца слушным ня проста ўтрыманьне культурніцкіх інстытуцыяў беларусаў Падляшша і лужыцкіх сэрбаў, але і стварэньне іх нацыянальна-тэрытарыяльных адзінак у межах існага нямецкага і польскага заканадаўства з поўнай павагай да тэрытарыяльнай цэласьці гэтых краінаў і максымальнай падтрымкай лужыцкай і беларускай культураў і моваў. Гэткая “палітызацыя” дазволіць прыпыніць асыміляцыю на стадыі, калі прыпыніць яе яшчэ не запозна, і ў такі спосаб захаваць гэтыя дзьве ўнікальныя аўтахтонныя славянскія культуры ня толькі ў кантэксьце адпаведнага рэгіёну, але і цэлай Эўропы.

*Научное издание*

# БЕЛАРУСЬ В ЕВРОПЕЙСКОМ КОНТЕКСТЕ: АКТУАЛЬНЫЕ ДИСКУССИИ О НАЦИОСТРОИТЕЛЬСТВЕ

Сборник научных трудов

Редакторы: *О. Шпарага, А. Смоленчук*
Ответственный за выпуск *Л. Малевич*
Корректор *М. Тэйлик*
Технический редактор *О. Малевич*
Дизайн обложки *С. Жданович*

Издательство
Европейского гуманитарного университета
г. Вильнюс, Литва
www.ehu.lt
e-mail: publish@ehu.lt